Першая
кніга
празаіка

# ІВАН КАПЫЛОВІЧ



# СОНЦА САДЗІЦЦА Ў ТРАВЫ

Апавяданні



Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1978

## Зноў дома

Не даязджаючы кіламетраў колькі да Чарніц, Андрэй сышоў з аўтобуса. Яму захацелася прайсці трохі пехатою, падыхаць лесам, пабыць сам-насам са сваімі думкамі.

Хоць ён і вырас у тутэйшых месцах і аббегаў, здаецца, калі быў пастушком, усе сцежкі ў лесе, па якіх зараз ішоў, ведаў усе дуплы і гнёзды на кожным дрэве, ранейшыя месцы сёння здаваліся амаль незнаёмымі. Ён быццам упершыню ішоў пратаптанымі вузкімі сцежкамі. Мо таму, што некалі маладыя сасонкі і дубы выцягнуліся, падраслі, і Андрэй проста іх не пазнаваў, бо апошнім часам тут не хадзіў і не ездзіў. Праўда, сцежкі трохі пазнаваў. Яны мала змяніліся: пераплеценыя карэннямі дрэў, перапавітыя доўгімі павадамі старога верасу, дзеразы, з зялёнымі грыўкамі кароткага падарожнага моху, са слядамі капытоў статка, які заўсёды, калі толькі сыходзяць снягі, пасвіцца тут.

Наступаючы на мяккі мох, на дзеразу, што густа ўкрылі сцежку, Андрэй згадваў, як ён хадзіў у грыбы, крочыў неаднойчы з вёскі на шлях, галасаваў першаму спадарожнаму «газіку» і трусіўся ў кузаве да Мазыра, куды даводзілася часцяком ездзіць, каб купіць што-небудзь на ногі або па адзежыну ці яшчэ што. У Мазыры тых магазінаў на кожным кроку, заўсёды можна выбраць усё, што табе трэба.

З пяцярых дзяцей ён у бацькі самы старэйшы. Ну, і як старэйшаму яму болей за ўсіх і пападала. І ўсё праз работу, якой у дамашняй гаспадарцы хапала ў кожную пару года: вясною — соткі, агарод; летам —

1*

статак, сена; увосень — уборка, грыбы; зімою — дровы. Самым жа галоўным яго клопатам і заняткам было пасвіць кароў.

Тое здарылася неяк на пачатку восені. Пагнаў ён статак сюды, у Вілкі. У Вілках добрыя выпасы, а крушыны, на якой восенню паспяваюць ягады і да якіх вельмі падкая скаціна, гэтай крушыны ў Вілках ну проста цэлыя зараснікі.

Да абеду ўсё было добра. А пад самы абед Андрэй выгнаў увесь статак на невялікую палянку, пералічыў і, налічыўшы трыццаць галоў, спакойна прылёг на краі палянкі на верас, развязаў хатуль, што насіў за плячыма з абедам, і стаў палуднаваць. Папалуднаваўшы — заснуў.

Праспаў ён быццам і нядоўга. Але калі прачнуўся, ніводнай каровы на паляне не ўбачыў: статак разбрыўся па крушынніку, аб гэтым ён здагадаўся адразу ж, бо з хмызняку да яго даносілася ціхае патрэскванне сухога галля, на якое наступалі каровы.

Сонца пачынала заходзіць, і ён кінуўся ў хмызняк, стаў выганяць кароў на чыстае, на палянку. Пакуль выганяў-збіраў статак па адной карове, сонца села зусім нізка, схавалася за лесам. А восенню ж так: не паспела схавацца сонца, а тут і ноч абдымае наваколле.

Андрэй спешна стаў пералічваць статак. Канчаў лічыць і пачынаў зноў тое ж самае ў другі, у трэці раз... І чым далей лічыў, тым мацней нагортвалася на душу трывога, дрыжалі ад хвалявання вусны, і ён ледзь не плакаў: у статку не хапала адной каровы. Стрымліваючы слёзы і плач, што ўсё вырываліся з грудзей, ён перастаў лічыць статак на лічбы, а пачаў згадваць, чыя карова ёсць, а чые няма, і хутка да яго дайшло: Еўжына карова недзе зашылася-загубілася. Высветліўшы гэта, ён нядобра вылаяўся: «Каб цябе ваўкі за-

душылі, пачвара ненатольная». Вылаяўся і тут жа сумеўся, сцепануўся: «Ой, ды што ж гэта я, тут жа Вількі, тут жа ваўкоў і папраўдзе як тых нярэзаных сабак». Падумаў пра гэта і бездапаможна апусціўся-сеў на зямлю, разрумзаўся, слёзы, буйныя і гарачыя, густа пацяклі па абедзвюх яго шчоках. Ён цяпер не стрымліваў іх, не мог саўладаць з сабою некалькі кароткіх хвілін.

Больш за ўсё ў тыя хвіліны ён дараваць сабе не мог, чаму так спакойна заснуў, забыўшыся пра статак, пра тое, што ён не дзе-небудзь, а ў Вілках. Вількі ж у Чарніцах ведаў кожны: у той гушчарэчы, казалі, вадзіліся звяры, а больш за ўсіх тыя хмызы аблюбавалі ваўкі, бо чалавек рэдка калі туды заходзіў. І толькі пастухі ўлетку і ўвосень гналі туды статкі. Пільнаваць статкі, праўда, даводзілася як след. Бо калі адаб'ецца карова ці бычок, ваўкі заўсёды ўпільнуюць і пакладуць.

Трохі саўладаўшы з сабой, Андрэй падхапіўся з зямлі, пабег у хмызняк. Бег, не бачачы перад сабой ні кустоў, ні ажынніку, які моцна і балюча ўпіваўся ў рукі і ногі. Галіны маладога лазняку і вербалозу, крушынніку хвасталі яму ў твар, але ён нічога гэтага не чуў. Ён толькі прабяжыць-прабяжыць, пагукне: «У-у-г-гу-го-о, Пшэйка, Пшэ-э-йка-а-а». Пагукне, спыніцца, услухаецца ў рэха, якое далёка і трывожна прабяжыць па ўсім лесе: «У-у-у-о, п-э-э-а-а».

Толькі дарма ён стараўся перакрычаць сваё рэха — карова не адзывалася на яго пагукванне...

Ён гнаў статак дадому, а сэрца так і ёкала: тое, што бацькава папруга паходзіць па ім, здавалася, не вельмі турбавала яго. Болей за ўсё хвалявала і не давала супакою другое: слёзы ды голас Еўгі, у якой двое дзяцей. Гадавала іх яна без мужыка, бо ён з вайны не вярнуўся. Карова для Еўгі, разумеў Андрэй, як і для кожнага ў вёсцы, карміліца і паіліца. Без свайго малака паспра-

буй пражыві, ды яшчэ з малалеткамі, тады, у пасляваенныя галодныя гады.

Мо з тыдзень шукалі як не ўсім сялом загубленую Еўжыну карову. З канца ў канец па ўсіх Вілках чуліся людскія галасы, пагукванні. Балюча і прыкра станавілася Андрэю ад тых галасоў, галава яго балела ад бяссонніцы, крыўды. Ён хадзіў па Вілках разам з усімі. Усё не губляў надзеі знайсці карову: былі ж выпадкі, што і цэлымі тыднямі прападала чыя-небудзь жывёліна, якая адбівалася ад статка і траплялася пасля. Але рэдкі і адчайны Еўжын голас-плач, што раздаўся ў Вілках на шосты дзень пошукаў, пазбавіў яго той надзеі. Андрэй кінуўся на той голас, які бы нажом разануў яго па сэрцы. Калі прыбег, убачыў: над нерухомым трупам каровы на каленях стаяла Еўга. Яна горка плакала, плакала, як па жывому чалавеку: «Ах, карміцелька ж ты мая, і як жэ я цяпер без цябе бу-у-ду-у...»

Андрэй, па-летняму апрануты, у картовай шапцы-кепцы, дзіравых ля падэшвы кірзачах, стаяў збоку людскога гурту, што акружаў Еўгу, якая доўга не магла суняцца ад плачу, крычала-білася ля зарэзанай ваўкамі каровы. Смешна, але ён тады думаў, што вырасце, заробіць грошай і купіць цётцы Еўзе другую карову.

Аб'едзены ваўкамі шкілет каровы закапалі ў Вілках, у хмызах. І калі ўсе пайшлі дадому, бацька ні слова не сказаў Андрэю, не папракнуў і не ўшчуваў яго. І людзі нічога не казалі яму, казалі толькі, што нельга далей адных падпаскаў пускаць са скацінай на пашу, трэба, каб толькі з дарослымі пасвілі хлапчукі, добра пільнавалі кароў.

— Дай пілнуй не пілнуй, а ваўка не ўпілнуеш, такое можа і з любым дарослым здарыцца,— супакоіў Андрэя дзядзька Рыгор, далёкі бацькаў родзіч, які жыў на другім ад іх канцы сяла.— Аблаву на іх, падлюк,

трэба, паболей аблаў, то, мажа, яны трохі і прысмірэюць, а то пасля вайны спасу ад іх няма.

Па дарозе да Ёўгі падышоў Андрэеў бацька. Ёўга болей не плакала, разгублена маўчала, ссунуўшы на самыя вочы белую ў крапінку хустку-рэзанку.

— Праўду кажэ сват Рыгор,— звярнуўся Раман, Андрэеў бацька, да маўклівай Ёўгі,— такое ліхо, хіба хто хацеў яго?

Ёўга паглядзела на Рамана, цяжка ўздыхнула.

— Не думайце, дзядзечко, што крыўду на вас ці вашаго Андрэя затаіла. Не! То, мамуць, доля ў мяне такая: з вайны мужыка не даждаласа, а цяпер во і гадуй як можэш двое дзеток, калі і без карца малака асталаса, тут і так нішчымніца адна.

— Му не якія там злыдні, памогом, у мяне кароўка доіцца, дзякуй богу, то падзелімса, не чужые ж, дай суседзі,— сказаў Раман і паглядзеў на Андрэя.— А ты, сынку, коб не забуваў — кажыннай ранічкай двохлітровую гладышачку малака цётцы Ёўзі заносіў.

Андрэй нічога не сказаў, у знак згоды з бацькавымі словамі кіўнуў галавою: «Канечне, тата, буду насіць, а як жэ...»

Ідзе зараз Андрэй праз Вілкі ў Чарніцы, перакладвае з адной рукі ў другую чамадан, ручка якога моцна ўпіваецца ў далоні, у пальцы, углядваецца ў лес, поле, што свеціцца за сасоннікам. Лес прыкметна парадзеў, тоўстых сосен і дубоў амаль не відно. «Людзі будуюцца, калгас вунь колькі настроіў усяго,— думаў Андрэй,— а якая будоўля без лесу абыдзецца?» Падумаў так, але ў душы жыла нейкая трывога: «Усё-такі лес гэта лес, у ім птушкі водзяцца, і грыб з ягадай вырасце, ды і таму ж зверу без лесу не выжыць — лес яго напоіць, накорміць, ад холаду зберажэ».

Яго думкі пра лес перапыніліся, ён убачыў вераб'я, што купаўся на дарозе ў пяску. «Парыць жа каторы

дзень,— прамільгнула думка,— бач вунь, як трава перасохла, ломіцца пад нагамі, бы шкарлупінне з-пад курынага яйка. І лісці на дрэвах пажухлі, абвіслі, калі б дожджык лінуў — усё ажыло б...»

Але тут, у лесе, усё ж было чым дыхаць. Пасля горада, ды асабліва пасля цеснага аўтобуса, у якім не было дзе не тое што сесці, а і стаць, Андрэй пачаў адчуваць, як паступова адыходзіла ад санлівай млявасці галава, як напаўнялася ўсё цела жывой сілай.

Не заўважыў, як мінуў лес, вялікую палянку, пасярэдзіне якой адзінока стаіць нізкая сукаватая сасна. За той палянай негусты хмызок, а за хмызком ужо віднеецца вёска — Чарніцы.

Паставіўшы чамадан на зямлю, Андрэй прыклаў даланю да лба, закрываючыся ад сонца, якое апусцілася зусім нізка і свяціла проста ў вочы. Вёску ён пазнаваў і не пазнаваў: то тут, то там бялелі свежымі кроквамі і латамі новыя зрубы з цёмнымі зеўрамі пустых аканіц. А ў самым цэнтры сяла паявіліся двух- і трохпавярховыя будынкі з балконамі, на якіх сохла развешаная бялізна. І фермы калгаснай з прыгуменнем не аказалася на ранейшым месцы — яна перамясцілася сюды, пад лес, у шырокія і доўгія цагляныя хлявы, якія ўсе называюць невядомым раней словам «комплекс».

Бацькава хата стаяла ў самым канцы сяла — з чорнымі ад часу і дажджоў сценамі, патрэсканымі вянкамі-бярвеннямі, з шырокімі варотамі, што трымаліся на тоўстых і высокіх шулах. Узяўшы зноў у рукі чамадан, Андрэй прыбавіў кроку.

Але па вуліцы ён зноў пайшоў цішэй: каб паболей убачыць і пачуць. Ён заўважыў: вуліца, на якой жыве яго бацька, бы пашырала — зараўнялі яму-канаву, што пасля вайны немаведама для чаго капалі як не ўсім сялом. І не стала вузкакалейкі, якая рассякала сяло на два рукавы.

Тыя Чарніцы і не тыя, бо шмат ён убачыў перамен. І ў той жа час усё было тут, у вёсцы, як і раней — у кожным двары шырокія вароты, каб можна праехаць і падводай, і аўтамашынай ці трактарам. І платы тыя ж: з высокага штыкетніка, які кверху завостраны, бы пікі — каб дзеці не лазілі ў агарод, сад. Як і некалі, без усялякай патрэбы валяліся ля платоў някораныя бярвенні, жэрдкі, наколаныя і скіданыя ў вялікія кучы дровы, смаловыя, прыгатаваныя для распалу, пні.

Блізіўся вечар, а вёска бы вымерла — жанкі, мусіць, пораліся, гатавалі вячэру, а мужчыны ўлетку вяртаюцца з работы позна. Адны хлапчукі насіліся напераганкі на веласіпедах, ды з новай фермы даносіўся шум трактара — мабыць, развозілі падкормку.

Дайшоўшы да бацькавай хаты, Андрэй прычыніў варотцы, паставіў чамадан, убачыў, як вялікім старым корабам бацька носіць у хлеў прывезеную яшчэ ўвосень сухую іглiцу — мабыць, у хляве гразка, вось ён і падсцілае.

Бацька не заўважыў яго, і Андрэй затрымаўся ля ўвахода ў двор, які густа зарос сабачым рамонкам, драсёнам, мурагом, а бліжэй да плота і крапівой.

Абапёршыся рукамі аб плот, Андрэй думаў пра бацьку: не надакучыла ж старому жыць адзінока. «Дзе яму надакучыць,— разважаў сам з сабой Андрэй,— ён не праціў, каб і я вярнуўся сюды».

Ён стаяў каля плота і не спяшаўся адысці, не спяшаўся наблізіцца да бацькі і загаварыць з ім. Развагі-думкі вярталі яго назад, да спрэчкі-размовы з бацькам.

* * *

Раман, Андрэеў бацька, жыве адзін не першы год. Усе дзеці, а іх у яго пяцёра, выраслі, пажаніліся, аддзяліліся ад яго і жывуць сваімі сем'ямі.

Андрэй у Мазыры асеў, мо ўжо гадоў каля чатырох,

як перасяліўся з заводскага інтэрната ў пяціпавярховы дом. Вокны яго кватэры на Прыпяць глядзяць. Усе, хто да яго не прыходзіць, жартуюць:

— Табе, Андрэй, і на рыбалку ездзіць не трэба, вазьмі вудзільна падаўжэй, прыстройся на балконе і знай цягай сабе ляшчоў ды падлешчыкаў, іх у Прыпяці ого-го колькі!

І праўда, яму пашэнціла, ды яшчэ і як, з кватэрай. І чакаў нядоўга, і месца, бы на курорце: расчыніць улетку балкон — і пайшоў гуляць па пакоях свежы ветрык, а ўночы яны засынаюць пад ціхія ўсплёскі рачных хваль.

Некалі, праўда, Андрэй кінуўся на Данбас услед за Шурам, малодшым за яго на два гады братам. Разам з Шурыкам пад зямлю лазіў, вугаль здабываў. Але не прыжыўся Андрэй там, у родныя краі пацягнула, бліжэй да бацькі. Толькі і ў Чарніцах ён не затрымаўся. Пагойсаў адно лета ў калгасе па розных работах, а як толькі пачуў пра тое, што пад Мазыром вялікая будоўля адкрываецца, так і заладзіў: «Паеду ды паеду».

Бацька яго век звекаваў на зямлі, прывык да свайго кутка; і да яго, старога Рамана, ніяк не магло дайсці, як гэта дзіця цураецца сваёй хаты і едзе ў белы свет. Змалку ён прывучаў Андрэя да любой работы, да зямлі. Усіх сваіх дзяцей прывучаў. І незвычайна радаваўся за дачок і Пятра, якія засталіся пры ім, у калгасе знайшлі сабе работу.

Калі ж Андрэй, вярнуўшыся з Данбаса, стаў пагаворваць пра Мазыр, Раман не зразумеў свайго старэйшага сына: «Расліна і тая любіць адно месца, а ты ж чалавек, ці табе не надаела валачыцца па свету?»

Раман ад вайны стаў пагана бачыць на адно вока, бяльмом завалакло яго, а другім, здаровым, пільна-пільна ўглядаўся ў Андрэевы вочы, стараючыся прачытаць, што ў іх напісана. І заўважыў: твар у сына

рэзка перамяніўся, на яго легла суровая і строгая цень.

— Добра, я застануся ля цябе, прырасту, як тая расліна, пра якую ты гаворыш. А хто ж, скажы мне, стане будаваць заводы? — пры гэтых словах Андрэй пастукаў сябе кулаком у грудзі.— Мы, маладыя. На будоўлі трэба дужыя рукі, а хіба я хілы? На, паглядзі, якія ў мяне рукі, я ж адным пальчыкам дваццаць кіло магу падняць, і з такой сілай сядзець дома? Прабач, тато, але я не мамчын сынок.

Раману, прызнацца, падабалася, што сын не баіцца цяжкасцей, не шукае лёгкага хлеба. Але спрачацца з ім ён не перастаў. Ён сумысля і павёў далей усю гэту гаворку, каб выведаць-выпытаць пра тое-сёе і дазнацца, ці сур'ёзны ў яго сын, ці шалапут які, што не можа прыбіцца ні к таму, ні к гэтаму берагу. Але ён ужо не мог стаць на сынаў бок у сённяшняй дыскусіі і таму вымушан быў даказваць сваю праваты.

— Была б маці жывая, можа, я і пераставіў бу табе мазгі, а так? — Раман махнуў рукою і адвярнуўся.— Жывіце з Шурыкам як знаеце, толькі не забувайце, што ў мяне з-за вас вечна душа не на месцы, калі прысніцца паганы сон ці яшчэ што, а булі б у сяле — і я спакайней жыў бу, і ў вас мо па-другому ўсё склалася б.

Памаўчалі. Кожны, мабыць, думаў пра Марылю — Андрэеву маці і бацькаву жонку, якую Раман нечакана згадаў. Даўно памерла яна. Андрэю тады яшчэ і пятнаццаці не было. Парокам сэрца хварэла яна. І смерць ціхую прыняла. Пайшла неяк у канцы лета у сад назбіраць карове яблык-паданак. Андрэй тады якраз па ваду з двума вёдрамі ішоў. Ён бачыў, як маці нагнулася, ціха войкнула і ўпала дагары галавой на зямлю. Ён падбег да яе, стаў тармасіць і зваць з усяе сілы: «Ма-а-мо-о, ма-ма-чко, што з табою?»

Маці маўчала, толькі ледзь варухнула вуснамі і за-

стыла, вочы яе спыніліся, не міргалі вейкі. Сваімі рукамі Андрэй адчуваў, як хутка астывае цела маці, як пруцянее яна ўся. З вачэй у Андрэя выбліснулі слёзы, і ён моцна ўголас заплакаў...

Нейкую хвіліну яны абое стаялі ў журботным задуменні, у час якое кожны нібы зноў убачыў маці ў яе апошнюю хвіліну.

— Табе б, сынку, паглядзець наўкруг сябе, затрымацца, а ты трапіў у нейкі калаўрот і вубрацца з яго, гляджу, ніяк не можаш,— вярнуў Андрэя да пачатае гаворкі бацька.— Ты думаеш, што лёс свой моцна ў руках трымаеш, што табе ўсё ясна? Не, у жыцці нічого простаго не бувае, хутчэй жытка над табою верх озьме, ніж ты над ёю, дай шчэ так озьме, што толькі паспявай паварочвацца.

— Цяпер, тато, час не той, каб богу маліцца і лёс ў яго выпрошваць, цяпер чалавек — цар прыроды і сваёй, як ты кажаш, жыткі. Агляніся — усюды ж машыны, яны ўсё за чалавека робяць, ды яшчэ такое робяць, што і не расказаць, а ты мне ўвесь час старое згадваеш, адкараскацца ад ранейшага ўяўлення не можаш ніяк. Хіба ты забыў, як раней у нашым калгасе рабілі? Успомні, пасля вайны, пакуль не паявіліся машыны, я хоць і малы тады быў, але ж не забыў: дзесяткі жанок праз усё лета не вылазілі з поля — рачкавалі дзень пры дні, палолі лён, картоплю. А цяпер? Праляціць над полем адзін самалёт — і поле праполана, пройдзе туды-сюды трактар — і акучана бульба.

— Цар, кажэш, чалавек? Нічога не скажу напроціў такого, багато чаго наўчыўса чалавек сянні, але, як падмойму, то ён шчэ покуль не цар. Наўчыўса, ты мне давядзі, чалавек з засухаю змагацца? Не вельмо, от не пойдзе ў нас яшчэ дзень-два дождж — і загінула ўсё на палях, а ты мне «ца-а-ар».

Андрэй усміхнуўся, і Раман заўважыў гэта.

— Ты не смейса над бацькам, не трэ, думаеш, ты

ў мяне такі разумнік, што я не раскушу цябе? Не, дармо так думаеш, я наскрозь цябе бачу і, можэ, шмат у чым з табою згодзен, толькі ў адном твой бок не прымаю і не прыму ніколі: скажы мне, куды сянні бягуць маладыя, ад каго і ад чаго бягуць? Ды шчэ так бягуць, што і аддыхацца бедным няма калі! А чалавек жа не двохжыльны, два вякі яму не адведзена. Ось цябе ўзяць, думаеш, не бачу, што табе няпросто ад дамоўкі адарвацца? Няпросто, ой як няпросто, не расказуй мне, але ты віду не падаеш, ганарысса, хочэш, як усе, у горад ці шчэ куды, абу не дома.

Андрэй бы сядзеў на іголках: круціўся, муляўся, уставаў, зноў садзіўся, слухаў бацьку і сам сабе ў душы прызнаваўся, што шмат у чым праўда за бацькам. Хіба ў калгасе ён не мог бы зарабіць капейку? Мог бы, ды яшчэ і якую. Вунь за колішнім гумном катлаваны трактарамі пакапалі: комплексы там пачынаюць нейкія будаваць. Ды і бетонны фундамент пад клуб са школай у самым цэнтры сяла пачалі заліваць, так што давай, старайся, сілу сваю ёсць да чаго прыкласці. Толькі ў яго душы жыла ідэя, якая і не давала яму сядзець дома, а звала туды, у Міхалкі, на вялікую будоўлю.

— Паймі і ты мяне, тато, у Міхалкі строіць нафтавы завод едуць скуль толькі хочаш: з Расіі, Украіны, Каўказа... І што ж, паглядзі, выходзіць? Другім і тысяча вёрст не перашкода, а ў мяне гэта пад бокам, і я дам пас? Дак калі я не паеду, выходзіць, што я даю сабе самаадвод, разумееш?

— Едуць стасюля і статуля, кажэш? Накарміць вас усіх ездакоў бярозаваю кашай удосталь, то, можа, і не паехалі б, сядзелі б дома.

— Чаго едуць, хочацца знаць? Скажу, вельмі просты тут адказ: кожнаму хочацца памяць аб сабе пакінуць, а дзе, як не на вялікай будоўлі можна размахнуцца і паказаць сябе?

Раман устаў з лаўкі, на якой сядзеў, падышоў да акна, расчыніў рамы, і ў пакой уварваўся лёгкі і прыемны майскі ветрык. Павярнуўшыся спіной да акна і пільна прыглядаючыся здаровым вокам у выраз Андрэевага твару, Раман папытаўся ў сына:

— Скажы ты мне, карчу старому: усе маладыя некуды едуць, бягуць з сяла, як ты гаворыш, на перадавую. А ў нас, у Чарніцах, хто зямельку абрабляць стане? Старыя? А там, на тваёй перадавой, хіба хлябец ты не захочаш кусаць? Дак хто для вас будзе расціць і малаціць хлябец?

— Кожнаму чалавеку — сваё месца. А ўсе на будоўлю не паедуць, нехта застанецца і на зямлі, і ў нас, у Чарніцах, ёсць маладыя трактарысты, пастухі. Дай чаго ты да мяне прычапіўся? Трое тваіх дзяцей у калгасе, дак што, табе надумалася мо сваю сямейную брыгаду стварыць?

— Хачу, каб ты не валачыўса па беламу свету, бу валацуга які, хачу, коб спакойно на душы було.

За бацькавай спіной, у аконным праёме, разгаралася ранішняе сонца. Праменні яго падалі на сцяну, падлогу, асвятлялі зіхатлівым бляскам усю хату, з самай раніцы стваралі нейкі святочны і ўрачысты настрой. І мо ад гэтага настрою, ці яшчэ чаго, Андрэй перастаў спрачацца з бацькам, махнуў на ўсё рукой і сказаў:

— Чым дарма языком малоць, пайду лепш зраблю што, пакуль я тут, то памагу трохі табе.

Яны абое замоўклі. Ці то ад гэтых Андрэевых слоў, ці мо зразумелі бессэнсоўнасць усёй гэтай гаворкі, у часе якой абое, здаецца, трохі пагарачыліся. Андрэй пачаў абувацца ў кірзавыя боты, пасля выйшаў на двор, узяў у рукі трохрожковыя вілкі з доўгім дзержаком, што стаялі ў куце ля хлява, накіраваўся на соткі...

Сонца, мабыць, даўно скацілася за гарызонт, лёгкі прыцемак пачаў апускацца на зямлю, і Андрэй не заўважыў, як Машка — маленькая карова з белай шырокай ад рагоў да пысы лысінай — паказалася ў варотах. А калі пачуў, як Машка ступіла на двор, уздрыгнуў, ачомаўся ад одуму, усміхнуўся і ўступіў жывёліне дарогу, ласкава паляпаў яе па шырокім гладкім крыжы: «Ідзі, ідзі, Машутка, у хлеў, там табе пасцель сцелюць».

Узяўшы ў рукі чамадан, Андрэй пакрочыў услед за каровай. Бацька, відаць, ужо ўправіўся з падсцёлам, зняў кораб з плячэй і зрабіў колькі крокаў уперад, каб сустрэць Машку і загнаць яе ў хлеў. Згледзеўшы Андрэя, Раман спыніўся, моўчкі пазіраў на яго, бы не верачы, што перад ім Андрэй, развёў рукамі:

— Я і не ждаў цябе.

— Так выйшла, тато, не змог папярэдзіць.

Андрэй паставіў чамадан на ганку, наблізіўся да бацькі, які, паспеў адзначыць, вельмі змяніўся за апошні год: стаў сухі, маленькі, у спіне яго моцна сагнула.

Яны абняліся, скупа, па-мужчынску, не выказваючы асаблівага здзіўлення ад сустрэчы, але трошкі і нервуючыся, хаваючы некуды вочы і не ведаючы, што гаварыць у гэтыя першыя хвіліны. Раман загаварыў першы:

— Добрэ, Андруша, што надумоў адведаць мяне, то ж касіць усе поры праходзяць, а мае рукі ў суставах ломіць, начамі не сплю ад болю, бу хто вукручвае іх.

Сказаў, палез у кішэню, дастаў папяросу, закурыў.

— Петрыка нашаго, хоць ён і паблізу ад мяне, не дазавесса не даклічасса — то сваё касіць-убіраць мкнецца, то калгаснае падаспело, дак ён і дома не стыкаецца.

Андрэй доўга не мог знайсці патрэбных слоў, пазіраў на бацьку і адзначаў, як ён здаў за апошні час: «Бач, і рукі ад хвалявання сталі трэсціся».

Не паспеў Андрэй разгаварыцца з бацькам, як убачыў: агародам, па пратоптанай сцежцы, парослай па баках нізкай травой, з двума пустымі вёдрамі ў правай руцэ ідзе цётка Еўга — бацькава суседка, тая самая, чыю карову некалі загубіў ён у Вілках.

Еўга ішла па ваду да калодзежа, які даўно Раман выкапаў-зрабіў у сябе ў двары. Яна, мабыць, спяшалася, бо адразу не прыкмеціла Андрэя. Падышоўшы да калодзежа, яна паплявала на далоні, пацерла даланя аб даланю, каб рукі не слізгалі па коўзкім вочапе, на канцы якога на кручку вісела вядро, стала апускаць вочап з вядром у глыбокі калодзеж. Калі вядро ўдарылася аб ваду, Еўга памахала вядром управа-ўлева: разагнала па баках смецце, якое насыпалася са старых плашак, і калі зачарпнула поўнае — працяжна і тонка зарыпеў журавель, падымаючы наверх вядро, з якога з плёскатам і шумам падала-разлівалася вада. Пераліўшы ваду ў парожняе вядро, што стаяла на зямлі, Еўга падняла галаву і ўбачыла Андрэя з Раманам, упусціла вочап, здзіўленым голасам прамовіла:

— Ось табе і маеш: заўчорэ, Андрэй, твой бацько расказуе, што сон бачыў — злодзеі хату яго абакралі. Паслухала я яго дай падумала: гасцей, Раманко, чакай, бо прысніцца злодзей — ето на здзіўленне, добрае, гейко ты мой, здзіўленне, радаснэ, якое прыносяць самуе блізкія людзі.

— Як вы тут з бацькам суседзіце, не сварыцеся? — калі павіталіся, жартам папытаў Андрэй у Еўгі.

— Коб ты сто год жыў, калі табе наўме заўсёды жартачкі,— засмяялася Еўга.— З такім суседом, як твой бацько — жыць дай жыць. То ж вунь у нас па ўсяму сяле калонкі для вады паставілі, прыйдзеш да тае калонкі, націснеш на такую жалезную палку — і

пацякла сабе вадзіца ў вядро, не тэе, што ў калодзезі, дзе пуп рваць трэ, коб вуцягнуць воду.

Андрэй не зразумеў: жартуе цётка, ці што? Хваліць калонку, а да бацькавага калодзежа дарогу не забывае. Яго здзіўленне ўлавіла Еўга.

— З калонкі я паю скаціну, вару парасяці тэй вадою, бо хоць яна і чыстая, але дужэ моцно хлёркаю аддае: ведама ж, трубы, па якіх яна цячэ, новуе, то іх, мамуць, дэзінхвекцыі падвяргаюць. А для сябе ў бацькі тваго бяру, ён не забараняе, унь нават варотцы ў плоце з гароду зрабіў, ето коб мне бліжэй хадзіць було.

Сказала гэта Еўга і неспадзеўкі слязу пусціла, зашморгала носам:

— Хібе ж ты забуўса, Андрушка, як памог твой бацько мне? Коб не ён, то як бу і вугадавала я адна сваіх дзеток?

Не, нічога не забыў Андрэй, усё да драбніц помніў.

Тады, як закапалі ў Вілках Еўжыну карову і папрыходзілі дадому, Марыля, жонка, якраз паліла ў печы. Яна і слова не сказала, а толькі выцерла фартухом, у якім поралася, вочы, што ўраз павільгатнелі: «А ацеліцца ўзімку карова, і калі цяліцка будзе, трэ аддаць Еўзе, а то як жэ яна без каровы — чужым малаком сыты не будзеш».

Яна паправіла ў печы вілошнікам чыгунок, павярнула і падсунула яго бліжэй да жару, затым дадала: «Му перад ёю так вінаватыя, так вінаватыя, што божэ нас барані, калі му ёй не памогом».

Назаўтра, ледзь толькі развіднела і маці паспела падаіць карову, Андрэй ужо не спаў. Прачнуўся, спаласнуўся ў сенцах халоднаю вадою, выйшаў на вуліцу, сеў на шула, падкочанае да плота, чакаў, калі маці адцэдзіць сырадой і пакліча яго. Малако ў тыя пасляваенныя гады не густое было, здавалася Андрэю, а рэд-

кае і нейкае бы падсіненае, пустое, не тое што цяпер. Цяпер з кожнае гладышкі бацька збірае як не паўлітровы слоік смятаны, бо падкорміць карову і бураком, і бульбіну ёй зварыць, пойла наробіць. Тады ж бульбы і сабе не хапала, не тое, што карове.

— Андрэйко, дзе ты там забавіўса? — гукае маці, і ён падхопліваецца з шула, бяжыць.

— Тут я, мамо, ждаў, калі ты адцэдзіш.

Маці падае яму вышчарбленую па беражках гладышку, якую прыкрыла зверху чысценькім кавалкам даматканага палатна. Рукі яе дрыжаць, відаць, яна хвалюецца.

— Глядзі ж, не прыса, бу к чорту з пісьмом, а ступай памалу, коб не разліць.

Андрэй шморгае носам:

— Хіба я маленькі? Сам знаю.

Ён бярэ гладышку з рук маці і асцярожна праступае праз гарод, разораю, узмежкам да цёткі Еўгі. Еўжыны дзеці згледзелі яго, яны як прыраслі да акна. Андрэй падміргвае Сашы з Надзяй: «Малачка зараз цёпленькага патрошкі вып'еце».

На парозе яго сустрэла Еўга. Яна бярэ з яго рук у свае гладышку, пералівае малако ў свой посуд, ціха пачынае плакаць. Андрэю няёмка становіцца ад гэтага яе плачу, ён перамінаецца з нагі на нагу, цярэбіць зашмальцаваны бок свайго старога пінжачка. Ён не можа даўмецца, чаго ўсхліпвае Еўга, але яму здаецца, што гэта яна ўсё аплаквае загубленую ім у Вілках карову. І ён у душы моцна праклінае сябе, што асмеліўся тады пагнаць статак у Вілкі.

Андрэю хочацца барзджэй бегчы ад Еўгі, але Еўга не адпускае яго. Яна нешта доўга шукае на паліцы, якая прыбіта ля ўваходных дзвярэй якраз насупраць печы і занавешана белымі фіранкамі. Нарэшце, яна знаходзіць тое, што шукала: вялікі кавалак цукру. Яна кладзе цукар на стол, бярэ нож, адбівае ад кавалка ма-

ленькі драбок і працягвае яго Андрэю: «Вазьмі, дзіцятко ты мае, лепшага гасцінца ў мяне нямаш».

Андрэй аднекваецца, не хоча браць гасцінец, разумее, што гэта, можа, і апошні кавалак цукру ў Еўжынай хаце, а яна аддае. Еўга доўга просіць-упрошвае яго, каб ён усё ж узяў, совае яму драбок у рукі, у кішэні пінжачка, але ён адводзіць сваімі рукамі Еўжыну худую далань з цукрам, круціць галавою: «Не, не вазьму...»

Еўга перастае ўпрошваць яго, глядзіць на яго доўгім строгім позіркам і, мабыць, здагадваецца, чаму Андрэй аднекваецца, не бярэ гасцінец. А здагадаўшыся, адварочваецца тварам да акна, і па тым, як часта сталі то ўзнімацца, то апускацца яе плечы, Андрэй зразумеў: Еўга заплакала. Ён зрабіў крок да яе, ціхенька прамовіў:

— Не плацце, цётко, цукар вам і самім спатрэбіцца.

Калі Еўга лагодна і светла ўсміхнулася яму, ён яшчэ ўспомніў адно, пра што забыў сказаць адразу.

— Маці з бацькам казалі, што калі карова цяліцку ацеліць, то аддамо яе вам.

Еўга падышла і пагладзіла яго па коратка астрыжанай бацькам галаве.

— Скажы, Андрэйко, дзякуй тваім бацькам, што я адна рабіла б са сваімі чартамі лазатымі? — паказала Еўга на дзяцей — Сашу і Надзю.

Еўга супакоілася зусім, падышла да кавешніка, узяла ў рукі вілачнік, дастала з печы чыгун з бульбай, адцадзіла яго, высыпала бульбу на разасланы на стале абрус.

— Не хочаш, дзеткі, цукру майго ўзяць, то садзіса бяры з Надзяй і Сашыком ды маслаканаплянага памачай, у вас такого нямаш, я знаю.

Ад канаплянага масла Андрэй не адмовіўся, бо ні-

колі яго не еў: у іх сям'і такога масла не рабілі наўмысна ці не ўмелі, хто яго ведае.

Ён сядзіць з Еўжынымі дзецьмі за сталом, мачае цёплую бульбіну ў масла, што наліта ў невялікую алюмініевую місачку, і аблізваецца: здаецца, нічога смачнейшага не еў. Возьме з абруса сопкую бульбіну, пастудзіць яе, намочыць у масла і кладзе ў рот, пераміргваецца з Сашам: «Смачна?» Той яму ў адказ: «Яшчэ пытаеш! Смаката! Царскі наедак!»

Зімою таго ж года неяк адным ранкам бацька вярнуўся з хлява і радасным голасам сказаў:

— Ацялілася карова, цялічку прынесла, трэ йсці Еўзе сказаць, то ж бо радасць ёй будзе.

Андрэй, калі пачуў гэтыя бацькавы словы, тут жа саскочыў з печы, дзе ляжаў на чаране, наткнуў на босую нагу валёнкі, скрыпнуў дзвярыма і ўвачавідкі знік за дзвярыма — бацька і рот не паспеў раскрыць, сказаць яму, каб апрануўся, на дварэ ж такі мароз цісне. Калі ж Раман ачомаўся, глянуў у шыбку, якая за ноч замерзла, то скрозь дзірачку на заінелым шкле ўбачыў: Андрэй кумільгаецца праз высокія сумёты ўжо ля Еўжынага двара.

Ледзь расчыніўшы дзверы Еўжынай хаты, Андрэй не сваім голасам вымавіў:

— Хочаце верце, хочаце — не, цялічку наша Чорная прынесла, бацько толькі што з хлява, казаў харо-о-ошая цёлка! — змяніў ад сябе Андрэй, сказаўшы «харошая», але, на яго думку, яна і павінна такой быць, бо вельмі доўга яе з'яўлення на свет чакалі.

Еўга ў гэты час сядзела за прасніцаю, прала кудзелю. Як толькі Андрэй паведаміў ёй сваю навіну, яна выпусціла з рук ручайку:

— Дзеткі мае, няўжэ праўда?!

Андрэй не паспеў больш сказаць яшчэ што-небудзь, бо расчыніліся шырока дзверы, у хату ўварваўся густы клубок марознай пары, услед за якой на праходзе па-

казаўся Андрэеў бацька — Раман. Ён даў «добры дзень», зрабіў крок да кавешніка, узяў бярозавы венік, абабіў ім з ног снег, прайшоў на покуць, сеў на драўляную самаробную канапу ля акна, зняў з галавы і паклаў на канапу шапку-аблавушку, прыгладзіў рукою валасы, што былі ўпалі на лоб, расшпіліў гузікі чорнага аўчыннага кажуха, уважліва паглядзеў на Ёўгу.

— Мамуць, табе мой разбойнік пахваліўса ўжэ — цяліцку ацяліла наша Чорная, так што радуйса, хутко і ў цябе паявіцца свая малочніца.

Сказаўшы гэта, Раман дастаў з правай кішэні кажуха капшук з самасадам, згорнутую ў гармонік газету, адарваў ад газеты беражок, скруціў, як ён сам гаварыў, «зубленку», прыпаліў, глыбока зацягнуўся, выпусціў струмень дыму, сачыў за Ёўгай. Але Ёўга, падалося Андрэю, які стаяў ля прыпечка, слухаў і назіраў за ўсім, быццам і не ўзрадавалася такой навіне. Яна перастала праць кудзелю, прамовіла журботным голасам:

— Дзякуй, Раманко, за ласку тваю і клопат да мяне, гарапашніцы горкай. Толькі чым я расплачуса з табою? Дай Чорная твая не першацёлак, цяліца вам і самім не лішняя.

Ёўга замоўкла, пачала разгладжваць рукамі складкі на сваёй чорнай спадніцы, сабрала з падолу пушынкі кужалю, што нацерусіліся з прасніцы, устала, падышла да кавешніка, кінула ў кут кужалінкі, павярнулася тварам да Рамана і Андрэя.

— Завіца мая з Загалля казала, што цёлку на вясне прывядзе мне, карова ў яе шчэ маладая. Праўда, карова ў завіцы горшага заваду, ніж у цябе, Раман, слабая малочніца, але што ты парадзіш — доранаму ў зубу не глядзяць, завіцы плаціць не трэ, а цяпера з двума хвастамі, як у мяне, на капейку вельмо не разгонісса.

Андрэй слухаў Ёўгу і нічога не разумеў: «Як так, яна не хоча браць іхнюю цёлку?»

Не разумеў, бачыў Андрэй, Ёўгу і бацька. Ён па-ранейшаму сядзеў на канапе, дакурваў зубленку. Не адразу да яго дайшло, чаму адмаўляецца Ёўга, а калі дайшло, Раман рассердзіўся:

— Пабойса бога, Ёўга, хібе я з цябе грошы спраўляю? Як бу там сабе не було, а я ніколі не дарую сабе таго, што той раз Андрэя аднаго пусціў са скацінай у Вілкі.

Раман смактаў зубленку, часта пускаў едкі дым, які расплываўся па ўсёй хаце, даходзіў да Андрэя. Ад таго дыму слязіліся вочы, дзёрла ў горле. Андрэй стрымліваў сябе, каб не кашлянуць. Ён слухаў, што казаў бацька:

— От да вясны хай цёлка пабудзе пры карові, пассе трохі цыцку, адужае, а то ж яна шчэ і на нагах не стаіць, а як адужае, бяры, Ёўго, повад і прыходзь, забірай, знай — я ад свайго слова не адступлюса.

Андрэй убачыў, як вочы ў Ёўгі павільгатнелі, але яна волі слязам не дала, стрымалася, хуценька саўладала з сабой, твар яе зрабіўся святлейшым, дабрэйшым.

— Добрэ, Раманачко, не знаю, як табе і дзякуваць, вазьму ў цябе цёлку, а завіцы перакажу, коб прадавала каму сваю.

Сказала так, зняла з галавы белую хустку-рэзанку, паглядзела на яе, зноў накінула на галаву, завязала ззаду вузлом.

— А ў даўгу я перад табой, сусед, не астануса, разбагацею — аддзячу, я дабро людское не забуваю аніколі.

І праўда, Ёўга стала першай бацькавай памочніцай. Як занядужала Марыля, Андрэева маці, Ёўга, здаецца, не вылазіла з іхняе хаты, пакуль і не пахавалі Марылю. Ды і калі пахавалі, яна, як магла, памагала Ра-

ману падняць на ногі дзяцей. Бывала, ідзе на сажалку праць сваю бялізну і да іх не забудзе заскочыць-глянуць.

— Давай, Рамане, што там у цябе сабраласо, заадно ўсё разам вуперу-вупалашчу, толькі Андрэя надвечар прышлі, а то я адна не адолею такую гору прынясці.

Андрэю той парою ішоў семнаццаты год, ён выцягнуўся, павысачэў, у яго пашырэлі плечы, і па гаспадарцы ён спраўляўся з любой работай, якую бацька ні загадае. Памагаў і цётцы Ёўзе з сажалкі мокрую бялізну прыносіць дахаты, а пасля развешваў з ёю па платах, каб сохла.

На вясне ж цётка Ёўга зноў прыбяжыць да Рамана і давай яму напамінаць:

— Пара, Рамане, капцы раскопваць, насенныя картоплі перабіраць-рыхтаваць, глянь, як на сотках зелле пачало ўсходзіць — хутко і садзіць картоплі трэ.

Раскопваў капцы Андрэй сам, а цётка Ёўга сочыць, каб рабіў ён усё як след, не цюкнуў ненарокам рыдлёўкай у бурт. Калі ж ён раскідае зямлю з капца на бакі, Ёўга сама раскрые салому, пад якой ляжалі з прарослымі за зіму расткамі клубні, што пахлі зямлёй.

— Добрэ ўкрыты буў капец, ні адна картапліна не змерзла,— кажа Ёўга і гукае астатніх Раманавых дзяцей, саджае вакол капца і Андрэю наказвае:

— Ты, Андрэйко, большы за ўсіх, наглядай, коб папсутую і гнілую ў адзін бок, а цэлую — у другі адбіралі і, барані божэ, расткі коб не зрывалі, а калі перабярэце ўсю, то ў сені перанасіце: нанач мароз можа ўдарыць.

Даўняе, мінулае зараз, калі ён стаяў у бацькавым двары, ажывала ў ім, варушыла думкі, вярэдзіла душу, хвалявала, і яго сэрца, нібы зноў напоўненае тымі даў-

но адышоўшымі падзеямі, гукамі, пахамі, фарбамі, пачынала трапятацца, білася гулка і няроўна. Гледзячы проста перад сабой і адмахваючыся ад камарэчы, што таўклася звечара цэлымі хмарамі, Андрэй казаў:

— На дождж, мусіць, збярэцца, камарэча ўсхадзілася.

Раман, які тыцкаўся то па сенях, то па ганку ці двары, на Андрэевы словы асаблівай увагі не звярнуў, а, бы між іншым, заўважыў:

— Добрэ було б, а то картоплю ў гічанне гоніць, і акопваць яе нельга — пясок жа гарачы, бу прысок.

Толькі цяпер Андрэй убачыў, што цёткі Еўгі на двары няма, і калі яна пайшла, ён не згледзеў, бо думкі-развагі на які час бы засланілі перад ім усё.

Калі ўжо зусім сцямнела і Андрэй сеў з бацькам за стол вячэраць, Раман казаў:

— Не ведаю, у каго шчэ бувае ці не: здаецца, і ў хаце апроч мяне нікагусенькі, а мне ўсё ўдае, што нехто спробуе са мною загаварыць, усё нечаго дамагаецца вуведаць-распутаць.

Андрэй, зморany дарогай, канчаў даядаць і збіраўся класціся спаць. Апошнія бацькавы словы паказаліся яму смешнымі.

— Галюцынацыі, татуля, у цябе, нічога, словам, такога нямаш, табе ўсё здаецца, ад адзіноцтва прывіды ў вачах стаяць.

— Вумнік ты ў мяне, Андрэйко, на ўсё патрапіш сказануць што. А я сяння прачнуўса і гавару-гавару сам з сабою, пагляджу: кругом ні душы, а я ўсё гавару, а што гавару, папутайса ў мяне — і сам не ведаю.

Андрэй устаў з-за стала, шырока пазяхнуў, пачуў, як нешта хруснула ў касцях.

— Колькі табе казаў, тато,— пераязджай да мяне, дык не ж, цябе не пераставіш, бы дзіця, усё табе капашыцца ахвотна ў гэтай гразі, а таго не бярэш у галаву, што стары.

— Стары, твая праўда, мой сыне, а хто ж, скажы, старое дрэва перасаджвае?

Андрэй нічога не сказаў, разуўся, распрануўся, бухнуўся ў пасцель і тут жа заснуў. І Раман, прыбраўшы са стала, хутка выключыў святло, зашаркаў босымі нагамі па падлозе, палез на печ, на якой прывык спаць і зімой, і ўлетку. За вокнамі стаяла светлая летняя ноч.

* * *

Сярэдначы з-за лесу, з боку Вілак, на вёску напаўзлі хмары. Гарачыню, якая не спадала ўжо з месяц і ад якой увагрэлася-патрэскалася зямля, стаў змяняць-разганяць вецер. Ён спачатку быў ціхі, але, чым бліжэй да вёскі падплывалі хмары, вецер мацнеў, набіраў сілу, гуў-завываў у вяршалінах дрэў саду, зрываў з галін паскручванае ад спякоты ў трубачкі лісце.

Вецер наравіў раскалыхаць адкрытую раміну акна і павыбіваць шыбкі. Андрэй, хоць і моцна спаў, скрозь сон пачуў, як звініць ад удараў рамы аб падаконнік шкло. Ён прачнуўся, басанож падбег да акна, зачыніў яго на маленькія зашчапкі знізу і зверху. На вуліцы, бачыў ён, стала цёмна-цёмна, бо ўсё неба над сялом завалаклі хмары. Там, у сярэдзіне хмар, нараджаліся сіне-блакітныя маланкі. Яны ўспыхвалі коратка і хутка, асляплялі сінім святлом наваколле і ўвачавідкі знікалі. Услед за гэтым зноў усё патанала ў непраглядным цемені, якую будзіў гром. Спачатку ён вуркатаў ціха, затым набліжаўся, злаваўся, станавіўся больш смелым.

На зямлю хлынуў лівень. Андрэй стаяў ля акна, назіраў, як маланкі выхопліваюць з цемнаты асобныя дамы, дрэвы, слухаў, як лапоча, ударaючыся аб дах дому, дождж, і радаваўся, што вадзіца абмые і напоіць лугі, пашы, палі. Зямля, бачыў ён учора, счакалася па вадзе, і гэты дождж для яе нібы свята.

Раніцай, падхапіўшыся з пасцелі, Андрэй апрануўся, выйшаў на ганак, але з ганка ў туфлях сыходзіць не асмеліўся — дождж нарабіў гразі, па двары ўсюды стаялі лужыны. Вада стаяла і ў разорах між загонамі, па-над плотам, бо там было нізка.

З-за хлява паказаўся бацька. На адным плячы ён нёс кашэль з зеллем. Ён наблізіўся да цэбра, у якім карміў свіней, высыпаў туды роснае і мокрае зелле, узяў сякач, што стаяў побач, і пачаў секчы зелле. Згледзеўшы Андрэя і не перапыняючы свае работы, Раман сказаў:

— Гумавікі ў сенцах стаяць, вазьмі наткні на ногі, у тваіх гарадскіх пантоплях сянні табе ходу нямаш.

Андрэй хутка знайшоў гумавікі, абуўся, падаўся на двор. Бацька тым часам паспеў пасекчы зелле і цяпер запарваў яго, абмешваў з варанай бульбай і жытняй мукой. Кінуўшы здаровым вокам позірк на яго, на Андрэя, які не мог знайсці сабе ніякага занятку і тыцкаўся па двары сюд-туд, Раман пазваў яго да сябе.

— Касу не забуў як дзяржаць трэ? Не? То ўзяў бу вунь у павеці, я заўчора дзве адбіў-адкляпаў і павесіў, думоў, сам пайду з лужком за соткамі ўпраўлюса, дак рукі ж балелі, не давалі, дай сушыло ж, халера на яго, а там адзін ціпец, у сушу ніякая каса яго не возьме, а цяпера, калі прамачыло, зганашыць яго можна.

Паснедаўшы, Андрэй падаўся ў павець, зняў з бэлькі і перакінуў цераз плячо касавільна з настроенай касой, гародамі пайшоў за соткі. У канцы сотак, на адным з загонаў, разгроб ботам зямлю, дакапаўся да сухога, набраў у кішэню пяску, намачыў у роснай траве мянташку, насыпаў на яе сухога пясочку, адмянташыў касу, пачаў закошвацца...

Касіў і думаў: «Не, усё-такі я адвык ад сялянскае работы, бач, і касіць развучыўся».

Каса спачатку не слухалася яго, рад атрымліваўся няроўны, ускудлачаны, тут і там тырчалі, бы прараслі

праз рад, пучкі высокай травы, а пад самім радам заставалася нескошанае. Даводзілася пакошаю вяртацца назад, падбіваць рад спадыспаду, выкошваць траву, што не паддалася адразу.

Зранку, пакуль не апала раса і сонца не высушыла травастой, неяк усё ж касілася. А затым, як стала прыпякаць у плечы, каса не хацела рэзаць, хоць Андрэй раз-пораз вастрыў яе брусам, мянташыў.

Зрабіўшы яшчэ адзін пакос, Андрэй рашыў дакасіць апошняе ці вечарам, ці заўтра раненька, уваткнуў касавільна ў зямлю, а сам цяжка ўпаў на пакошу, на траву, якую сонца паспела трохі падсушыць, прывяліць. Упаў і адчуў, як ные спіна, ад непрывычнае работы ломіць у паясніцы, гудуць ногі. І далоні гараць. Бы хто пасек іх крапівою. Ён выцягнуў перад сабою рукі, глянуў на далоні, жахнуўся: на абедзвюх паўскоквалі мазалі, некаторыя з іх лопнулі, і нясцерпны боль пёк у пальцы, расцякаўся па ўсёй руцэ. Андрэй стаў перабіраць у радзе траву, шукаў падарожнік ці трыпутнік, а знайшоўшы, разрываў шырокія лісты на кавалкі, прыкладваў да мазалёў — зялёная вільгаць, што сачылася з ліста, трохі супакойвала боль.

Андрэй не заўважыў, як да яго падышоў бацька. За плячыма ў бацькі былі вілкі з граблямі, якія прытрымліваў адной рукой, а ў другой нёс складзены ў столкі повад. Паглядзеўшы, як Андрэй рве на кавалкі падарожнік і прыкладвае да рукі, Раман скінуў з пляча вілкі з граблямі на пакошу, паклаў на зямлю повад, зняў з галавы картовую, не адзін год ношаную шапку-кепку, паправіў на галаве свае сівыя, яшчэ даволі густыя валасы.

— Адвук, мой сыне, ад нашаго занятку-клопату, бач, ты за работу, а мульмо за цело.

«Мульмо» на бацькавай мове, ведаў Андрэй,— гэта мазоль.

— А я грэшным дзелом думоў,— не маўчаў Ра-

ман,— што ты тут за ранок уваб'еш і на Йванаве селішчэ са мною пойдзеш, там такая дзятлавіна, на том тыжні я згроб і ў кап'які склаў, але ж дождж намачыў, трэ прасушыць, дай не скасіў я там трохі.

Андрэй ускіпеў:

— Пасядзеў бы трохі, тато, дома, аддыхнуў бы, дык не, і мяне запрог, і сабе пасядзець не дасі, хіба табе больш чым каму трэба?

— Ох, мой ты сыне, ты ж сам вурас на сяле, знаеш: летом му як пчолкі шчыруём, за цэлы дзень прысесці нямаш калі, бо хто зарэз залянуецца, той дажджэцца, калі жаба цыцкі дась.

— Самі сабе работу выдумляеце, не можаце, каб пасядзець спакойна, хіба калі ў вас сена не хватало?

— То-та ж, аніколі такого не надараласо, а чаму? Таму, мой сыне, што калі наступае лето, то я й дома не стыкаюса: там каляснік уваб'ю, стуль повадом нанашу. От празявай я дзятлавіну на Йванавом селішчы, то заўтрэ ж нехто вуперадзіць мяне.

Андрэй выцягнуў з рада доўгую шаўкавістую травіну, сунуў яе ў рот, перакусіў папалам.

— І так усе ў сяле робяць сено? Дзе повадам, а дзе каляснікам?

Раман прайшоў уздоўж пакошы, узяў з рада траву, панюхаў яе, кінуў на рад.

— Бутто не чуў ты аніколі і не ведоў, што хто ў калгасі, а хто ў лясніцтве на працэнты сено робіць? А што, па-твойму, маленькія балацянкі, дзе не пусціш сенакасілку, ды лужкі, дзе не косіць калгас, хай гінуць, хай трава на іх сохне, вугарае, пропадом прападае? Трава ж на такіх узболатках і лужках дай божэ, сено з яе як чай, грэх абходзіць і не касіць такую траву.

Сонца тым часам паднялося высока, яно свяціла-палымнела ярка-белым шарам над дахамі дамоў, дрэвамі, лугамі. Ад зямлі, якую за ноч добра вымачыла,

падымаліся лёгкія і гарачыя воблачкі туману-выпарэння. Зноў, як і ўчора днём, станавілася душна. Пазалазілі ў цянькі-схованкі і не падавалі голасу сабакі, не стала відно на дварах курэй — яны зашыліся на свае седала, дзе не даставалі іх сліпучыя промні. Вераб'і, што ўсхадзіліся былі зранку, бездапаможна апусцілі крылы, купаліся ў засохлай гразі і бесперапынна пілі ў дажджавых лужынах ваду, якая пакуль не паспела выпарыцца-згінуць.

Андрэй з бацькам пахавалі косы пад траву, а самі перайшлі да тоўстай, немаладой ужо, бярозы, што расла ў канцы сотак, і прыселі ў цяньку. Да іх неўзабаве падышла Ёўга. У руках яна трымала серп, за плячыма ў яе вісеў на канаплянай вочапцы стары дзіравы кашэль, у які яна жала траву.

Абвёўшы позіркам лужок, які Андрэй за ранак выкасіў ледзь не ўвесь, Ёўга неспадзявана для Андрэя ўсхліпнула, паднесла да вачэй беражок хусткі, што прыкрывала яе галаву.

— Сказаў бы, Рамане, хто, што ў цябе дзеці неслухі ці лайдакі — не паверыла б. Глядзі ты, твой Андрэй і часіну добрую вуброў, коб прыехаць і пасабіць, а мой жэ Сашык і не паказваецца каторы месяц, яму і неўгадно, што я старая, рукі свае ўварвала над етымі дрыўма да над сеном.

Андрэй падняўся з зямлі, узяўся рукой за нагрэтую на ствале бяросту, убачыў, што ўпэцкаў у белае далоні, стаў выціраць рука аб руку.

— Вы, цётачко, думаеце, што мы ў горадзе гулі гуляем, думаеце, адтуль так проста вырвацца? У рабочых жа водпуск па графіках, мо вашаму Сашу цяпер і не графік, але ж я знаю Сашу, ён знойдзе дзён колькі, адгулы ж, пэўна, ёсць у яго, і ён прыедзе, ну, а калі не прыедзе — я вам памагу, водпуск у мяне доўгі.

Трохі памаўчаўшы, Андрэй накінуўся і на Ёўгу, і на бацьку:

— Даліся ж вам вашы гаспадаркі, ніяк расстацца з імі не можаце, папродалі б свае каровы-цяляты ды ў горад, да нас.

— Во-во, ён як толькі прыедзе, не паспее ступіць на парог і адразу за сваё: пераязджай да яго, і ўсё тута. Добрэ яму казаць, а мне як? Гэта на старасці цягнуцца ў белы свет, прывукаць да новаго месца і адвукаць ад старого? А мо я і не даеду туды? Мо не прыжывуса? Дак не, ён таго і ў галаву не бярэ,— узарваўся, хадзіў вакол бярозы Раман, глядзеў то на Андрэя, то на Еўгу.— Не, давай ты лепш да мяне з усёй сям'ёй, хата вялікая, усім месца хопіць, а ў твой горад — не-е, і не падумаю.

Рамана падтрымала Еўга:

— Канечне, як ты кажэш, Андрушка, папродаць усё можна. Вунь маладыя цяпера і ў нас у сяле багато хто не дзяржыць карову, у лаўку ходзяць за малаком-маслом. Праўда, у лаўцы цяпера прадаюць усё, што хочэш, але як на мяне, то лепш усё ж сваё мець, му прывуклі да свайго і не адвукном, позно ўжэ нам адвукаць.

Андрэй пазіраў на сутуленае, немаладое Еўжына цела, на яе бяскроўныя, запалыя шчокі, на парэпаныя ад штодзённай работы пальцы на руках. Пазіраў і думаў, колькі гэтая жанчына перарабіла за свой век работы, колькі яшчэ зробіць. А бацька? Хіба мала яму дасталася?

Доўга не спускаў Андрэй сваіх вачэй з бацькі і Еўгі. І ўвесь гэты час ён думаў пра тое, што вось яны нарадзіліся, выраслі і састарыліся на вёсцы. І ўсе іх доўгія гады прайшлі ў рабоце: у рабоце раслі, радаваліся, гадавалі дзяцей. І цяпер, на старасці, яны не могуць без гэтай спрадвечнай сялянскай работы. У кожнага ж гаспадаркі, а гэта значыць: увесь агарод, карова, свінні, цяля з зімняга ацёлу, куры — усё на іхніх плячах.

Вакол па-ранейшаму парыла, ад зямлі веяла цяп-

лом, тым, што спела на агародах і ў полі. Андрэй пагля-дзеў удалечыню, туды, дзе за сажалкай ледзь віднелася калгаснае поле, на якім суцэльнай сцяной стаяў ячмень. Раніцай ён бачыў, як ад дажджу ў многіх месцах ячмень палёг, а цяпер, пры сонейку, выпрастаўся, падняўся, слаба калыхаўся. І яму раптам падумалася, што ён ніколі не пакідаў дамоўкі, а заўсёды жыў тут, з бацькам і ля бацькі, з гэтымі палямі, на якіх усё калышацца-каласіцца, даспявае, цвіце, зелянее. Яму ў гэтыя хвіліны ніяк не верылася ні ў доўгае расстанне з усім гэтым, ні ў далёкія паездкі, што аддалялі яго ад дому, ад свайго блізкага і роднага на ўсё жыццё кутка.

Андрэй знайшоў пад радам касу, перакінуў яе цераз плячо і, ні слова не кажучы, некуды падаўся. Раман наўздагон спытаў:

— Куды цябе панясло? Пераседзеў бу хоць ету спякоту.

Андрэй павярнуўся, убачыў, што бацька ўзяў вілкі, граблі, повад і даганяе яго.

— Куды? — без злосці перапытаў ён бацьку.— Табе не ўгодзіш: сядзіш — пагана, і не сядзіш — таксама нядобра. Ты ж мне за ранак вушы празвінеў пра Йванава селішча — туды і пайду, дакашу тваю дзялянку.

## Калі трэба жыць

Другі год Раманьчук жыве адзінока. Жонка яго пазалетась памерла, памерла нечакана, бо ніколі не хварэла і не ведала дарогі да ўрачоў, ніводнага разу за ўсё сваё жыццё не ляжала ў бальніцы, і пасля яе нечаканай смерці няўтульна стала Раманьчуку ў хаце, сцены якой здаваліся яму халоднымі, настылымі. І мо ад свайго адзіноцтва ці яшчэ ад чаго, але пасля смерці жонкі Раманьчук здаваўся ўсім непадобным на сябе, вельмі перамяніўся: стаў ваўкаватым, нелюдзімым. Жывы свет як бы страціў для яго свае яркія фарбы, патануў у нейкі змрок.

— Э-э, ды ты зусім раскіс, Лявон Апанасавіч,— казаў яму на рабоце памочнік, Васіль Лук'янчык.— Таго-етаго, так нельга, нештачкі трэ рабіць, а табе ў галаву штосьці ўзбрыло і ніяк не выскачыць адтуль, трэ жыць, панімаеш, жыць, ты агляніся наўкруг сябе — кругом жа столькі добраго, радаснаго.

Раманьчук прыслухоўваецца да Васілёвых слоў, думае: малады ў яго памочнік, добрай душы чалавек, толькі вось бы прырасло да яго гэтае недарэчнае «таго-етаго», і ён плявузгае-ўжывае яго дзе трэба і дзе не трэба. Праўда, ён мала і ўвагі звяртае на яго гаворку, прывык да яе, як і прывык да самога Васіля.

Раманьчук доўга не спускае вачэй з Лук'янчыка, думае: «Улез бы ты ў маю скуру, паглядзеў бы я, як заспяваў бы ў мяне. Чужую бяду развясці можна, чужая бяда не свая...»

Твар у яго сухі, валасы, прымятыя шапкай, здавалася, ніколі не падалі на лоб, а бровы сыходзіліся да пераносіцы. У шэрых вачах апошнім часам можна ўба-

чыць многа суму, тугі, бязрадаснага: іншага чалавека адзін погляд яго вачэй мог бы навясці на чортведама якія думкі.

Работу сваю ў калгасе яшчэ добра робіць Раманьчук: абодчык ён, гне абады для падвод. Праўда, коней у калгасе становіцца меней і меней. І падвод трэба меней, але ўсё ж без іх пакуль не абысціся, як і не абысціся калгасу без Раманьчука: апроч яго ніхто так добра не ўмее гнуць абады.

Яны моўчкі робяць работу. Лук'янчык, праўда, усё спрабуе разгаварыць Раманьчука, углядаецца яму ў твар, заўважае: «Здаў, моцна здаў калгасны абодчык пасля таго, як пахаваў жонку, нос у яго завастрыўся, вочы быццам праваліліся ў вачніцы».

Раманьчук бачыць, як Васіль глядзіць на яго са шкадаваннем, і яму становіцца нядобра ад таго, што яго шкадуюць. Ён злуецца сам на сябе: «І праўда, трэ браць сябе ў рукі. Хіба мала хто застаецца на старасці адзін? І жывуць жа неяк, а я во яшчэ і хаджу, і работу якую хочаш магу зрабіць».

І Раманьчук з ахвотай пачынае гаварыць з Васілём. Праўда, голас у яго сёння ціхі, бы аднекуль з-пад зямлі ідзе.

— Трэ, Васіль, у кузні парадак навясці: глянь, вокны і сцены бы затуманены, пылу на палец, не меней, на іх.

Васіль падыходзіць да жалезнай бочкі, што стаіць ля ўвахода і наліта да самых краёчкаў вадой, чэрпае з бочкі поўнае вядро вады, знаходзіць у цёмным куце стары аблузаны знізу дзяркач, мачае яго ў вядро з вадой і пырскае на падлогу, на сцены. Яму становіцца радасней, што сёння Раманьчук трохі бы ажыў, бач, і пра работу загаварыў, і непарадак прымеціў. І ён рашыў яшчэ болей падбадзёрыць-разгаварыць старога абодчыка.

— Жаніліся б вы, Апанасавіч, колькі ў нас у сяле

жанок вашых гадоў, усе маюцца ў адзіноцтве, а сышліся б — і весялей было б, усё ж удваіх.

Раманьчук пайшоў на двор і стаў корпацца ў кучы нядаўна прывезеных і абы-як скінутых з машыны дубовых і бярозавых загатовак, з якіх ён з Васілём гне абады. Адбіраў сухія і лепшыя ўбок, казаў Васілю:

— Табе, Васіле, абы пасмяяцца са старога чалавека, смейся, смейся, дажывеш да маіх гадоў, тады смяяцца не станеш, поймеш сам, што такое старасць.

Прынёсшы ў кузню і ўставіўшы ў станок адну загатоўку, Раманьчук зіркнуў на Васіля і махнуў рукою: «Ат, што табе назаляць».

Толькі Васілёвы словы пра жаніцьбу запалі яму ў душу. Ён і сам учора аб гэтым жа думаў, калі хадзіў на могілкі да свае жонкі і ўбачыў там Хведараву Аксеню.

Ён увесь дзень гнуў з Васілём абады, выносіў іх на двор, ставіў да сцяны, закурваў, думаў: «Жаніцца? Хм, але ж і лезе ў галаву ўсякае глупства...»

Загаварыць жа з Васілём пра тое, што рабілася ў яго сёння на сэрцы, Раманьчук не асмеліўся. Ён выходзіў на двор, пазіраў у бок вёскі, якая стаяла блізка ад кузні на ўзлобку і выступала рубленымі хатамі. Як не на сярэдзіне вёскі яго дамок з пунькай і садам, у садзе тым усё лета гудуць пчолы. Уяўленне як бы ўводзіла зараз Раманьчука адсюль, з кузні, і вяло туды, да сваёй хаты, дзе прайшлі яго ранейшыя гады, дзе жыве ён цяпер.

Ясны летні дзень карацеў, меншаў, але Раманьчук так і не загаварыў за ўвесь дзень з Васілём пра тое, што вярэдзіла яму душу. Ён пакідаў гэтую гаворку на пасля. Бо хоць ён і цаніў, і паважаў Васіля, але думаў, што не з ім трэба гаварыць пра гэта.

У Раманьчука ёсць чалавек, з якім ён можа пагаварыць аб усім на свеце. Гэта яго суседка Настаха.

Назаўтра, як толькі паспеў падаіць і выгнаць на

пашу карову, выпаліць у печы і паснедаць, Раманьчук выйшаў на двор, убачыў Настаху, пачаў хваліцца, што яго сын, Андрэй, у адведкі прыязджаў надоечы. Настаха ведае: Андрэй Раманьчукоў даўно пасяліўся ў горадзе, там завёў сям'ю і да бацькі прыязджае зрэдку.

— Што мне за карысць з яго прыездаў? — скардзіцца зараз Раманьчук Настассі, якая з маладых гадоў жыве, як і ён цяпер, адзінока.— Прыедзе на дзень-два, нагрузіцца салам, мёдам, насыпле картопель, куру засячэ — і толькі я яго і бачыў.

— Хіба ж табе шкода свайму дзіцяці? — глядзіць Настаха строгімі вачыма на Раманьчука.

— Пра што ты гаворыш, суседко? Не шкада мне, але крыўдно: гадаваў, гадаваў, а вось калі занядужаю, то і вады ніхто не падасць, добра, што ногі яшчэ трохі носяць.

Калі Раманьчук гаворыць пра гэта, то ўвачавідкі мяняецца яго твар, пачынаюць дрыжаць вусны, голас становіцца перарывістым, і ён, здаецца Настассі, ледзь стрымлівае сябе, каб не заплакаць. Настаха прывыкла да таго, што калі Раманьчук апошнім часам пачынае згадваць сына, то ледзь не душыцца слязьмі. Яна слухае яго ўважліва, хмурыць свае чорныя бровы, пачынае супакойваць суседа.

— Цяпер час такі,— кажа Настаха.— Усе дзеці едуць ад бацькоў, уладкоўваюцца ў гарадах. Вунь мая родзічка са Старога Сяла прыходзіла надоечы, прасіла, каб грошай пазычыла. Дачка яе ў Гомлі жыве і робіць там на нейкай рабоце, на капірацыю просіць у маці, а маці хіба адмовіць, хіба яна не хоча, каб яе дзецям жылося добра?

— То-та ж,— перабівае Настуху Раманьчук.— Вунь і мой не адстае: мэблю дарагую надумаў купляць, падыходзіць чарга, а грошай не хапае, дык бягом да бацькі.

Раманьчук засмяяўся дробным, кароткім смехам.

— Дзе ж я вазьму тыя дзве тысячы? З-пад зямлі выкапаю? Раней трохі было, то жонку калі хаваў растраціў, а цяпера во шыферу з лесам выпісаў, каб хату трохі падладзіць, а то яна ў мяне ў зямлю ўехала, у страсе дзіркі свіцяцца...

— Ды калі сын просіць, то, мусібыць, знае, што ёсць?

— Знае, знае,— передражніў Настаху Раманьчук сярдзітым голасам.— Кажа, каб хату прадаў і да яго перабіраўся, ужо і купцоў прысылаў.

Калі Раманьчук сказаў гэтыя словы, Настассі стала страшна, яна раптам уявіла, што Раманьчук возьме ды папраўдзе з'едзе туды, у горад, і не будзе ёй з кім і словам перакінуцца. Ад гэтай думкі ў яе бы адняло язык, і яна якую хвіліну не магла паварушыць губамі. Хоць не вельмі яна і таварышавала з Раманьчуком, а ўсё ж суседзі, колькі гадоў жывуць побач. Толькі Настаха хутка ўзяла сябе ў рукі, пабаялася, каб Раманьчук не прыкмеціў яе хвіліннага замяшання і не падумаў яшчэ чаго.

— І ты згоду сваю даў? — супакоіўшыся, папытала Настаха.

— Пра якую згоду ты кажаш, Настахо? Сэрцам чую — нявестка ўсё наводзіць майго Андрэя, скупая яна ў яго, усё ёй мала, усё ёй трэба.

І як бы над нечым падумаўшы, пасля кароткага маўчання Раманьчук яшчэ дадаў:

— Ды яно, канечне, Андрэй мой перажывае за мяне, хоча, каб дагледжаны быў, і, канечне, хату можна было б прадаць і ехаць да сына, але не жыток я ў горадзе: да зямлі прывык, свой век па зямлі хаджу, дахаджу і апошняе, ці многа мне засталося.

Кажучы пра Андрэя, згадваючы нявестку, Раманьчук прыпомніў, як Андрэй прыязджаў нядаўна да яго з дачкой Наталляй. Жонка з ім той раз не прыехала. «Занятая яна, не мае часу»,— растлумачыў Андрэй.

Але Раманьчук больш радаваўся, што Андрэй прывёз унучку. Ён браў на рукі Наталку, маленькую, чарнявую і вясёлую дзяўчынку, якой вось-вось споўніцца тры гадочкі. Браў, падоўгу не выпускаў з рук, пытаўся ў дзяўчынкі: «Мо астанешся ў дзеда Лявона, паглядзі, колькі ў мяне пад акном кветак, а хутка ў садзе наспеюць яблыкі». Наталка нічога не казала яму на гэта, вырывалася з рук, бегала па хаце, дражніла дзеда: «Дагані!» Раманьчук рабіў выгляд, што даганяе, але дагнаць не можа: «Ах ты, насмешніца мая дарагая!»

Усё гэта згадалася Раманьчуку вельмі хутка, і ён зноў гаманіў з Настахай. Ён гаварыў са свайго агарода, а Настаха са свайго. Раздзяляў іхнія агароды вузкі затравелы ўзмежак. Па абодва бакі ўзмежка на доўгіх загонах цвіла сіне-белым цветам бульба, у вузкіх разорах расцягнуліся доўгія павады гарбузніку, над вялікімі жоўтымі кветкамі якога кружыліся пчолы. Буяла лета.

Раманьчук яшчэ доўга гаварыў з Настахай Змітровай, даводзіў, як яму нялёгка зараз аднаму. Ён ужо каторы раз пачынаў з ёй адну і тую ж гаворку, усё спрабаваў падысці да Настахі перш здалёку, а потым і напрамкі. Але Настаха і слухаць не хацела пра тое, каб сысціся з Раманьчуком.

— Людзей на старасці гадоў смяшыць? — казала яна.— Пражыла ў маладыя гады адна, пражыву і цяпер.

Раманьчук, поўны разгубленасці, раззлаваўся, закурыў, сеў на ўзмежак.

— Не змянілася ты, Настахо, пылу ў табе ані не паменшала, нічаму путнаму жыццё цябе не навучыла.

Яшчэ ў маладыя гады Раманьчук пакахаў Настаху. Але пасватацца да яе так і не пасватаўся. Яму было знаццё: у Настахі ёсць хлопец, з суседняе вёскі,— Васілём звалі яго. Хлопец як хлопец: стройны, высокі, з русым чубам на высокім ілбе. Моцна пакахала Наста-

ха Васіля, не магла жыць без яго і называла «саколікам ясным». Але з Васілём здарылася бяда — на лесанарыхтоўцы працаваў ён, і Раманьчук дакладна не ведае, але ўсе казалі, што на яго дрэва ўпала і забіла насмерць. Цэлы год Настаха не вылазіла з хаты, аплаквала свайго каханага, а калі дзе і паказвалася, то была чарней за ноч. Людзі казалі, што пасля году яна адыдзе, не сядзець жа ў дзеўках такой прыгажуні.

Толькі і пасля году Настаха не вылазіла з хаты. З дому на работу, з работы дадому. Да яе прыходзілі ў сваты вясковыя хлопцы, але яна ўсім давала «па гарбузу» — наадрэз адмаўляла. Казала:

— Знайшліся мне жаніхі! Ні росту ж вам бог не даў, ні голасу, ні сілы. Хіба я магу пакахаць чалавека, у якога ні кожы, ні рожы?..

Жаніхі беглі ад Насташынай хаты без аглядкі: яе насмешкі праціналі наскрозь кожнага, і мала хто з жаніхоў асмельваўся сватацца другі раз. Баяўся, каб ад сораму, якога Настаха ўмела нагнаць не задумваючыся, скрозь зямлю не праваліцца.

— Чорт ты з лазы, а не дзеўка! — казала ў злосці Настассі маці.— І ў каго ты такая ўдалася?.. Хіба вунь Лявон, сусед наш, не пара табе?

Яна адказвала маці:

— У каго ўдалася, мамо? У цябе ці ў бацьку, яблыка недалёка падае ад яблыні, і сава не родзіць сакала, а такога чорта, як сама, так што ты не паказуй на мяне пальцом. А Васіля не магу забыць, вось тут ён у мяне сядзіць, саколік мой ясны,— прыкладвала Настаха руку да сэрца.

Наўрад ці здагадвалася тады Настаха пра тыя пякучыя пачуцці, якія нараджаліся ў Лявонавым сэрцы пры адной толькі думцы аб ёй, Настассі. Колькі бяссонных начэй правёў Лявон у тыя гады, колькі тугі месцілася ў яго сэрцы і душы! І якімі кароткімі здаваліся Лявону вечары, калі яму ўдавалася сустрэць

Настаху, загаварыць з ёю. Але ён бачыў: сустрэчы з ім не радуюць яе, вочы ў яе невясёлыя, ніводнай яркай іскрынкі ў іх...

Страціўшы надзею на Настаху, Раманьчук ажаніўся на ціхай непрыкметнай дзяўчыне, якую звалі Ганнай, нарадзіў і выгадаваў з ёю сына. Кахаць Ганну ён моцна не кахаў, але адносіўся да яе добра, з павагай, не крыўдзіў асабліва яе і не змяняў ёй. Жылося яму з ёй спакойна. Пры Ганне ў хаце заўсёды быў парадак, кожная дамашняя рэч ляжала на сваім месцы, ёй адведзеным. І ён быў дагледжаны, заўсёды хадзіў у чыстым: як не кожнага тыдня, няхай то была зіма, лета ці восень, Ганна хадзіла на рэчку мыць бялізну, несці якую туды памагаў ён, Раманьчук. І заўсёды бялізна, выбітая Ганнай пранікам на рэчцы і выкачаная дома качалкаю, пахла свежым ветрам.

Толькі хоць і добра жылося яму з Ганнай, ён доўга яшчэ ўздыхаў па Настассі. Але паступова яго сэрца спакайнела, гады бралі сваё, і, мабыць, толькі тое, што жыў з Настахай па суседству, іншы раз напаміняла яму пра яго няспраўджанае каханне.

А цяпер, калі ён, Раманьчук, нечакана аўдавеў, а Настаха ўсё яшчэ заставалася адна, ён ніяк не мог зразумець і даўмецца, што за чалавек яго суседка. Праўда, ён не перажываў, што Настаха адмахвалася ад яго, як адмахваюцца ад надакучлівай мухі, не крыўдаваў і не злаваўся, рашыў: «Прывыкла жыць адна, таму і на старасці ёй боязна думаць пра тое, каб з некім з мужчын сысціся. Ды калі паглядзець з другога боку, яна — жанчына, а жанчыне адной прасцей пражыць, чым яму, мужчыне».

Апошнім часам яны жылі так, як жывуць у вёсцы добрыя суседзі. Вясною памогуць адзін аднаму пасеяць соткі, увосень выкапаць бульбу, прывезці з лесу дроў, закітаваць увосень вокны, каб не дулі халады...

Другі ж раз, так як сёння, і пагамоняць пра тое ды

пра гэта. Настаха, праўда, не можа, каб не ўкалоць, не зачапіць яго: «І не надаело табе, Лявонко, думаць пра тое, каб сышліся?»

Скажа так, а сама і падумае: «Якое ж сэрца трэба мець, якія нервы, каб дасюль на нешта яшчэ спадзявацца? Ці не лягчэй на яго месцы махнуць на ўсё рукой?»

Думае пра гэта, а ў душы варушыцца і другое: гора, адзіноцтва цяпер перамяшаліся ў яго жыцці, і чым іх суняць, суцішыць? Хіба гэтымі гамонкамі? Хадзіць яны нікуды і ні да каго не ходзяць, а пагаварыць пра тое, што на сэрцы, каму не хочацца?

Праўда, сёння ў Раманьчука да Настахі ёсць адна далікатная размова, але ён баіцца, што паспяшаецца і ўсё сапсуе. І таму ён пакуль чакае, калі Настаха разгаворыцца, памякчэе.

— Гуркі як у цябе, не пасохлі? — для адчапнога спытаўся ён у Настахі.

— Дак палію ж кажынны дзень, як вечар, так я за вёдры — і на гарод, бягу паліваць грады,— адказала Настаха і насцярожылася: Раманьчукова гаворка, адчула яна, сёння не такая, як заўсёды, нешта ён хоча сказаць, але што? І Настаха не дала сябе перахітрыць, стала падсцёбваць Раманьчука:

— Ты што мне ўсё ў вочы заглядваеш ды звініш, як той званок на повадзе? Лапочаш, лапочаш, а тое, з чым прыйшоў, усё хаваеш?

Раманьчук пыхкаў папяросай, густа пускаў дым, злаваўся: «Ну, цяпер ратуйся, Лявоне, гэтая змяя пачне хутка джаліць, а калі не ўджаліць, не ўкусіць — жывым не выпусціць». І ён, папраўдзе, стаў падумваць — казаць ёй ці не казаць пра свой душэўны намер? Трохі павагаўся, рашыў: «Была не была — скажу, мо й зразумее...»

— Ета бачыш, з табою дагаварыцца я не дагаварыўся, а і аднаму мне свет не мілы, не прывык я да

адзіноцтва, ад скрухі хоць ты ідзі ды ў рэчку галавой. І да сына не хачу — дома я гаспадар, а к яму паеду — і ступіць бойся не так, зноў жа ў горадзе я не жыток.

— Ты давай бліжэй, Лявоне, бярыся, а то так і да поначы мы не нагаворымся,— прыспешвала яго Настаха.

— Заўчора на могліцы я хадзіў. Агароджу жонцы паправіў, падфарбаваў трохі. Аксеню Хведараву там убачыў, мабыць, яна некага са сваіх адведвала, словам-другім перакінуўся з ёю. Яна ж адна ад самае вайны. Хведар яе недзе пад Берлінам ляжыць. То чаго пра яе табе кажу?

Пры гэтых словах Раманьчук скоса глянуў на Настаху. Яе від нічога добрага не абяцаў.

— Ведама чаго ты мне ўвесь ранок галаву дурыш,— смяшлівым тонам загаварыла Настаха.— Каб ішла за цябе замуж Аксеня, ці не?

Настаха больш не стрымлівала свайго смеху, зацяклася-зайшлася, бы ўдавілася гэтым смехам, перарывістым голасам казала:

— А ў цябе, Лявон, не паганае вока на баб, Аксеня — жонка дай божа кожнай у яе гадах быць такою.

— Я да цябе, Настахо, як да суседкі свае прыйшоў, а ты зубы барздджэй давай скаліць. Ты не смейся, што тут такога — жывому жыць, два гады прайшло, як Ганна мая ў зямлю лягла, перад богам і людзьмі я не грашу. Не ўсе ж могуць так, як ты — увесь век адна ды адна.

Гэтыя словы нядобра ўразілі Настаху, усмешку бы ветрам здула з яе вуснаў.

— Ты не лезь у чужое жыццё, са сваім лепей разбярыся, а чужога не чапай.

У Настахі, бачыў Раманьчук, перахапіла ў горле, бы там нешта засела, і яна ніяк не магла яго пракаўтнуць. Нейкую хвіліну яна, бы рыбіна, якую выкінулі на

бераг, лавіла ротам паветра. А калі ўсё гэта ў яе прайшло, яна зноў накінулася на Раманьчука:

— А жонку сваю ты хутка забыў. Забыў жа, га?

— Сарама табе, Настахо, няма, кажу ж, што ўчора на могліцы хадзіў, адведваў яе і паплакаў трохі.

— Добра, пагавару я з Аксеняй,— дала згоду Настаха.

— Давай зробім так,— сказаў ён,— у гэтую нядзелю ты пазавеш яе да сябе. У акно я ўбачу, калі яна паявіцца, і неўзабаве прыйду сам.

Яны разышліся. Раманьчук, праўда, пайшоў ад Настахі ў свой бок з няяснымі думкамі. І чым бліжэй ён падыходзіў да свае хаты, тым вастрэй адчуваў, як пачало нешта калоць у грудзях. Перад парогам ён спыніўся зусім, каб перачакаць, калі сціхне гэты нечаканы боль, што клубком падкаціўся да самага сэрца. Ён зразумеў, ад чаго ўсё гэта: ён баяўся, што Настаха, шэршань куслівы, зробіць назнарок усё так, каб пасмяяцца з яго, каб уся вёска на яго пальцам паказвала і зубы лупіла. Тады хоць з хаты не вылазь, ад сораму дзецца не будзе куды.

І Раманьчук павярнуў быў назад, каб сказаць Настассі, што ён усё перадумаў, што проста пажартаваў наконт жаніцьбы. Але пастаяў, пастаяў трохі, падумаў, рашыў: ліха з ёю, хай пагаворыць з Аксеняю, там відно будзе, што з усяго гэтага выйдзе. Толькі адзін у нядзелю да Настахі ён не пойдзе, а для кампаніі і смеласці запросіць з сабою Лук'янчыка.

Канец дня Раманьчук правёў у клопатах па гаспадарцы. Насек парасяці зелля, падкінуў карове ў хлеў падсцёлу, запаліў дымара, надзеў на галаву сетку, паглядзеў пчолы: ці хутка пачнуць раіцца маладыя сем'і. Пасля схадзіў у магазін, купіў тое-сёе з прадуктаў і паўлітру гарэлкі. Загадчык магазіна, высокі, з залысінамі на лбе мужчына гадоў сарака пяці, здзівіўся, што Раманьчук бярэ гарэлку.

— Гасцей чакаеце, Апанасавіч?

Ён не захацеў уступаць у размову, для адчапнога сказаў:

— Сын з нявесткай прыязджае.

У гэтую ноч яму не спалася. Варочаўся з боку на бок, а як толькі закрываў вочы, што-небудзь сніў.

Перш прысніў жонку. Вось яна прыйшла з рэчкі з выпранаю бялізнаю, крычыць яму з двара:

— Лявоне, дзе ты там? Ідзі памажы развешаць, а то рукі ўварвала.

Ён бярэ белую-белую прасціну, вільготную і мяккую, якая моцна пахне ветрам, рачной травою, вадарасцямі, і спрабуе яе павесіць на нацягнутую паміж дрэвамі ў садзе вяроўчыну. Але, як на ліха, усхадзіўся вецер, а прасціна доўгая, шырокая, зблыталася, і ён усё распрастаць яе не можа.

Потым жонка некуды знікае, і ён бачыць у сне другое.

Ён прыехаў да сына, які жыве ў вялікім-вялікім доме з некалькіх паверхаў. Сын, здаецца, на трэцім жыве. Вось ён падняўся, націснуў на кнопку званка. Адчыніла нявестка, і ён у прахожай убачыў унучку — Наталлю, якая нечым забаўлялася. Яму хочацца кінуцца да ўнучкі, узяць яе на рукі, прыгарнуць да сябе. Але нявестка не запрашае яго ў кватэру, і яны моўчкі так і застылі ля дзвярэй, не ведаючы, што казаць і рабіць.

Толькі к самай раніцы сны перасталі адольваць яго, і Раманьчук паспеў трохі адпачнуць, супакоіцца.

Раніцай Раманьчук не пайшоў, як звычайна, у кузню, а накіраваўся ў Астроўкі, у лес. У Астроўках багата маладой бярозы, дуба, граба, з якога сама гнуць абады. За лета трэба нарыхтаваць загатовак на ўсю зіму, а то ж зімой у Астроўках накідае столькі снегу, што туды не толькі падводай ці машынай не ўехаць, а і нагой не ступіць.

Астроўкі пачыналіся адразу за вёскай. Лес бы расступіўся перад ім, адкрыўшы яго вачам невялікія палянкі, узгоркі-выспы, парослыя маладой альхой, а далей — бярозы, пасярод бяроз — клён, граб... Тут і там ляжалі паваленыя ветрам-бураломам дрэвы, даўно, відаць, паваленыя, бо яны паспелі пакрыцца зялёным мохам, а збоку — абраслі дробным бярэзнікам. Раманьчук хадзіў сюдою не раз, але сёння бы ўпершыню прадзіраўся скрозь густыя зараснікі, пераступаў гнілую калоду, што мёртва ляжала на дарозе.

Яго ўжо чакаў Лук'янчык. Дакладней будзе сказаць, не чакаў, а стаяў наўколенцах і падпілоўваў лучковай пілой стройную бярозу, галіны на якой пачыналіся ледзь не ля самага шчыка. Піла ў Лук'янчыкавых руках хадзіла хутка, і з-пад зубоў пілы на зямлю сеялася-сыпалася дробная белая тырса, вакол камля з яе ўвачавідкі насыпаўся-ўтварыўся невысокі курганок.

— Бог у помач! — знарок жартаўліва павітаўся Раманьчук.

— А-а, ты, Апанасавіч, я вось ужо трошкі ўправіўся,— адарваўся Васіль ад работы, паглядзеў у яго, Раманьчукоў, бок.

Да абеду ўдвух яны зрэзалі, абцерабілі і знасілі ў адно месца столькі сгвалоў, што і на адну машыну не забраць.

Рабілі работу і перамаўляліся. Лук'янчыку ўсё карцела спытаць у Раманьчука, аб чым гэта ён учора з Настахай гаманіў: ён, калі яны гаманілі, ішоў па ваду і бачыў іх, бо яго хата ад Раманьчуковай блізка. Увесь дзень яму карцела дазнацца, што там за сардэчная размова адбылася ў іх. Але ён так і не адважыўся, не спытаў. Баяўся: а раптам Раманьчук раззлуецца? Ды і якое ён мае права лезці чалавеку ў душу?

Раманьчук жа ўстаўляў у гаворку кароткія фразы, гаварыў стрымана, баючыся адразу паказаць, як яму хочацца сёння параіцца з ім, з Лук'янчыкам. Параіцца

і папрасіць яго быць сватам. Але ён асцерагаўся навязвацца адразу з гэтым, баяўся, што сказане якое-небудзь грубае слова і выкліча ў Васіля толькі ўсмешку. К абеду ж яны добра разгаварыліся, і Раманьчук сказаў вельмі проста і звычайна:

— Жаніцца надумаў я, Васіль, такія, браце мой, справы.

Васіль як нёс бярозавае палена, так і застыў з ім на паўдарозе да таго месца, дзе складвалі.

— Жартуеце, Лявон Апанасавіч!

— Ты мяне, Васіль, не адзін год ведаеш: хіба я калі чым-небудзь сур'ёзным жартаваў?

— Ды я што, ды мне...

Лук'янчык не смяяўся з яго, як Настаха, а ўспрыняў тое, што сказаў яму Раманьчук, сур'ёзна. Але некаторы час ён маўчаў, не трапляючы патрэбных для гэтае гаворкі слоў.

— Ты думаеш, для чаго табе кажу пра гэта? — наблізіўся Раманьчук да Лук'янчыка.— У нядзелю пайду да свае суседкі, у яе і абгаворым усё як след з Аксеняй Хведаравай — да яе і маю намер пасватацца.

— Добрая баба, таго-етаго, гаспадарлівая, адна, а хату якую прыдбала! Многія мужыкі такое не маюць.

— Ты пачакай, дай дагаварыць,— перабіў Лук'янчыка Раманьчук.— Аднаму мне не з рукі неякісці да Настахі, а з табою ўсё ж смялей, ды і сватам прашу цябе быць.

— Гм,— ухмыльнуўся Лук'янчык,— сватам дык сватам, ніколі яшчэ не быў сватам, але, калі трэба, таго-етаго, то чаго ж, магу. І кажаш, ранічкай у нядзелю прыйсці? Прыйду, таго-етаго, за мною затрымкі не будзе, у касцюм новы з гальштукам з такое нагоды прыбяруся.

— Ды глядзі ў мяне, каб без гэтага! — пстрыкнуў Раманьчук сябе пальцам па шыі.

— Прыйду свежы, як раса, але каб пачастунак ужо быў, таго-етаго...

Як і дамовіліся, у нядзелю Настаха пазвала да сябе Хведараву Аксеню. Раманьчук з Лук'янчыкам сядзелі ля акна, што выходзіла на вуліцу, бачылі, як Аксеня, па-нядзельнаму апранутая, падышла да дзвярэй Насташынай хаты, адчыніла іх.

Пакуль Раманьчук з Лук'янчыкам ступілі ў Насташыну хату, паміж Настахай і Аксеняй адбылася размова.

Аксеня, паўнатварая, каратканосая, з закручанымі назад жмутом валасамі, якія прыкрывала чорная квяцістая хустка, сядзела на самаробнай канапе і парэпанымі ад работы пальцамі церабіла ражок хусткі. Насупраць яе, на дубовым масіўным услоне, сядзела Настаха. На яе круглым твары з вялікімі вачыма, у якіх ігралі-паблісквалі агеньчыкі, затаілася іранічная ўсмешка.

— Жывом адзін каля аднаго, а ў хату ніколі і не зойдом,— кажа Настаха.

— Не гавары, суседачко: як прыйдзе гэтае лето, то і духу няма калі перавясці.

— Усё за работай ды за работай,— ухапілася Настаха за Аксеніны словы, пачала набліжацца да патрэбнае гаворкі.— Якая ў нас з табою жытка? Як у таго гароху пры дарозе.

Аксеня насцярожылася, адчула, што няпроста пазвалі яе сюды.

— Дак я і кажу,— працягвала Настаха,— што ў нас з табою за жытка?

— Чула я, Настахо, што ты за свой характар гаруеш адна.

— Добра, я з-за характара, а ты з-за чаго? Пасля ж вайны трыццаць гадочкаў мінула, можна было і табе якога ўдаўца прыгалубіць.

— Не прыгалубіла, як бачыш, бо былі спраўней-

шыя маладзіцы — ім знайшліся жаніхі, а да мяне чарга не дайшла.

— А каб пасватаўся хто? Пайшла б?

— Калі б добры чалавек знайшоўся, то чаму не? Калі трэба жыць, то і на старасці пойдзеш за каго-небудзь, многія сходзяцца і жывуць добра. Дай сама ты, Настахо, падумай, ці жаночая то работа — секчы дровы, касіць сена?

— То сёння я цябе і аддам замуж.

— Як гэта так аддасі? Перш трэба, каб жаніх быў, каб паміж мною і ім згода была.

— Жаніх ёсць, ён і прасіў пагаварыць з табою.

Настаха назвала Аксені Раманьчука. Аксеня ажывілася:

— Чалавек ён быццам рахманы, і гаспадарку вясці ўмее — стары, а і пчол не зводзіць, гарод у яго не запушчаны.

За гамонкаю яны не заўважылі, як на дварэ пацямнела, а пасля ціха прагрымела, і на зямлю хлынуў дождж. Па шыбках акон пацяклі струменьчыкі вады. Настаха і Аксеня каторы час маўчалі і не пачулі, як знадворку стукнула клямка, расчыніліся дзверы, і ў хату ўваліліся Раманьчук з Лук'янчыкам. Яны запыніліся ля парога, не ведаючы, што рабіць ім далей: ці праходзіць на покуць, ці трохі пачакаць. Настаха вывела іх з гэтага здранцвення.

— Праходзьце, добрыя людзі, сядайце, у нагах праўды няма.

Сказала і тут жа перавяла гаворку на іншае:

— Даўно дажджу не было, зямля, бы той прысак, і картоплі ў цурубалкі гоніць, цяпер мо хоць пад карчэм завязь паявіцца.

Раманьчук абвёў позіркам пакой, убачыў ля стала Аксеню, адзначыў: «І праўда, выглядае яна маладзей за свае гады».

Жанчыны сабралі на стол, Раманьчук дастаў з кі-

шэні пінжака бутэльку гарэлкі, і пасля першай чаркі гаворка пайшла сама сабой. Гаварылі жанкі, а Раманьчук з Лук'янчыкам больш слухалі.

Раманьчук, праўда, баяўся, каб Настаха чаго не сказанула, бо язычок у яе, бы ў шэршня джала — як высуне, так і ўкусіць, уколе. І каторы час ён, Раманьчук, сядзеў знерухомелы, наструнены, чакаў, што Настаха не вытрымае, сарвецца.

Але ўсё ішло добра. З жанкамі хутка згаварыўся Лук'янчык. Ён трохі выпіў і ўвайшоў у ролю свата.

— Ты не слухай, цётка Аксеня, што людзі скажуць, слухай мяне, бо лепей за мяне ніхто Лявона Апанасавіча не ведае, і скажу я табе...

Раманьчук сядзеў за сталом блізка ля акна, пазіраў на Аксеню і весялеў усёй душою, што цяпер і ў яго будзе выпалена ў печы, будзе каму ўчыніць і выпекчы хлеб (магазіннага ён не вельмі любіў), будзе каму падаіць карову, навесці парадак у хаце, памыць сарочку. Ведама ж, і ён пастараецца, каб Аксені з ім добра было. Ён мужчына, і гэта ўжо яго мужчынскі занятак-клопат: адкідаць зімою снег з двара, навазіць дроў, урабіць і прывезці з лугу сена.

Раманьчук наважыўся быў сказаць Аксені, каб тая хоць сёння да яго перабіралася. Аксеня быццам разгадала яго думкі.

— Перайду да цябе, Лявонко, пасля сельсавета. Спішамся ў сельсавеце — тады я твая, а да сельсавета — не, і не набліжуся да твае хаты, не хачу, каб людзі гаварылі.

Раманьчук выходзіў ад Настахі ў добрым настроі. Услед за ім клыпаў, падпіўшы, Лук'янчык, нарасцяжку гаварыў:

— Ты, таго-етаго, Апанасавіч, ад мяне сёння так проста не адбаярышся, з цябе, таго-етаго, яшчэ адна кварта.

Раманьчук мякка ступаў па мокрай зямлі, думаў,

што вось ён некаму яшчэ і трэба. Радаваўся сённяшняму дню, узіраўся ў росныя загоны бульбы, на лісці якой серабрыліся-звісалі маленькімі пацеркамі кропелькі дажджынак, думаў: «Вось добра, вось цудоўна! Як правільна я зрабіў, што пайшоў да Настахі не адзін, а з Васілём. Гаваркі і сардэчны чалавек Васіль, хай жа добранька жывецца яму, усё так хутка ўладзіў, я б адзін без яго, пэўна, разгубіўся б. Сапраўды, што мы без людзей?.. Старыя людзі ведалі, калі так гаварылі».

## Сонца садзіцца ў травы

Мой бацька, як вайна прыйшла ў нашу вёску, падаўся ў лес, стаў партызанам. Мне было ў тую пару гадоў шэсць, але я добра помню, як ён, сабраўшыся ў лес, сказаў мне:

— Прагонім, сынок, фашыстаў, і я вярнуся...

Маці, абняўшы бацьку абедзвюма рукамі за шыю, плакала. Бацька стрыманы, суровы, гатовы пераступіць цераз парог, пакінуць нас з маці, пайсці.

У вёску бацька зрэдку наведваўся. Не адзін. З двума-трыма партызанамі. Паяўляліся яны звычайна апоўначы, каб нікому іх прыход не кідаўся ў вочы і каб паліцаі не чапляліся да маці, да сямей іншых партызан.

Маці шчыльна завешвала вокны, запальвала агарак васковай свечкі, якая высвечвала цьмяным дрыготкім святлом.

Апрануты ў чорны, даваеннага пашыву аўчынны кажух, у шапцы-вушанцы, з заінелымі ад марозу бровамі і аўтаматам цераз правае плячо бацька са скрыпам расчыняў дзверы, распранаўся і браў мяне на рукі. Ад яго веяла холадам, пахла лесам. Маці гаварыла, каб хутчэй выпусціў мяне, а то я прастуджуся, і тады клопатаў не абярэшся — вайна ж: ні дактароў, ні лекаў. Бацька моўчкі слухаў маці, але з рук мяне доўга не выпускаў — цалаваў і моцна гарнуў да сябе.

Затым бацька і яго таварышы, што прыходзілі з ім, садзіліся за стол вячэраць. Вячэра, праўда, была позняя: мінула за поўнач і даўно адкукарэкалі першыя пеўні. Я тым часам займаўся бацькавым аўтаматам, ад

якога ён паспеў адняць невялічкае кола, у якім месціліся патроны — гэта, казаў ён, каб не стрэліла.

За сталом гаманілі. Пра што — я не разумеў, але пачуў імя Вайстрата. Гэтага рабога бамбізу я не любіў за тое, што ён называў мяне, калі я выбягаў на вуліцу, бандыцкім вырадкам і страшыў, што павесіць разам з бацькам на адной асіне. Вайстрата гітлераўцы прызначылі старастам, і ён ад усіх, хто жыў у тую пару ў вёсцы, патрабаваў здаваць для нямецкай арміі харч і цёплае адзенне. Але яго загады не выконваліся, і тады Вайстрат з некалькімі паліцаямі і двума фурманкамі раз на тыдзень заязджаў у кожны двор, сілком адбіраў у каго кабана, у каго качак ці гусей, карову або авечак. Людзі клялі рабога Вайстрата на чым свет стаяў, але зрабіць з ім нічога не маглі.

Але нядоўга разбойнічаў Вайстрат са сваёй зграяй. Аднойчы ранкам, калі вёска стала прачынацца, усе ўбачылі — на тоўстым дубе, што рос у канцы Піліпавых сотак, матлялася доўгае Вайстратава цела. Побач ляжалі трупы астатніх верхаўскіх паліцаяў. Усе ведалі: партызаны расстралялі паліцаяў.

А ў хуткім часе я і маці апынуліся на партызанскай базе: казалі, да нашай вёскі ідуць карнікі, суседнюю вёску яны датла спалілі разам з жыхарамі, і таму ўсе верхаўцы сталі хавацца ў лесе.

Сустрэў нас бацька ў летнім пінжаку, перапаясаны рамянямі, збоку на рамянях віселі планшэтка і наган.

— Вось тут і будзем жыць, пакуль не прагонім фашыстаў,— сказаў ён нам.

— А ці доўга чакаць гэтага трэба? — запытаўся я.

— Не, зусім нядоўга...

І праўда, усяго адну зіму прыйшлося мне пажыць у лесе, у зямлянцы. Мне тут падабалася і, па праўдзе кажучы, нават не хацелася назад у сяло. Я паспеў разведаць шмат дуплаў, гнёздаў і нор, у якіх вадзіліся дзятлы, коршакі, вавёркі, лісіцы і нават ваўкі. Калі

бацька дазнаўся, што я знайшоў воўчае логава, то забараніў мне аднаму далёка адыходзіць ад партызанскага лагера. Але бацька кожны дзень некуды знікаў, і я ўсё роўна бегаў да сваіх коршакаў, вавёрак і лісіц, ваўкоў. Я залазіў у самы шчык тоўстага, як абхапіць, дуба, дзе месцілася гняздо, браў у рукі маладога коршака, злазіў з ім на зямлю, падкідваў яго ўгору, хацеў, каб ён паляцеў. Але крылцы ў птушаняці былі зусім яшчэ слабыя, і яно, трохі праляцеўшы, бяссільна апускалася на зямлю. Тады я зноў браў птушаня за пазуху, узбіраўся з ім у шчык дрэва, клаў назад у гняздо, злазіў ■ дрэва на дол і ішоў да лісінай нары. Блізка да нары я не падыходзіў і назіраў здалёку са свайго сховішча за тым, як рыжая аблезлая за лета ліса выбягала з нары з чатырма маленькімі лісянятамі, вельмі падобнымі на сабачанят, і вяла іх да невялічкай балацянкі, у якой вадзіліся качкі. Старая ліса вучыла лісянят лавіць здабычу...

Але хутка, як і казаў бацька, наступнай вясной, мы вярнуліся назад у вёску — немцаў прагналі. Вёскі я не пазнаў: гітлераўцы яе спалілі, і ўсюды, дзе раней стаялі хаты, тырчалі цёмныя каміны.

Мы з маці і бацькам падышлі да нашага селішча, на якім высілася спрасаваная дажджом горка попелу...

У тую ж вясну я развітаўся з бацькам і больш яго ніколі не бачыў.

Помню, як я і маці ішлі разам з ім у Беражніцу, у часць, куды павінен быў з'явіцца бацька па мабілізацыі. На бацьку была ўжо ваенная форма: галіфэ, гімнасцёрка з чорнымі пагонамі, на якіх нашыты залацісты малаточак — бацьку прысвоілі вайсковае званне старшыны, на галаве пілотка з чырвонай зоркай.

Маці ўсё плакала, а бацька вёў мяне за руку і суцяшаў маці:

— Ну што ты, вайне хутка канец, і я вярнуся, і тады мы заўсёды-заўсёды будзем разам.

Перад самай Беражніцай і развіталіся мы з бацькам. Развіталіся назаўсёды. Пасля я доўга прыходзіў на гэтае месца, чакаў, што адтуль, з-за павароткі, пакажацца бацька, і я кінуся яму насустрач, скажу, як я сумую па ім і як доўга мы з маці чакалі яго. Але бацька ні разу не выйшаў адтуль, дзе дарога паварочвае з Беражніцы ў нашы Вярхі.

* * *

Пасля вайны мінула ўжо гады са тры. Вёска наша памалу перабіралася з зямлянак і куранёў у новыя сасновыя зрубы. Перабраліся і мы з маці ў невялічкую будыніну з жоўтых сасновых кругляшоў, з трыма невялікімі акенцамі, але без падлогі.

У хаце было прасторней і святлей, чым у зямлянцы. Ля аднаго з трох вокан паставілі стол, зроблены з дошак дзядзькам Міканорам, нашым суседам, і я рыхтаваў на тым стале ўрокі. Я хадзіў у трэці клас.

На святы мы з маці апраналіся ў лепшае адзенне і ішлі да клуба, дзе збіралася ўся вёска.

Нас акружалі жанчыны, гаварылі:

— Выходзіла б ты замуж, Зоя, ты ж яшчэ такая маладая, не векаваць жа адной.

На маці былі новая, ружова-васільковага колеру, сукенка, белыя, на высокім абцасе, туфлі, квяцістая, купленая за рэшата грэцкай мукі ў заезджай цыганкі, хустка.

Калі жанкі гаварылі ёй пра замужжа, твар яе залівaўся чырванню, і яна гаварыла:

— Сарама вам няма, не мяне, то сына хоць бы пасаромеліся...

Трошкі памаўчаўшы, яна дадавала яшчэ:

— А Іван вернецца, сон я такі бачыла ўчора, а мае сны праўдзяць.

Іван — мой бацька. У яго гібелі я не сумняваўся, бо

камандзір часці, у якой у вайну служыў бацька, падрабязна напісаў нам з маці пра бой, у час якога бацьку смяртэльна параніла. Але маці ўсё роўна яшчэ ў нешта верыла. Асабліва яна стала ў гэта верыць пасля таго, як нечакана вярнуўся ў сяло Марынін Антон, што адправіўся на фронт на самым пачатку вайны, у сорак першым.

Яшчэ ў тым жа сорак першым атрымала Марына ад Антонавага таварыша ліст, у якім той пісаў, што Антон па заданню камандавання адправіўся ў разведку і назад не вярнуўся, прапаў без весткі.

І раптам такое...

У адзін з цёплых асенніх дзён ля калгаснага клуба спыніўся грузавік, і на зямлю саскочыў высокі, хударлявы мужчына. Ён запытаўся ў нас, дзе жыве Ахрэмава Марына, і мы, талака хлапчукоў, пайшлі яго праводзіць. Па дарозе нас сустрэў дзед Богуш, які знаў кожнага ў сяле аж да сёмага калена — усё сваё доўгае жыццё дзед пражыў у нашай вёсцы. Дзед успляснуў рукамі:

— Ці ж мае вочы туман заслаціў, Антоне, сынку, скуль ето ты ўзяўся? А мы ж, даруй нам божа, памянулі цябе...

— У палон, дзеду, трапіў, у канцлагеры сядзеў, як і выжыў, не знаю, а там да амерыканцаў, саюзнічкаў нашых, трапіў, усё ўгаворвалі, каб не вяртаўся дамоў...

Нечаканае Антонава вяртанне нарадзіла веру ў душы маці. Ды міналіся месяцы, а многія з тых, што некалі пайшлі на фронт, назад у вёску не вярталіся. Не вяртаўся і наш бацька.

* * *

Недзе ў першыя пасляваенныя гады з райцэнтра ў школу, у якой настаўнічала маці, прыехаў інспектар. Ён быў высокі, насаты, з добрай усмешкай, а на яго

ваеннай, без пагонаў, гімнасцёрцы вісела многа розных ордэнаў і медалёў: казалі, усю вайну інспектар ваяваў.

У час перапынку інспектар падыходзіў да мяне. У руках ён трымаў моцна зачытаную кніжку са старымі жоўтымі лубкамі.

— Хочаш пачытаць? — пытаўся ён у мяне і паказваў тую кніжку.

Затаіўшы дыханне, я глядзеў на інспектара.

— Пішацца тут пра мужнага чалавека, раба, гладыятара — так у даўнія часы называлі людзей, што біліся на смерць на ўцеху панам...

Я стараўся не прапусціць ніводнага слова.

— Гладыятары ўзнялі паўстанне, Спартак іх узначаліў. Вось ён,— паказаў інспектар пальцам у гравюру-партрэт...

Сказаць усё аб Спартаку інспектар не паспеў — зазвінеў званок, трэба было ісці ў клас.

— Хочаш, я прыйду да цябе ў госці? — інспектар паклаў сваю руку на маю галаву.

— Хачу...

Пасля ўрокаў мы з Арцёмам Адамавічам, так звалі інспектара, ішлі да нас дадому. На пагорку, што ля клуба, запыніліся. Арцём Адамавіч развярнуўся, паглядзеў у бакі, абвёў рукой усё навокал.

— Вось гэта і ёсць наша радзіма! Эх, ведаў бы ты, Іван, як там, на фронце, мы думалі, марылі аб міры, сваім доме, а зараз вось кругом, куды ні глянь, адны горы попелу. Нічога, галоўнае, што перамаглі, а цяпер і адбудуемся.

Прыйшоўшы да нас дадому, інспектар скінуў гімнасцёрку, памыўся на двары ў бочцы з вадою, нацягнуў на сябе гімнасцёрку і, прычасаўшыся, увайшоў у дом. Маці падала на стол бульбу з агуркамі, сказала, усміхнуўшыся:

— Чым багаты.

І дадала яшчэ:

— Напякла б пірагоў, ды печ не цягне, комін сажаю забіты.

— Трэба пачысціць, вось толькі было б чым.

— Знойдзецца,— зноў усміхнулася маці.

Яны замаўчалі. Елі і паглядвалі адно на аднаго.

Інспектар стаў часта прыязджаць у нашу школу, і як прыязджаў, не мінаў нас з маці. А праз які час ён ажаніўся на маці, перабраўся з райцэнтра жыць да нас. У хаце адразу стала цеснавата, і Арцём Адамавіч, мой айчым, стаў пагаворваць аб прыбудове.

Ладзіць прыбудову сталі ў хуткім часе. Я яшчэ моцна спаў, калі пачуў за сцяною, на двары, галасы, шоргат пілы, удары сякеры. Басанож падбег да акна і ўбачыў з сякерай у руках дзядзьку Міканора — нашага суседа, які за сваё жыццё зрубіў не адзін дом. Дзядзька падміргнуў, згледзеўшы мяне ў акне, правым вокам:

— Апранайся, ідзі памагай, вучыся рабіць мужчынскую работу.

Маці запаліла ў печы, наабірала вялікі чыгун бульбы, нарэзала сала і мяса, смажыла, варыла, пякла скавароднікі: пах у хаце стаяў, аж галаву кружыла.

— Вазьмі паснедай, а то будзеш лезці да стала, калі людзі прыйдуць,— крыкнула на мяне маці, убачыўшы, што я наважыўся бегчы на двор.

Трохі перакусіў, выпіў шклянку малака — і на двор.

Свае хаты я не пазнаў. Там, дзе яшчэ ўчора стаяла галлістая яблыня, паявіўся зусім новенькі падмурак, на які ўжо сталі ладзіць першы вянок са свежых, што прыемна пахлі смалой, жоўценькіх сасновых бярвенняў. Спусцілі на зямлю дах са старой нашай хаткі. Заўважыўшы ў маіх вачах здзіўленне, мяне паклікаў айчым:

— Баішся, што дождж намочыць? — указаў ён позіркам на спушчаны на зямлю дах.— Не бойся, новую,

лепшую паставім, і старую ўверх трохі падымем, а то столь там зусім нізкая...

Знайшлася работа і для мяне. Я падыходзіў да вялікай кучы сухога моху, напаўняў ім кашэль, браў кашэль на плечы і нёс да зруба, памагаў айчыму ўкладваць яго ў драчку, збіраў і складваў пад паветкай трэскі.

За паўдня набегаўся я столькі, што пот ліў з мяне цурком. Айчым мяне падбадзёрваў:

— Давай, давай, Іване, хутчэй улазіны справім.

Маці якраз была тады побач:

— Пашкадаваў бы дзіця, бач, як угасілася, ніткі сухой на ім няма.

— Нічога, Зоя Сяргееўна (чамусьці айчым так заўсёды на людзях называў маці), у рабоце чалавек сталее хутчэй.

— Сваё пашкадаваў бы.

На шыі ў айчыма ўздуліся чырвоныя жылы, але ён прамаўчаў, з сілай уваткнуў сякеру ў сцяну новага дома, лязо яе напалавіну ўвайшло ў свежае смалістае бервяно.

Я падбег да айчыма, паспрабаваў выцягнуць з бервяна сякеру, але не хапіла сілы, і я павіс на тапарышчы, перабіраў у паветры нагамі.

Да самае зімы стараўся айчым. Накрыў новы дах, ашаляваў вуглы старое хаты, уставіў большыя вокны, парабіў высокія прызбы, паслаў падлогі.

— Эх, добры церам паставілі, як для сябе,— хваліў новы дом айчым, калі маці падыходзіла да прыбудовы.— Ты, Сяргееўна, на магарыч падкінула б хлопцам...

Паглядзеўшы на маці, айчым дадаў:

— Добры дом для нашага сына паставілі, зруб, як той звон, моцны, век прастаіць.

Маці свяцілася радасцю.

— Заблудзіцца, Арцём, можна ў такіх харомах...

Сапраўды, наш дом было не пазнаць, ён стаў зусім новым: з афарбаванымі ў васільковы і бурачковы колер падаконнікамі і падрамнікамі з выразанымі і прыбітымі зверху на іх драўлянымі пеўнікамі, якія распусцілі крылы і нібы спявалі. Замест аднаго пакоя цяпер у нас было чатыры, адзін з якіх адвялі для мяне. У сваім пакоі я адпачываў, гуляў з сябрамі, што прыходзілі да мяне, рабіў урокі.

Кожны вечар айчым прыходзіў у мой пакой, садзіўся на самаробную канапу ля акна і гаварыў:

— З чаго сёння пачнём?

Айчым узяў сабе за прывычку — правяраць, як падрыхтаваў я ўрокі.

Мне добра запаміналіся вершы, і я пачынаў з літаратуры. Айчым слухаў уважліва.

З арыфметыкай было куды горш. Заўсёды, калі даводзілася «перавозіць» грузы на адлегласці, якія прадстаяла вызначыць, ці нешта пералічваць, пераважваць — у мяне недаставала некалькі лічбін, ды годзе. Айчым злаваўся:

— Свінні паелі гэтыя лічбы, ці што...

Я ведаю: гэта ён знарок спомніў мне пра свіней. Летась маці ўзяла ў бабкі Параскі чорную свінку. Свінка была зусім маленькая, з абвіслымі вушамі. За зіму яна падрасла, а летам прывяла восем такіх жа, як сама, парасят. Мы з айчымам не вылазілі з агарода: рвалі для свінні і яе прыплоду лебяду, малачай.

За лета свіння з парасятамі з'елі цэлы загон бульбы. Даводзілася капаць і насіць яе з прышкольнага ўчастка. Праўда, рабілася гэта, каб не ведаў айчым. Але аднойчы ён дагнаў мяне за соткамі з кашалём бульбы, які вісеў у мяне за плячыма, і стаў дапытвацца, дзе накапаў. Маніць яму я не ўмеў і расказаў усю праўду.

Вечарам айчым сварыўся з маці:

— Ты ж настаўніца, культурны чалавек, на цябе

ўся вёска раўняецца, а ты... Не, не я буду, калі не звяду гэтую свінню.

Айчым быў цвёрды на слова. Скажа — не забудзе. Неўзабаве, калі маці не было дома, да нашага двара пад'ехала калгасная грузавая машына, у яе кузаў двое мужчын укінулі свінню і сямёра парасят. У хлеўчуку пакінулі аднаго кабанчыка. Айчым сказаў мне:

— Для нас хопіць і аднаго, не хачу, каб твая маці станавілася, як іншыя, заўзятым уласнікам.

Калі маці прыйшла дадому і заглянула ў хлеў, твар яе аж пачарнеў. Яна кінулася бягом у хату, да айчыма.

— Багацей, бач, знайшоўся. У людзей вунь дываны на сценах, а ў нас...

Айчым устаў з-за стала, за якім сядзеў і нешта пісаў. Устаў і стаяў, расставіўшы ногі, быццам урос у падлогу.

— Не для таго я кроў сваю праліваў, каб апускацца ў мяшчанскае балота.

Маці стала ля печы і заплакала. Айчым падышоў да яе, абняў.

Мне тады цяжка было разабрацца ў спрэчцы маці і айчыма. І ўсё ж сэрцам сваім я адчуваў: праўда за айчымам. Ды і маці, мабыць, тое ж самае адчувала. Толькі ўжо характар у яе такі: пагарачыцца, пасварыцца, а астыне, зразумее, што дабра ёй жадае айчым.

* * *

Летам, у пару сенакосу, мы выпраўляліся на Воўчы востраў. Там, на востраве, і начавалі ў куране, зробленым айчымам з дубовага галля, сцены кураня знадворку абкладвалі сенам.

Маці, як пачыналі збірацца на сенакос, паціху бурчала на айчыма:

— У другіх мужыкоў жонкі сядзяць дома, а мне і продыху няма.

Айчым усміхнуўся:

— Вырасце Іван — выслабанім цябе ад сенакосу.

Зборы на сенакос пачыналіся загадзя. За тыдзень ці два да ад'езду айчым даставаў з-пад паветкі паржавелыя за зіму і вясну дзве касы-дзевяціручкі. Спачатку ён вышароўваў іх да бляску шчырцом — белым рачным пяском. А пасля наклёпваў. Ляск пры гэтым стаяў — на ўсю вёску.

Пасля я бег да дзядзькі Міканора і браў у пазыкі барыла — драўляны кадаўбец літраў на сем-восем. У барыле добра было везці ваду — і на сонцы яна заставалася халоднай, бы толькі ўзятая з крыніцы. Глыток такое вады ў санцапёк прыбаўляе касцу сілы.

У самую апошнюю чаргу я лез па высокай лесвіцы на дах, здымаў павешаны ў паддашку яшчэ зімою, каб не дасталі каты, абшыты невялікі мех са здорам і мясам, прыпасенымі на час сенакосу.

Дарога на Воўчы востраў — доўгая. Ехалі мы туды на калёсах, у якія айчым запрагаў гнедай масці кабылу з незразумелай для мяне назвай Магінда. Магінда была з норавам. Абы-каго да сябе не падпускала. Ї дужа не любіла, калі яе падганялі. На кожны ўдар пугі яна не ленавалася брыкацца, падкідвала высока задак, наравіла даць здачы.

Калі міналі Забуднае, вёску, блізкую ад нашай, пачынаўся лес, за якім — доўгае і вялікае поле, пасярод якога сіратліва стаіць калодзежны журавель з прычэпленым да яго драўляным вядром.

Маці кажа:

— Адзін калодзеж і ацалеў, а да вайны ж усё гэтае поле сяло займала, вялікае сяло, двароў на дзвесце, і ўсё праклятыя фашысты спалілі, з людзьмі разам...

Магінда захацела піць, і айчым пад'язджае да калодзежа, поіць з вядра кабылу. Непадалёк, заўважаю я,

стаіць-бранзавее абеліск, помнік жыхарам вёскі, якую спалілі нямецкія акупанты разам з жыхарамі.

Мы ўтраіх падходзім затым да абеліска, айчым здымае з галавы сваю заношаную шапку-кепку. Я стаю з ім побач, слухаю, як ад лёгкіх павеваў ветру сумна шапоча трава...

За гэтым полем, можа, з якую вярсту ад яго, і знаходзіцца Воўчы востраў: да яго ад поля едзем па лясной дарозе.

Пад'язджаем мы да вострава моўчкі. Кожны [illegible] нас як бы ўбачыў зноў там, ля абеліска, тую страшную трагедыю, якую зведалі людзі ў гады вайны...

Айчым першы парушыў трывожнае маўчанне:

— Не выплакаць, не выкрычаць вайну...

Як толькі прыехалі на Воўчы востраў, айчым адразу бярэ касавільна, настройвае касу і выпраўляецца на балота. Трава там высокая, густая, як пацягнуць касу.

«Ш-шах, ш-шах, ж-жык, уж-жык»,— даносіцца да мяне...

За якую гадзіну айчым зрабіў ужо некалькі доўгіх, шырокіх пракосаў.

Айчым стаіць да мяне спіной. Прутка расставіўшы ногі, ён узмахвае і ўзмахвае рукамі, пакідае за сабой вузкую, вытаптаную нагамі, сцежку і высокі рад вільготнай травы. Затым ён спыняецца, утыкае касавільна ў зямлю, выцірае лязо касы жмутом травы.

— Прынясі барыла, смаліць пачало.

П'е айчым проста з барыла, п'е доўга і прагна, не адрываючыся. А напіўшыся, гаворыць:

— Вучыўся б касіць.

Ён зрабіў для мяне яшчэ дома кароценькае касавільна, купіў у магазіне касу-пяціручку.

Я падышоў да куравя, ля якога стаяла мая каса, паспрабаваў касіць, але з мае спробы нічога не выходзіла: каса, хоць айчым і старанна яе накляпаў, то

ссякае вяршкі травы, то зарываецца ў балотную твань так глыбока, што выцягнуць няможна.

Айчым, гледзячы, як выслізгвае з маіх рук каса, вучыць:

— Ногі трохі шырэй расстаўляй і прыгінайся, прыгінайся, як робіш замах, а касу за ручку трымай моцна, не давай, каб яна вярцелася.

Дзён праз колькі касіць мне стала лягчэй: каса ўжо не выслізгвае з маіх рук, і пракос у мяне роўны, хоць і не такі шырокі, як у айчыма. Толькі мазалі, што ўскочылі на правай далоні, балюча пякуць руку, ды спіна ў паясніцы ад непрывычкі ные, але я не падаю віду, стараюся.

К вечару айчым зноў падышоў да мяне, пахваліў:

— Размахаўся ты, мяне хутка дагоніш, бач — за дзень на добры калясНік намахаў.

З маці, якая зараз раскладвае агонь і збіраецца гатаваць вячэру, айчым з учарашняга дня не размаўляе. Маці ўчора варочала сена, і да яе падышоў дзядзька Мікіта, які насіў устойлівую мянушку Цыган. Ён таксама рабіў сена па суседству з намі. Цыган быў яшчэ малады, гадоў трыццаці трох, з вясёлымі карымі вачыма, з густой капою чорных валасоў на галаве. Некалі Цыган спрабаваў сватацца да маці, але яна ў той час вучылася ў педвучылішчы і ёй было не да замужжа. Пасля Цыган служыў у арміі. А калі вярнуўся, маці ўжо была не адна. Пра іх ранейшыя адносіны даведаўся айчым.

— Табе быццам больш і не было чаго рабіць? Я ўсё бачу і разумею — цягне цябе да гэтага Цыганчука,— гаварыў ён учора вечарам, калі я адышоў трохі ад кураня паглядзець, дзе пасвіцца Магінда.

— Ты быццам забыўся: сам жа сказаў, каб тыя рады паварочала. Ды і праўда — каб не паварочала, яны ані не прасохлі б: тоўстыя ж, ледзьве адна і ўправілася.

— Хто гэта табе сказаў, што не прасохнуць — Цыган?

Маці заплакала. Айчым яшчэ сказаў:

— Глядзі ў мяне, а то не здабраваць ні табе, ні яму.

Назаўтра яны зноў размаўлялі, забыліся пра нядаўнюю сварку. Маці грабла сена і складвала яго ў копы, а айчым дакошваў апошні ўчастак... Дзень тады якраз быў на схіле. Луг, на якім маці з айчымам рабілі сена, нагадваў мора: як і ў мора, у лугавыя травы садзілася сонца, над лугам гуляў свежы ветрык, а як толькі звечарэла, над ім перакуліла свой чарпак Вялікая Мядзведзіца...

Праз які тыдзень айчым ладзіў адзёнкі: пачыналі кідаць сена ў стагі. Вяршыць стагі памагала айчыму маці. Я глядзеў з зямлі, як маці старанна ўтоптвала на стозе сена, і маё сэрца замірала ад страху: мне здавалася, што маці вось-вось упадзе...

Арцём Адамавіч быццам зразумеў, што рабілася ў мяне на душы, рассмяяўся і сказаў:

— Пакуль я тут, ніводзін волас з галавы маці не ўпадзе.

І праўда. З маці нічога не здарылася. Калі айчым закінуў вілкамі наверх апошнія бярэмкі сена, маці па жэрдцы, прыстаўленай да стога, апусцілася на зямлю жывая і цэлая. А стог атрымаўся ладны: круглы пасярэдзіне і з вострым вярхом. Ніякі дождж яго не праб'е.

Назаўтра мы вярталіся назад у вёску, дадому. У думках я развітваўся з Воўчым востравам, добра абжытым і аббеганым за некалькі тыдняў, да наступнага лета.

* * *

Да цёткі Зосі, што жыве ў нашай вёсцы, напрадвесні прыехаў аднекуль з Сібіры дзядзька Лявон — высокага росту, танклявы, у брызентавым плашчы, які не скідаў ён нават улетку, калі стаяла цяпло.

У дзядзькі Лявона чацвёра дзяцей: тры хлопцы і дзяўчына. Мы, хлапчукі, пасябравалі з серадольшым — з Колем. Хаця ён быў намнога старэйшы за нас, нам з ім было цікава. Коля расказваў, што ў Сібіры на дрэвах, падобных на нашу елку, растуць арэхі. Вельмі салодкія і смачныя. Мы гэтаму верылі і не верылі. І як толькі Коля пачынаў расказваць пра такое дрэва з арэхамі, мы смяяліся.

— А грушы на вярбе ў тваёй Сібіры не растуць?

Каб стаць блізкім другам Колі, трэба было для яго нешта важнае зрабіць, выдаць нейкі сакрэт або прынясці пачку папярос, украдзеную ў бацькі ці купленую на зданыя яйкі ў магазіне: Коля ўкрадкі ад бацькі курыў.

Я зайздросціў Толю і Андрэю з нашай вуліцы, якім удалося так хутка ўвайсці ў Колева давер'е. Іхнія бацькі курылі, а мой айчым не, і я не патрапляў чым такім дагадзіць Колю. І кожны дзень мяне трывожыла думка: што ж такое зрабіць для Колі, каб ён і мяне браў на Мулёры, невысокія горы, што знаходзяцца далёка за вёскай, дзе Коля з хлапчукамі гуляў у розныя гульні, даваў ім запусціць у неба свайго блакітнага змея.

І я прыдумаў...

На наступны раз, пры сустрэчы з Колем, я прапанаваў:

— Магу даць пастраляць.

— Пастраляць? Але з чаго ты дасі пастраляць? — глядзеў здзіўленымі вачыма на мяне Коля.— З падпаленкі? То ў мяне і свая ёсць.

— Яго айчым вядзе ў школе фізкультуру, а школе нядаўна далі малакаліберку, якую Іванаў айчым хавае дома — баіцца, каб у школе не ўкралі,— за мяне растлумачыў Толя.

У Коліных вачах успыхнулі яркія агеньчыкі.

— А ты не манюка?

— Не!

У цір мы не пайшлі — месца там адкрытае, і нас маглі заўважыць. Пайшлі ў лес, у Астроўкі. У Астроўках па дрэвах скача многа вавёрак, і Колю захацелася папаляваць на вавёрак...

Коля расстрэльваў апошнія патроны, калі да нас нечакана падышоў дзядзька Лукаш, які меў смешнае прозвішча — Крыкун. Ён быў у кірзавых ботах з загнутымі ўверх насамі, памятым чорным капелюшы, з кошыкам у руцэ, які амаль паспеў напоўніць маладымі баравікамі.

— Хто гэта даў табе наразную стрэльбу? — звярнуўся Крыкун да Колі. Голас яго прагучаў гнеўна і сурова.

Коля ўзяў і выбухнуў:

— То Іван у айчыма ўзяў.

— От пранцаватыя дзеці, біць вас няма каму, хіба ж можна так рабіць? Гэта ж кулявая зброя, не раўнуючы сказаць, і падстрэліць каго нядоўга. Хоць і лес кругом, а ў лесе ж людзі, скаціна пасвіцца...

Стрэльбу ад Колі Крыкун забраў і пайшоў. Коля з хлопцамі падаліся некуды па арэхі, а я застаўся адзін. Мне раптам стала вельмі адзінока і страшна. Я ўявіў, што будзе, калі айчым дазнаецца пра маю выхадку. І ніхто не заступіцца за мяне. Коля, на дружбу якога я так спадзяваўся, быў далёка ад мяне. І мне стала крыўдна за сябе...

Дадому я не пайшоў. Дачакаўся, калі сцямнее, і гародамі падкраўся да нашага хлява, залез на вышкі, упаў на сена і, змораны перажываннямі, заснуў.

Першае, што ўбачыў, калі прачнуўся,— сонечны зайчык. Прамень ад ранішняга сонца прабіўся скрозь вузкую шчыліну ў страсе і злёгку зыбаўся на сене. Гэта з аднаго боку мае галавы. А з другога стаяў айчым. У яго вачах блішчалі слёзы.

— Ты не замёрз? — толькі і спытаў ён у мяне ня-

роўным дрыготкім голасам.— Не? То і добра. Уставай пайшлі памыемся, маці ўжо снедаць зварыла.

Айчым паліваў мне з конаўкі на рукі і шыю халодную ваду, гаварыў:

— Ты болей так не рабі, а то ведаеш, колькі мы з-за цябе страху набраліся...

Пра стрэльбу за ўвесь ранак айчым так і не ўспомніў.

* * *

Неяк вясною маці пагнала чэргу — так называюць у нас той дзень, калі выпадае пасвіць уласную скаціну.

Дзень выдаўся як дзень. Сонечны, ціхі. Толькі павяснoваму было яшчэ сыра, і на лясных дзялянках, дзе зацвітаў кураслеп, распускаўся зязюльчын лён і пускала першыя парасткі зайчыкава капуста, пахла прахалодаю.

Ад стомы маці часта садзілася на зямлю, каб адпачыць. Калі ж прыгнала статак дамоў, то яе стаў адольваць кашаль, к вечару паднялася тэмпература. Ні маліна, ні ліпавы цвет з настоем багуну не памагалі — маці ўсё горшала і горшала. А дзён праз некалькі ў яе адняліся ногі. Доктар, які прыехаў з райцэнтра, сказаў:

— Застуджаны нервы спіны і ног, трэба тэрмінова ў бальніцу.

Маці ціха ляжала на пасцелі, твар яе стаў бледнамёртвы, ногі распухлі, пальцы на нагах пасінелі, бы іх пафарбавалі чарнілам. Яна, маці, глядзела на ўсіх сухімі, халоднымі вачыма. Мяне пужалі гэтыя яе вочы, халодны позірк...

Пра тое, што доктар сказаў, каб неадкладна ехаць у бальніцу, маці і слухаць не хацела.

— Мабыць, мне ўжо не трэба ніякая бальніца, памру і дома, хоць з Іванам пабуду разам свае апошнія дні,— ціхім, бы з-пад зямлі, голасам вымавіла яна.

— Доктар упэўнены, што на першым часе ўсё можна,— настойваў айчым.

Але пераканаць маці не ўдалося...

Цяжка было айчыму ў той час, ён прыкметна схуднеў, пастарэў, адзежа вісела на ім, як на палцы. Усю дамашнюю работу ён рабіў сам: варыў есці, прыбіраў, мыў, раскапаў капец і перабраў бульбу — зямля ўжо добра ўгрэлася і была пара брацца за соткі.

Да нас часта сталі прыязджаць дактары. Яны падоўгу выслухвалі маці нейкімі доўгімі трубачкамі з бліскучым наканечнікам, які прыкладвалі да сэрца, аглядалі яе пухлыя, з сінімі пальцамі ногі. Толькі кожны з іх, прыезджых дактароў, гаварыў няўцешнае:

— Шок нерваў спіны і ног, тут мы, дактары, бяссільныя, хаця некаторыя сродкі паспрабаваць можна...

У цёплыя летнія дні я з айчымам вывозілі маці на каталцы, зробленай дзядзькам Міканорам, у цень саду. У садзе, раілі дактары, больш свежа, і папраўіцца тут можна хутчэй.

Там, ля каталкі ў садзе, айчым падоўгу затрымліваўся ля маці, трымаўся адною рукою за каталку, а я, трошкі адышоўшы ўбок, назіраў за імі, і не зусім разумеў тое, што адбывалася з маці. Мне ўсё здавалася, што хвароба пачала адступаць, бо маці, як мне падалося, супакоілася, але я ўсё роўна хваляваўся за яе. Хваляваўся я і за айчыма, які, думаў я, жыў цяпер няпоўным жыццём, бо зараз ён, здавалася, свету белага не бачыў, рабіў усё для таго, каб памагчы маці хутчэй стаць на ногі.

Тут, у садзе, Арцём Адамавіч стаў лячыць маці пчоламі: параіў яму такое лячэнне адзін з дактароў, што прыязджаў да нас.

Вечарам, калі вёска эціхала, айчым з дзядзькам Міканорам ішлі за соткі, у канцы якіх стаяла некалькі калодачных вуллёў, падараваных дзядзьку Міканору яго бацькам, дзедам Міронам. Там яны бралі ў кораб

з вулля пчол, абвязвалі кораб канаплянаю хусткаю. А назаўтра гэтых самых пчол айчым пускаў на ногі маці... Маці пачынала стагнаць.

— Пацярпі, пацярпі, Зоя, зараз ужо,— супакойваў маці Арцём Адамавіч.

Я стаяў збоку, і, здавалася мне, айчым мяне не заўважаў. Калі маці застагнала, я напружыніўся, замёр. Мне здавалася, што вытрымаць такое няможна, і, адвярнуўшыся, я пачынаў плакаць. Да мяне тут жа падыходзіў айчым.

— Я думаў, ты мужчына, а ты, як тая барышня. Пашкадаваў бы маці, ёй расстройвацца нельга...

Угаворы на мяне падзейнічалі: перастаю хныкаць, але нічога не гавару, маўчу, гляджу, як скрозь лістоту яблынь слаба прабіваецца сонца. Айчым зноў падышоў да маці, і маці працягвае яму руку:

— Стань бліжэй...

Ён робіць так, як папрасіла маці, становіцца з ёю ўпобачкі, трымае рукі маці ў сваіх, разглядае яе твар, выцірае слёзы, што ціха коцяцца па абедзвюх шчоках.

Рэдкія сонечныя праменні слаба асвятляюць сухія, патрэсканыя губы маці, яе шырока раскрытыя вочы, мяккія валасы, што рассыпаліся на белай падушцы і свецяцца золатам...

— Не перажывай, не плач,— гаворыць маці айчым.— Усё будзе добра. Ты проста стамілася ад гэтай сваёй хваробы. Я цябе выхаджу, от паглядзіш! Ты павер, з табой мне ўсё роўна добра — ты мая! Мая!..

Тая раніца сярэдзіны жніўня і цяпер стаіць у маіх вачах, звініць у вушах.

Сонца яшчэ не ўзышло, густая раса не апала з дрэў, травы. За сажалкай гучна пратрубіў у рог калгасны пастух дзядзька Міна. Ён кіраваўся са сваім статкам у Залоззе, на багатыя лугавыя выпасы. Там жа, за сажалкай, прачнуўся і падаваў голас бярасклет, угакаў, як малое дзіця, удод.

Прагнаўшы за вёску нашу Красулю на пашу, я вярнуўся дахаты. Мяне паклікала маці:

— Паглядзі, здаецца, пальцы на нагах заварушыліся.

Дні праз два-тры мы з айчымам вадзілі маці па двары — яна вучылася хадзіць. Вучоба тая давалася ёй нялёгка: моцна балела спіна, нылі ад напружанасці рукі, цурком ліў пот. Але яе і мая з айчымам радасць была без канца і краю. Айчым гаварыў маці:

— А ты мне не верыла.

Маці ціха плакала:

— Даруй мне, Арцёме, можа, я часам і гарачылася.

Хада ў маці ў тыя дні была яшчэ цяжкая, нязграбная, але сама маці пасвяжэла, павесялела... Айчым, узбуджаны, радасны, паглядаў на маці і мяне. Я стаяў задуменны, вадзіў рукою па плоце.

— Цяпер, Іване, ты можаш гуляць да самай школы колькі табе ўлезе.

Мне вельмі хацелася да цёткі Сынклеты, матчынай родзічкі, да яе сына Шурыка, з якім мы моцна дружылі. За вёскай, дзе жыве цётка Сынклета, возера — глыбокае, здаецца, дна ў ім няма. І калі сонца заходзіць, тое возера ўсё агнём палымнее...

Я сказаў айчыму пра маё жаданне. Айчым, стомлены бясконцай бегатнёй, клопатамі, сядзеў на табурэце, што вынеслі на двор з хаты, мокрыя ад поту яго валасы прыліплі да лба, вялікія натруджаныя рукі цяжка ляжалі на каленях. Ён сказаў:

— Добра, едзь, пагуляй у цёткі Сынклеты, паглядзі на сваё возера...

У тыя ж дні маці з айчымам і выправілі мяне да цёткі Сынклеты, якая жыла недзе за Мазыром.

Да аўтастрады мы дабіраліся пешшу. Маці правяла мяне да рэчкі і спынілася, бо ногі былі яшчэ слабыя, і яна ля рэчкі пацалавала мяне, а мы з айчымам пай-

шлі далей адны. Я раз-пораз азіраўся. Маці ўсё стаяла на адным месцы і махала нам рукою. Хоць мы і подалека ад яе адышлі, мне здавалася, што яна плача.

Да мазырскага шляху хады было з гадзіну. Дарога вяла нас палянамі, узлескамі, палямі, верасамі. Мы абое маўчалі. На душы ў мяне быццам камень ляжаў — расставацца з айчымам не хацелася. Нейкім панурым выглядаў і айчым. Кожны з нас бы прадчуваў, што болей не пабачымся...

* * *

Калі я вярнуўся ад цёткі Сынклеты дадому, айчыма ўжо не было. Маці плакала і расказвала:

— Якраз у той дзень жанкі капалі нашу бульбу, і ён насіў кашалі ў сцёбку. У полудзень млосна яму стала. Ён прылёг на пасцелі, і быццам трохі адпусціла. А тут Васіль Таццянін, ты ж знаеш яго, ён у калгасе шафёрам робіць, пад'ехаў на машыне і кажа: «Давайце ў райцэнтр, у бальніцу ўсё-такі паедзем». Але да райцэнтра не давёз яго Васіль — за рэчкай і памёр на руках у Васіля. Доктар, які пасля агледзеў яго, сказаў, што хуткапрагрэсіруючы інфаркт.

Маці доўга не магла паверыць, што яго больш няма.

І я аж дасюль не магу забыць айчыма. Заплюшчу на хвіліну вочы — і ён стаіць перада мною: спакойны, з добрай усмешкай на худым твары. Ён як быццам усё вучыць мяне касіць. Вучыць і кажа:

— Смялей, смялей давай, бо твой самы вялікі луг яшчэ наперадзе.

## Даўнія суседзі

У пачатку мая Лозкі заўсёды ў зеляніне таполяў, квецені саду. Сёлета ж вясна запазнілася. Толькі-толькі пачалі распускацца таполі, зазелянела першымі ўсходамі травы зямля. У лесе яшчэ ціха. Птушкі, мабыць, не паспелі абжыцца пасля вяртання з поўдня. І толькі адна бяздомніца-зязюля будзіць лес сваім моцным «ку-ку».

Іванавым процерабам падыходжу да вёскі. У самым канцы Лозак нізенькая хата, якая вокнамі ўглядаецца ў лес, у мой бок. Ля хаты старая-старая таполя — яна вельмі тоўстая, пяць чалавек, пабраўшыся за рукі, ледзь абдымаюць яе. На версе таполі, у самай вяршаліне — буслянка. Колькі я помню сябе, буслянка ніколі не пуставала: кожную вясну выводзіліся на ёй птушаняты, затым ляцелі ў вырай. І так кожны год. І цяпер, здалёку заўважаю я, старая бусліха наседжвае яйкі. Бусліха круціць галавою, пазірае ў бок хаты.

«Відаць, на двары нехта топчацца»,— думаю я і адчуваю, як у маёй душы расце радасць.— Значыць, дзед Богуш і бабка Хвядора яшчэ жывыя.

Прыбаўляю кроку, спяшаюся да сваіх даўніх суседзяў. Толькі непакоюся, ці застану дзеда дома: вечна ён у лесе ці на рэчцы дзе.

Відно, дзед Богуш зусім нядаўна замяніў стары плот на новы: частакол свежы, з акуратна выструганых і цесна падагнаных адна да адной тонкіх дошак. І веснічкі новыя, на шырокіх завесах.

Хоць я і ціха адчыняю варотцы і стараюся мякка ступаць па сцежцы, бабка Хвядора згледзела мяне. Яна сядзіць на прыступках ганка і перабірае ў кашалі на-

сенную бульбу, буйную рэжа на дзве ці на тры часткі. Хутка сеяць соткі, вось і гатуе бабка насенне.

Пастарэла Хвядора Мікалаеўна за час, што мы не бачыліся, яе больш прыгнула да зямлі, пацішэў і стаў хрыплым голас, у куточках вачэй сабралася многа маршчын. На вочы бабка Хвядора даўно слабая. Яшчэ ў канцы апошняе вайны выплакала яна свае вочы. Як прыйшлі пахавальныя на абодвух сыноў, доўга не магла суняць яна сваіх горкіх слёз.

— Хоць бы на іхнюю магілку паглядзець,— казала скрозь слёзы яна,— а то ж абодва без весткі.

Гібель сыноў моцна змяніла і старога Богуша: ён стаў нейкі маўклівы, насцярожаны, з вечным сумам у вачах.

Каторую хвіліну я і Хвядора Мікалаеўна стаім у нерашучасці. На худых бледных шчоках у бабкі паявілася ўсмешка.

— Якім ветрам занесла цябе, Колька, да нас?

— Вясеннім, Хвядора Мікалаеўна, а якім жа яшчэ? Хачу з дзедам Богушам па лясах пахадзіць, птушак паслухаць, рыбкі з нашай рэчкі палавіць.

— У Косцераў дуб яшчэ на досвітку як выбраўся мой пень стары, то і добра, калі к вечару прысунецца.

У думках прыкідваю, колькі гэта будзе да Косцеравага дуба. У адзін бок вёрст каля васьмі. Ды і цяпер топка, дарогаю не пройдзеш, не прасохла яшчэ як след пасля вясенняй паводкі. Балоты і балотцы таксама яшчэ ў вадзе, так што дабрацца дзеду да рачулкі, што ў Косцеравым дубе, сапраўды не так хутка.

Дзіўлюся, як гэта дзед асмельваецца ў свае восемдзесят з лішнім гадоў мераць такія доўгія вёрсты.

— Яму гэта прывычна,— кажа бабка Хвядора.— Змалку ён паляўнічы, нагамі корміць і сябе, і мяне.

Хвядора Мікалаеўна перабрала ў кашалі ўсю бульбу, і я бяру кашэль, ссыпаю перабранае насенне ў кучу ля ганка, на якім сядзіць бабка, іду да капца, напаў-

няю кашэль, нясу бабцы, і яна зноў пачынае перабіраць, перамацваць кожны клубень.

Саджуся на ганку, з абодвух бакоў якога — самаробныя драўляныя лавачкі, зробленыя дзедам Богушам гадоў мо дзесяць назад. У самым паддашку ганка, пад кроквінамі, вісяць пучкі розных траў з невядомымі мне назвамі, сухія гронкі рабіны, каліны, галінкі багуну, лісце маліны, ліпавы цвет.

Бабка Хвядора заўважыла маю цікаўнасць да дзедавай аптэкі і кажа:

— Не толькі тут,— глядзіць бабка пад кроквіны на пучкі травы,— усю хату запрудзіў гэтым зеллем. А і трэба яно. Маладыя цяпер нічога не ведаюць пра травы, а ўсё за парашкамі ў горад едуць. Толькі скажу я табе, Колька, травы часам лепей за лякарствы. Вунь мой стары знаць не знае і ведаць не ведае пра парашкі. А як прастыне ці ветранку якую дзе схопіць, то ўсё сваімі травамі ратуецца. І здаровы пакуль, дзякуй богу, за свой век ні разу ў бальніцы не ляжаў.

Не паспеў я і агледзецца, як перанасіў з капца бабцы ўсю бульбу і яна перабрала яе. Сонца тым часам апусцілася зусім нізка і свяціла проста ў вочы. Бабка ўсё расказвае і расказвае мне пра вясковыя навіны: хто з лозкаўцаў справіў апошнім часам улазіны, хто на кім ажаніўся, да каго прыязджалі госці.

Пасля бабка раптам перастала расказваць, на які момант заціхла, паглядзела невідушчым позіркам удалеч і сказала:

— Вось і стары мой дыбае.

Гляджу ў бок лесу, але дзеда нешта не бачу. Бабка смяецца:

— Ды ён унь ужо дзе, ля самага плота.

І праўда. Расчыніліся варотцы — і паказаўся дзед Богуш. Заўсёды, калі б я ні ўбачыў яго, ён апрануты ў адно і тое ж: брызентавы плашч, які ад часу і сонца выліняў і стаў белы, нязменных кірзавых ботах, не

адзін год ношанай кепцы, за плячыма паляўнічы мех. І толькі кія раней дзед не браў у рукі, а цяпер вось узяў, не можа без яго.

Дзед рады майму прыезду: не так часта адведваюць іх з бабкай госці. Ён стаў адразу прыспешваць жонку, каб тая хутчэй накрывала на стол. Бабка яму пярэчыць:

— Куды, скажы ты мне, спяшацца напроціў ночы? Хай Коля сёння ў нас пераначуе, а я вось юшку звару з твайго ўлову.

Ведаю — умее бабка юшку варыць. І ківаю галавою — застаюся.

Дзед вытрасае з меха ў вядро небагаты ўлоў, і Хвядора Мікалаеўна пачынае саскрабаць нажом з рыбы луску, патрашыць яе. А я саджуся з дзедам на ганку. Не ў настроі сёння стары Богуш.

— Збяднелі ў нас рэкі і сажалкі,— кажа ён.— Раней, бывала, калі пойдзеш у такі час лавіць, да паўдня тры вядры наловіш, а тут за дзень на адну юшку ледзь сабраў.

Дзед дае волю сваім успамінам.

— То ж што калісь было? Паедзеш на сенакос, і ў балотных выжарынах рыбы той процьма — рукамі бяры яе. І бралі, а як жа. Хто рукамі, а хто, дзе глыбей, у сарочцы завяжа рукавы — і айда зацягваць. Лешч, карась, шчупак праз усё лета не зводзіліся.

Богуш устае і ідзе ў хату. Я за ім. Зрабіў крок цераз парог, глянуў на сцены, столь, на самаробныя канапы, што стаялі паўз сцяну ля акон, якія цяпер мала ў каго і пабачыш,— і дзяцінства сваё прыгадаў. Амаль нічога не змянілася ў гэтых сценах з таго часу, як я басаној цераз соткі прыбягаў да дзеда Богуша. Прыбягаў — і мы ўдвох ішлі пад паветку. Там дзед над нечым заўсёды корпаўся. Я пытаўся, што гэта такое ён робіць. Дзед жартаваў: «Карове сядло». І тут жа пераходзіў на сур'ёзны лад:

— Пасткі старыя паднасіліся, пруткоў учора для іх нарэзаў, то трэба падрамантаваць. А гэта,— браўся дзед рукою за невядомыя драўляныя прадметы, што стаялі на зямлі побач,— новае сіло для лісіцы, цецерука.

Назаўтра на золку, ледзь стала відно, дзед з пасткамі, перакінутымі цераз плячо, кіраваўся ў лес. Нашы хаты тады побач стаялі. Прахапіўшыся, працёршы кулакамі сонныя вочы, разорай я даганяў дзеда, прасіў, каб і мяне ўзяў з сабою. Дзед не згаджаўся.

— Ты мне ўсіх звяроў і птушак перапужаеш, у цябе галасок, дай божа, як звон царкоўны. Вось калі расстаўлю і праз дзень-другі пайду забіраць, тады давай.

Ні слёзы, ні ўгаворы не памагалі.

— Ды ведаеш, галава твая садовая, калі бацька папраўднаму стаў прывучаць мяне да гэтае работы? Калі мне чатырнаццаць мінула, а табе яшчэ і дванаццаці няма, кепкі і той вунь насіць яшчэ не навучыўся, а паляўнічая справа — складаная рэч, трэба ведаць норавы звяроў, птушак...

Настойлівасці ў мяне хапіла, і хутка дзед стаў браць мяне з сабою. Цэлымі днямі хадзілі мы з ім па лесе, забіраліся ў такія хмызы, дзе і днём было прыцемна. Страшна было. Кожны абымшэлы пень ці калода здаваліся мне ваўком, мядзведзем. І я дзівіўся дзедавай смеласці: як гэта так без стрэльбы, з голымі рукамі забірацца ў такую глухамань. Дзед ажно смяяўся з майго страху.

— Воўк на чалавека толькі ў піліпаўку можа напасці, тады барані цябе божа ад сустрэчы з ім, а мядзведзь, калі не чапаць яго, ніколі сам не закране.

Дамоў мы ніколі не вярталіся з пустымі рукамі: у дзедавых пастках заўсёды біліся рабчыкі, цецерукі, зайцы. Аднаго ж разу ў вялікую пастку, пастаўленую для лісіцы, папаліся ваўчаняты, цэлых чацвёра. Я і не падумаў, што гэта ваўкі, думаў лісяняты, бо яны вель-

мі падобныя на іх: рыжыя, з пушыстымі хвастамі. Тады ўжо не я, а дзед страху набраўся.

— Давай хутчэй іх у мяшок, і трэба ногі ўносіць, крый божа, калі старая ваўчыца запарве нас у лесе.

Толькі тады ўсё добра скончылася. Ваўчыца, мабыць, недзе сама палявала на далёкіх селішчах, і мы з дзедам без асаблівых прыгод дабраліся дадому. У лес не паказваліся мо з месяц: дзед баяўся сустрэчы з ваўчыцай. Ваўчанят дзед здаў недзе ў райцэнтр і прэмію атрымаў за драпежнікаў. Са мною прэміяй падзяліўся, сказаў:

— Гэта табе на гасцінцы, разам дрыжыкі елі, калі неслі тых аглаедаў з лесу.

Я хацеў запярэчыць, сказаць, што сапраўды ніколечкі той раз, калі неслі ваўкоў, не спужаўся, але прамаўчаў, ведаў: не паверыць мне дзед.

...Увайшоўшы ў хату, дзед распранаецца, вешае свой плашч і кепку на цвік, убіты ў вушак уваходных дзвярэй. Мяне запрашае садзіцца, а сам дастае з-за коміна сухую бяросту, распальвае ў печы. І калі на сцяне засыбаліся цені ад полымя ў печы, калі затрэскалі абхопленыя агнём дровы, дзед садзіцца на канапу, кладзе свае цяжкія рукі на калені, з палёгкай уздыхае.

— Жывеш ты, як відно, у сваём горадзі, як за каменнай сцяною, забыў пра наш край: не чуеш яго і не бачыш. А ўзяў бы калі ды і пахадзіў знаёмымі сцежкамі, шмат пабачыў бы, і расказваць мяне не прасіў бы.

Бабка Хвядора дамывае ў ночвах ачышчаную і выпатрашаную рыбу. Яна ў сенцах, але праз адчыненыя дзверы ёй усё чутно. І яна ўмешваецца ў нашу гаворку:

— Калі чалавек просіць, то сказвай ужо, а заўтра мо і пройдзецеся разам у Косцераў дуб.

— Сам ведаю, пра што сказаць, а што і паказаць,— адрэзаў дзед жонцы.— Ты нам хутчэй вячэру падавай.

Але гаворка ў нас з дзедам доўга не клеіцца. Дзед

больш уздыхае ды распытвае мяне пра горад, пра сям'ю. Тым часам бабка Хвядора зварыла юшку, налівае кожнаму ў глыбокую гліняную міску і нясе на стол. Ад місак уверх ідзе густая пара, якая пахне перцам, цыбулькаю, часнаком. Заглядваю ў сваю міску: рыба разварылася так, што не відно ні галавы, ні хваста. Дзед хрысціць свой лоб, бярэ ў рукі лыжку, запрашае есці мяне, кліча жонку:

— І ты садзіся, Хвядоро, можа, у апошні час адведаем юшачкі.

— Чаму ў апошні, хіба рыбы і папраўдзе не стала? — цікаўлюся я.

— Вось я і кажу: нічога ты не бачыш, седзячы ў горадзе,— гаворыць дзед.— Рыба сама па сабе не звялася б. Раней у такі час вазамі вазілі.

— Хіба цяпер абмялелі рэкі з азёрамі? — перабіваю я дзеда.

— То-та ж, што абмялелі. Асушылі гэтыя меліратары балоты, і вада ўбыла. Калісь у лясной рэчцы, што ў Косцеравым дубе, на лодках рыбакі ездзілі, а цяпер там і па калена вераб'ю не будзе, то адкуль жа той рыбе ўзяцца?

— І ва ўсім гэтым вінавата меліярацыя?

Дзед мерае мяне строгім позіркам.

— Ты са мною не хітруй, па-простаму гавары. А калі па-простаму, так, як гэта я разумею, то я скажу табе: асушалі ў нас яшчэ на самым пачатку трыццатых гадоў, мой бацька тады з вясковымі актывістамі кулацкія банды вылоўліваў у лесе. Але хіба тады асушалі такімі вялікімі, як цяпера, участкамі? Мабыць, калі ішоў, то бачыў, як за нашымі Лозкамі асушылі? То ж раней там травы самі па сабе ў пояс раслі, касу пацягнуць не можна было — такі ўраджай травы давалі. Летась жа тая зямля як бубен голая ляжала, праўда, і сеялі тамачкі нешта, з самалётаў падкормку раскідвалі, ды дарма ўсё — без вады нічога ў рост не кінецца.

— Па-вашаму, выходзіць, тут адна бяда — меліярацыя, вялікія захваты зямель, што асушаюць?

— Не вялікі грамацей я, але тут і вучонаму не трэ быць, каб даўмецца, дзе верхавое балота, дзе нізавое, а дзе рэчка, якую пояць гэтыя балоты. Асушыўшы ўсё разам, мы пазбаўляемся вады, якой і так недахват на палескіх землях. Даводзіцца тады доўгія-доўгія трубы з дзірачкамі на высокіх колах валакці, дажджавальнымі ўстаноўкамі называюць іх меліратары. Толькі скуль вады ўзяць для тых установак? Хіба капаць калодзежы?..

Мы даўно павячэралі, бабка Хвядора прыбрала са стала і сядзіць побач са сваім дзедам, які, нарэшце, добра разгаварыўся, што і суняць яго, здаецца, зараз не сунімеш. І тое, аб чым апавядае ён, вельмі ўсхвалявала мяне.

— Чаму б тым вучоным-меліратарам не пагаварыць з такімі, як я, перш чым пускаць свае машыны на балоты? Хто, як не мы, старыя, век звекаваўшыя на гэтай зямлі, ведаем, дзе пусціць машыну, а дзе трэба і абысці бокам які ўчастак?

Разумею, што ўсё, аб чым зараз гаворыць дзед Богуш,— праўда. Разумею, бо ведаю: не любіць і не ўмее стары Богуш раскідвацца словамі.

— Строгасці цяпер у людзей да прыроды менш стала,— пасля кароткай паўзы гаворыць дзед.

— А раней болей строгасці было?

Дзед глядзіць на мяне, як на малое дзіця, якое нічога не разумее.

— Меліратары, канечне, не думалі і не гадалі, што іхняя работа абернецца такім парадкам. Тут, па-мойму, памылка ў іх выйшла, можа, і папраўяць яе вучоныя. Але ж пакуль не зусім перасохлі нашы рэчкі з азёрамі, значыць, і рыба павінна быць, у лясах павінен звер з птушкай вадзіцца. Ды не вельмі. Чаму? Таму, мілы ты мой, што сумлення шмат у каго не стала. Кожную

нядзелю к нам з горада на сваіх легкавіках пруцца. Хто з вудай да рэчкі спяшаецца, а хто і толавыя шашкі з багажніка дастае, сеткамі раку перакрывае, з якіх не тое што рыба, павук не выслізне.

— Праўда, праўда,— пацвярджае Хвядора Мікалаеўна,— другей раз дак аж шыбкі калоцяцца ў вокнах ад тых узрываў. А як было пры яго нябожчыку-бацьку? — ківае галавою ў дзедаў бок.

— Ты ж тады яшчэ пад стол вучылася пяшком хадзіць, а помніш?

— Як не помніць,— смяецца бабка сваім шчарбатым ротам.— Усё помню: і як у хованкі разам гулялі, і як бацька лупцаваў цябе папругаю за двойкі, якія ты са школы прыносіў.

І тут за ўвесь вечар дзед ледзь-ледзь усміхнуўся, ажывіўся:

— Знайшла што ўспамінаць.

— А ты раскажы, раскажы, не таіся, як бацька цябе ў Косцераў дуб вярнуў.

— Прызнацца, той парою я і ў лес баяўся паказвацца. Летам хіба толькі ў валоку за буякамі ды чарніцамі бегаў. А далей — у Гаі ці, скажам, Астроўкі або Косцераў дуб — ні божа мой. Там, казалі, чорт на лазе сядзіць, пужалі нас дарослыя, нападае на дзяцей і цягне іх у балота, у багну. Але там, ведаў я, бацька ставіць пасткі на лісіцу, цяцеру, курапатку. І дужа ж хацелася сваімі вачамі паглядзець зблізку на злоўленага звера або птушку. Асмеліўся-такі аднойчы, іду басанож, ігліца і старыя сасновыя шышкі ў ногі колюць, а я быццам і не чую тых уколаў — наяршыўся ўвесь, напружыніўся, палку ў рукі ўзяў — гэта, каб адбіцца, калі што. Сэрца мае як у злоўленай птушкі білася. Дайшоў да невялікай балацянкі, і з-пад самых маіх ног вялікая-вялікая цяцера ўзляцела, залапатала крыламі так, што аж гром пайшоў. Гляджу на зямлю, а там на купіне — гняздо з яйкамі, буйнымі, з мой дзіцячы ку-

лак, у чорную крапінку. Радасці маёй — ні канца ні краю. Скінуў шапку, забраў усе восем ці дзесяць яек — і бежкі дадому. Не думаў, што мая знаходка так раззлуе бацьку. Глянуў ён у маю шапку і пачарнеў увесь: «Ты,— кажа ён так мне,— лясны пірат, не выйдзе з цябе паляўнічага. З гэтых жа яек, кажа, дзесяць бы птушак вывелася і вырасла, а ты...» Прыйшлося вяртацца з шапкай назад у лес... На карысць пайшоў мне той бацькаў урок — век зроду больш не спорваў гнёзды. А паляваць навучыўся.

Я дзіўлюся:

— Бацька ж сказаў, што не выйдзе з вас сапраўднага паляўнічага?

— То ён сумысля, пад злую руку нагаварыў. Сам жа мяне і прывучыў да гэтага занятку. Паляванне такая ўжо рэч: раз схадзіў у лес, другі, трэці. І ты ўжо адчуваеш, што нейкая невядомая сіла цягне цябе на рэчку ці на цецеруковае такавішча...

Пра ўсё ўспомніў у гэты вечар дзед: і як лісіц з зайцамі з пасткі забіраў, і як выследжваў дзікоў, і як аднойчы бурага мядзведзя паклаў.

— Хопіць выхваляцца,— суняла дзеда бабка,— не кожны год такое надаралася. Было, што і ні з чым вяртаўся. Было ж, хіба ўжо ў цябе памяць як тое рэшата?

— Мая памяць пакуль пры мне. Можа, адзін год такое і было. Гэта калі балата гарэлі. Тады ўсё жывое збегла ад нас у суседнія лясы. А выйшла гэта недзе адразу пасля вайны, ты яшчэ малы быў, не помніш. Сушыла ўсю вясну, вось праз тую суш і пайшлі спачатку лясныя пажары, пасля торф у балотах закурыўся. Утушыць жа торф чалавеку проста не пад сілу — ён знутры, пад зямлёю спачатку гарыць, а потым ужо зверху. І толькі як дажджы пайшлі, сталі аціхаць пажары.

Дзед змаўкае, глядзіць у акно, за якім — ясны майскі месяц асвятляе панадворак, адзінокую рабіну, што нясмела стукаецца галінамі ў акно.

— Праз год-другі пасля таго пажару лясы нанава ажылі,— зноў гаворыць дзед.— Глушцы з цецерукамі кружыліся ў Астроўках і Косцеравым дубе цэлымі хмарамі. Палявалася добра ў той час, і паляваць хацелася. Пойдзеш ранкам верасовымі палянкамі, ягоднікам, баравінамі — і ног пад сабой не чуеш: страсць паляўнічая падганяе цябе, бо ведаеш, што ў пастцы звер ці птушка б'ецца.

Дзед замаўчаў, уздыхнуў, затым працягваў:

— Але раней строгасці болей было, людзі сумленне адзін перад адным не гублялі. Праўда, было, што і трапляўся хто нячысты на руку, як Сілка Змітроў. Ды хутка мы яго раскусілі, не сталі пускаць на рыбныя і паляўнічыя месцы. Папрасіўся, зладзюга, пакляўся перад усім паляўнічым народам.

Да глыбокай поўначы праходзіў я ў думках разам з дзедам Богушам яго паляўнічымі сцежкамі. У нашай гаворцы ўсё пераблыталася: даўняе і нядаўняе, дзедавы ўдачы і няўдачы, радаснае і сумнае. Ніхто не запальваў агню, але ў хаце было відно: праз акно ясна высвечваў месяц. Я глядзеў на дзеда, які ў цемнаце варушыў губамі, пра нешта ўсё гаварыў. Я ўслухоўваюся ў яго голас і баюся паварушыцца. Мне раптам стала ўяўляцца ўсё, аб чым расказвае дзед: спякотнае лета, рэчка, якая быццам застыла, лес, а ў лесе звяры і птушкі, травы, у якіх стракочуць конікі...

Дзедаў голас перапыняе мае разважанні, і я пытаюся ў яго:

— Значыць, тое, што цяпер збяднелі лясы і рэкі, вы ва ўсім меліярацыю вінаваціце?

Дзед падняў ад стала сваю галаву з белымі валасамі, прамымі і жорсткімі, якія смешна ўздыбіліся на самай макаўцы.

— Не толькі. Раней чалавек па лесе сваімі нагамі хадзіў. Цяпер жа ў кожнага калі не аўтамабіль, то матацыкл. І гойсаюць маладыя, ды і не адны маладыя, на сваёй тэхніцы, пужаюць усё жывое, а птушка ці звер, яны спакой, цішыню любяць.

Апошнія словы дзед вымавіў з крыўдай у голасе. І на гэты голас адклікнулася бабка Хвядора, якая сядзела ля яго моўчкі, ціха, і здавалася, што яна дрэмле. Але гэта толькі здавалася.

— Стрэльбаў колькі накуплялі,— падала бабка свой хрыплы голас,— як не ў кожнага цяпер вісіць яна дома. А прыйдзе вясна — хоць вушы затыкай: стрэлы па ўсяму лесу, толькі чуеш бах ды бах. І гэта ў пару нерасту, у час, калі птушкі гняздзяцца.

Калі бабка загаварыла пра стрэльбы, я ўспомніў, што ў дзеда Богуша ніколі не было і цяпер няма стрэльбы. Ён — паляўнічы і рыбалоў старой заквкаскі. На звера і птушку ідзе з пасткай, а на рэчку — з вудай.

Размова з дзедам закончылася далёка за поўнач. Я падышоў да акна, расчыніў яго насцеж. З вуліцы павеяла вільготным ветрам. У раскрытае акно паплылі гукі: недзе за блізкай адсюль сажалкай надрываўся драч, няспынна вялі свой канцэрт жабы, што ўсхадзіліся з самага змяркання — прырода жыла сваім адвечным жыццём. І мне здалося, што ўсё ў гэтых месцах засталося такім, якім яно было, калі я тут рос. І раптам я адчуў, што хвалююся: гэта ва мне ажылі ўспаміны пра дзяцінства. Мне прыгадалася, як я разам з дзедам Богушам хадзіў у такую вясеннюю пару ў Косцераў дуб. Тады было ўжо даволі цёпла, і зямля паспела ўвагрэцца. Ад доўгай хады мы абодва стаміліся і зрабілі кароткі прывал, каб даць аддышку нагам. Я лёг на цёплую зямлю тварам дагары і ўбачыў над сабой дым лёгкіх воблакаў, бяскрайні блакіт неба. Дзед Богуш сядзеў побач са мною на паваленай бураломам асіне і згадваў тое, як фарміраваўся ў тутэйшых лясах

восенню сорак першага партызанскі атрад, байцом якога ён стаў неўзабаве. Дзед расказваў і паказваў рукой у той бок, адкуль ноччу ён з некалькімі атрадаўцамі краўся да асенняга поля, каб накапаць бульбы. Там чакала іх варожая засада, чакала смерць. Не раз і не два ён за ўсю вайну сустракаўся твар у твар са смерцю, але ўсё-такі выжыў, перамог і холад, і голад, і самую смерць. І расказваў ён мне пра гэта мо таму, што зноў і зноў хадзіў тымі сцежкамі, на якіх правёў усё сваё доўгае і нялёгкае жыццё.

— Давай класціся спаць,— прапанаваў дзед,— а то на досвітку мне зноў трэба ў Косцераў дуб. Там рыба на нераст касякамі ідзе, і хлапчукі стараюцца перагарадзіць рэчку сецямі, караўуліць трэба, каб шкоды не нарабілі.

Дзедаў голас вярнуў мяне да рэальнасці гэтай хаты. Засынаючы, я ўяўляў дзеда Богуша там, у лесе і на рэчцы. У сваім брызентавым плашчы, з сукаватым кіем у руках ідзе ён працерабам. Ніштo не мінае яго зроку і слыху: дзе пасвяцца глушцы і курапаткі, куды бегалі ноччу на вадапой дзікія кабаны, моладзь рыбы, якая падплыла да самага берага рэчкі.

І ў гэты раз, думаю я, толькі к вечару вернецца дзед дадому з паляўнічай ношкай за плячыма. Бабка Хвядора ўжо даўно чакае яго на ганку. І калі ён толькі пакажацца ў варотах, яна дастае ночвы, налівае ў іх ваду, каб вымыць і выпатрашыць тое, што ў дзедавай торбе за плячыма. Затым яны зварацць юшку і, седзячы за сталом, стануць прыгадваць даўняе і нядаўняе, як бы зноў пройдуць лесам, паўз рэчку, якія сталі для іх абаіх іхняй радасцю, іхнім болем, іхнім жыццём.

## Улазіны

Не спіцца, не можацца Сцяпану. З паўгода так ужо. Днём яшчэ нічога, цярпець можна. То работу якую зробіць каля хаты, то ў горад сходзіць — і пра боль забывае, хвароба на які час трохі атухне, і ён спадзяецца, што мо нарэшце пойдзе на папраўку, жыцьме і рабіцьме ў порце, як і рабіў дасюль, пакуль яго не схапіла гэтае ліха. Але так добра яму толькі да вечара. Вечарам жа, ледзь паспее Васіліна, жонка, маленькая, поўная, з чорнымі бліскучымі вачыма, выключыць святло, калі кладуцца спаць, яго быццам хто пачынае рэзаць нажамі, балюча біць па жываце. Ён спачатку церпіць, маўчыць, не варушыцца, не хоча трывожыць жонку. Ёй і так дастаецца. У яго сілы не стала, а тут хату трэба канчаць. За тыдняў два, каб здароўе, ён і сам дарабіў бы, а так... Добра, што жонка яшчэ трохі дужая. Яна і вады ад калонкі наносіць, і дошкі яму да варштата паднясе, за цвікамі ці яшчэ за чым патрэбным для будоўлі збегае ў горад на дні не адзін раз.

Сцяпан разумее: цяжка Васіліне. Трэба ж і на работу паспець, у зелянгас, дзе яна на гарадскіх скверах саджае, палівае, даглядае кветкі, дэкаратыўны лубін, дрэўцы. За дзень угасіцца так, што ні рук, ні ног не чуе. Прыйсці б ёй дадому, адпачыць, дык не, не даводзіцца. Напала ж на Сцяпана нейкая немач і точыць, точыць усярэдзіне, бы тая точка-драцянка зямлю. За апошнія паўгода, якія ён хварэ, не стала ранейшай сілы ў яго руках, аслабелі і ледзьве трымаюць ногі, змяніўся, пацішэў голас, схуднеў твар. А ў вачах гарыць нейкі трывожны, нездаровы агонь...

Думае, хвалюецца, перажывае сёння Сцяпан. Цёмна ў старой хатцы, якую ён скідаў з сасновых бёрнаў яшчэ адразу пасля вайны, калі толькі прыняўся ў прымы да Васіліны — адзінокай удавы з двума малымі дзецьмі на руках...

Да дня яшчэ далёка. А ён як лёг звечара, так ні на адненькую хвіліну і не звёў вачэй. Пракляты боль так даймае, што ні парашкі, да якіх ён прывык за час хваробы, ні настой сталетніку на першаку-самагоне не памагае. І ён, скурчыўшыся ў тры пагібелі, схаваўся пад коўдру з галавой, паціху, каб не разбудзіць жонку, стогне. Але Васіліна, мабыць, пачула яго стогн. Яна цяпер заўсёды сцеле сабе на старой скураной канапе, што стаіць ля ўваходных дзвярэй, і пачула, як ён варочаецца з боку на бок, скрыпіць ложкам, скрыгоча зубамі. Васіліна ціхенька, ён адразу і не ўчуў, устала-паднялася, басанож, у начной сарочцы наблізілася да яго, спытала:

— Табе пагоршала, Сцёпа, мо на «хуткую» пайсці пазваніць, хай прыедуць укол зробяць?

Ён толькі ёй паскардзіўся, бы гэтым самым стараўся апраўдацца перад ёю:

— Так, Васіліно, пячэ, што духу майго вутрываць далей няма.

Жонка не затрымалася каля яго. Не ўключаючы святла, накінула на сябе апратку, наткнула на босую нагу гумавыя боты з кароткай халяўкай — і скрыпнула дзвярыма, пабегла да тэлефона-аўтамата, што знаходзіцца ў якіх паўкіламетра ад іхняе хаты.

Мабыць, ён моцна стагнаў, бо не пачуў жончыных крокаў у двары. Але як толькі ён застаўся ў хаце адзін і пачаў думаць пра тое, калі ж усё-такі кончацца яго пакуты, боль быццам трохі адпусціў. І тады ён адчуў, як цяжка, нядобра на душы. Ён скінуў з сябе коўдру, падкурчыў калені, ашчаперыў ногі рукамі, паклаў падбародак на калені і пачаў разважаць сам з сабою. Раз-

важаў трывожна, балюча, ад гэтых разважанняў станавілася горача ў грудзях, і ён ледзь стрымліваў сябе, каб не зайсціся горкім плачам. «Госпадзі, і за што на мяне такое ліха напала? — думаў ён, седзячы на пасцелі ў неасветленым пакоі.— Сама цяпер пажыць бы. Хіба ж я дасюля жыў як трэ? То безбацькоўская гадоўля, вайна... А потым? І потым адны бясконцыя клопаты... Цяпер і дзяцей пагадаваў, і хату такую ўзвёў. Жыць бы сама раз, дык дзе тут...»

Да яго свядомасці нешта даходзіла, ён пра нешта цьмяна здагадваўся. Ён, праўда, стараўся адганяць ад сябе ўсе страшныя сумненні-здагадкі, але пазбавіцца ад іх назусім не мог. Тое, што з кожным днём, кожным тыднем яму ўсё горшала і горшала, даводзіла яго да роспачы, іншы раз яму думалася пра свой вельмі блізкі, самы апошні дзень... У такія хвіліны ў вачах паўставаў той доктар, які аглядаў яго ў бальніцы, куды ён трапіў на першым часе сваёй хваробы. Высокі, хударлявы, з ахрыплым голасам, выцвілымі ўважлівымі вачамі ён перш выслухваў яго сэрца, пакруціў з жалем галавою, сказаў: «Проста не верыцца, што вам пад шэсцьдзесят, сэрца дай божа, як у маладога». І затым ужо доктар пачаў дапытвацца, чаму гэта ў дваццаць пяць гадоў ён, Сцяпан, нажыў сабе язву страўніка, якую выразалі яму яшчэ да вайны. Сцяпан расказаў, як ён рос без бацькоў, якія недзе перад самай рэвалюцыяй захварэлі чорнай воспай, тады, перад семнаццатым годам, уся вёска хварэла на тую воспу, хвароба касіла людзей аднаго за адным, скасіла і яго бацьку з маці, сястру і брата, а ён выжыў, невядома як, але выжыў. Добрыя людзі-суседзі ўзялі яго да сябе, памаглі падняцца на ногі...

«Хуткая» прымчала ўслед за жонкай, якая вярнулася хвілін праз пятнаццаць, уключыла святло, зморана села на дыване і чакала, калі паявіцца медсястра. Да іх выкліку звычайна прыязджае, як дзяжурыць,

адна і тая ж медсястра: маладая, з вішнёвымі шчокамі і белымі фарбаванымі, што падаюць на плечы, валасамі. Медсястра вельмі ветлівая, абыходлівая, не шкадуе слоў, каб супакоіць Сцяпана, пераканаць яго, што вось зробіць яму ўкол і тады адразу палепшае. З кожным разам, праўда, ёй пераконваць Сцяпана станавілася цяжэй, бо тыя ўколы памагалі толькі на нейкі час. І ўсё ж яна знаходзіла словы, каб ён спадзяваўся, верыў у сваю папраўку: «Вы дужа прыткія ўсе, хочаце ў адзін міг вылечыцца, не, так у нас, у медыкаў, не бывае, знайце — здароўе вылятае пудамі, а вяртаецца залатнікамі, так што набярыцеся цярпення».

Так, праўда, медсястра гаварыла аднаму Сцяпану, а ад жонкі не ўтойвала, калі выходзіла Васіліна яе праводзіць за дзверы. За дзвярыма Сцяпан іх не чуў, і медсястра казала Васіліне шчыра: «Пагана, ох як пагана вашаму мужу, хвароба такая, што ўсё з ім можа здарыцца ў любую хвіліну, тыя ж уколы, якія я раблю, памогуць часова, яны толькі абязбольваюць...»

Васіліна, дазнаўшыся пра мужаву хваробу праўду, стала сама не сваёй, усё з яе рук валілася, але яна мусіла варушыцца, рабіць усё ў доме і на рабоце, бо хто ж, як не яна, дагляне Сцяпана. Праўда, яна ўсё ж верыла, што не сёння-заўтра ён ачуняе, не можа таго быць, каб не ачуняў, дактары ж не святыя, і яны іншы раз могуць памыляцца.

Калі медсястра зрабіла ўкол і знікла, бы той начны матылёк, па той бок дзвярэй, Сцяпану адразу палегчала. Ён наткнуў на нагу дамашнія пантоплі, выйшаў у калідор, пакурыў там, выпіў малака, якое стаяла ў шкляным слоіку на стале, і вярнуўся ў пакой. Жонка пачынала распальваць у печы, і ён, назіраючы, як яна ўпраўляецца з чыгункамі, каструлямі, закашляўся, а адкашляўшыся, загаварыў:

— Напісала б, Васіліно, каму з хлапцоў, хай бы ўзялі прыехалі на які тыдзень-другі, памаглі б мне

каля хаты, а то я калі не адхаюся, то да зімы не дараблю, хоць і работы тае там не вельмо.

Паставіўшы ў кут вілкі, якімі толькі што ўставіла ў печ да агню чыгун намытай і нялупленай для парасяці бульбы, Васіліна зірнула ў яго бок. Сцяпан убачыў яе вочы, яны паказаліся яму сумнымі, у іх адбівалася полымя, што бушавала ў печы.

— Не дажыдаючыса тваго ўказу, падумала пра тое сама. Учора бегла з работы і заскочыла на перагаворны пункт, з Толем пагаварыла па тэлехвоні, наказала, коб кідаў там усё, браў водпуск і ехоў сюды. А Вера і сама пісала, што прыедзе сягоні.

Яго перш насцярожыла тое, што жонка тайком ад яго склікае дахаты дзяцей. Але падумаў, падумаў трохі і пачаў у душы дакараць сябе за сумненні, якія, мабыць, чэпяцца-ліпнуць да яго ад гэтай доўгай хваробы. Жонка, рашыў ён, ведае, што робіць. Ён жа занядужаў, а хату некаму дарабляць трэба, а то прыйдзе восень, задажджыць, тады багата не зробіш. Наняць жа каго не вельмі цяпер і ноймеш, людзі багата жывуць, за капейкай цяпер мала хто ганяецца, заробкі ў кожнага добрыя, а ў вольны час каму не хочацца схадзіць на рэчку, што працякае-віецца каля іхняга гарадка?

За размовай з жонкай Сцяпан не заўважыў, як на дварэ хутка вывіднела, пасвятлела. Папараўшыся, накарміўшы парася і сыпнуўшы на зямлю місачку жыта курам, Васіліна нахапок паснедала і пабегла на работу. Ён выйшаў праводзіць жонку на маленькі ганак, дошкі на якім падгнілі і прагіналіся. Памахаў Васіліне рукою, глянуў на новую хату, у якой засталося тое-сёе зрабіць — і спраўляй улазіны. Добрую хату паставіў Сцяпан, цагляную, пяць пакояў у ёй, асобная кухня, вялікі калідор, масіўных печак-грубак няма, бо ў новай хаце Сцяпан сам, сваімі рукамі правёў паравое ацяпленне. Праўда, у прыватным доме ўстанавіць кацёл, падвясці да батарэй трубы, зрабіць і адладзіць усё так,

каб і вугалю не багата ішло на паліва, і цяпло трымалася ў хаце — трэба ўмець. Багата хто са Сцяпанам па суседству будуецца, а паравое прыдумаў правясці ён адзін. І як правёў, ды распаліў кацёл пасярод леташняе зімы — у хаце хоць ты босы і голы хадзі, нават падлога грэецца. Кінуліся тады да Сцяпана суседзі: пакажы і раскажы як, што, да чаго? Сцяпан рассмяяўся: «Ага, а вы мне не верылі, казалі, што паздымаю батарэі і грубкі пастаўлю, аж не, не па-вашаму выйшла, цяпер вы раскідвайце свае дзедавы печкі».

Не багата, зусім не багата засталося работы каля новае хаты, і на табе, яму самому цяпер ніяк не ўправіцца. Васіліна, праўда, і пасварваецца на яго: «Каму ты такі палац будуеш? Нам з табою хопіць і старое хаты, сцены ж у яе шчэ моцныя, не прамярзаюць, дах толькі перакрый і жыві, вякуй, дак не...» Ён не згаджаецца з жончынымі довадамі: «Папрыязджаюць-сабяруцца дзеці калі на лета, і дзе ты іх памесціш, дзе спаць пакладзеш? Рассцелеш старыя латуны на падлозе і пакладзеш усіх упокат? Не, пакуль у мяне рукі не адсохлі, здароўя трохі шчэ ёсць, то пабудуюса...»

Хто ж яго ведаў ды знаў, што так усё атрымаецца? Думаў зрабіць як лепш, а яно вунь як павярнулася. І ці паправіцца, ці дачакаецца, калі з'едуцца ў новую хату дзеці, ці з'ездзіць ён сам яшчэ калі-небудзь да каго з дзяцей, пабачыць, як ім жывецца?

Стаіць Сцяпан на ганачку, пазірае, як аддаляецца ад хаты жонка, думае пра сябе, сям'ю, жонку, хвалюецца ўсё. Не, хваляваца, мабыць, яму асабліва і няма чаго. Дзяцей пагадаваў, памог ім вывучыцца, пажаніў, Веру замуж аддаў... Добрыя параслі ў яго з Васілінай дзеці. Радавацца трэба. Душой і сэрцам радавацца. Хоць і не родныя, не кроўныя яго дзеці Толя з Верай, а душа за іх, калі што здараецца, баліць. Баліць гэтаксама ж, як і за Колю, свайго роднага сына, якога нарадзіла пасля вайны яму Васіліна і які, адслужыўшы

армію ў марскім флоце, застаўся пасля службы ў Таліне, там ажаніўся, кватэру атрымаў, цяпер у яго сынок, Алежка, расце, яго, Сцяпанаў, значыць унучак. Ні разу, ніводнага разу не бачыў Сцяпан Алежку. А як бы хацелася пабачыць, патрымаць яго на руках, пагушкаць. Коля ж пісаў у пісьме, што Алежка ўдаўся ў дзядулю, падобны на яго «як дзве кроплі расы». Ці давядзецца пабачыць унучка?..

Доўга стаіць Сцяпан на ганку старое хаткі, Васіліны ўжо і не відно, за гарою знікла яна, за павароткаю. Там недалёка ўжо да канторы зелянгаса, куды кожнага ранку і заяўляецца жонка.

Думаючы пра жонку, Сцяпан нечакана згадаў сённяшнюю з ёю ранішнюю размову. Вера, сказала яму Васіліна, аўтобусам прыедзе.

Ён памалу пратупаў з ганка ў хату, стаў корпацца ў вялізнай, з двума дзвярыма і пасярэдзіне доўгім трэснутым люстрам, шафе. У шафе вісела адзенне, і ён пачаў выбіраць што лепшае з апраткі — надумаў пайсці на вакзал і сустрэць Веру, яна ж, мусіць, не адна прыедзе, з дачкою, і адной ёй дабрацца дахаты будзе не так проста.

Выбіраючы патрэбную апратку, Сцяпан заўважыў, што бакі і дзверцы ў шафе аблузаныя, фарба вылінялавыцвіла, пара б яе замяніць і на новую. Але і ён, і жонка прывыклі да старых рэчаў у хаце, магчыма, таму што і самі не маладыя, «у гадах», і купленае некалі даўным-даўно напамінае ім пра сумесна пражытыя гады.

Апрануўшыся ў карычневы з доўгай белай палоскай касцюм, надзеўшы на галаву светлы саламяны капялюш і абуўшыся ў чорныя з тупымі насамі туфлі, Сцяпан пайшоў на вуліцу. Зрабіў крокаў дзесяць і адчуў: ісці яму сягоння нечага цяжка, ад слабасці яго хіліць, бы п'янага, то ў адзін, то ў другі бок. Мусіў пакружыцца па двары, пашукаць, што б такое ўзяць у рукі.

Знайшоў пакрыўленую-патрэсканую сухую палку, узяў у рукі і налёг на яе ўсім целам — кій, хоць аказаўся і старым, быў яшчэ моцны, абапірацца на яго можна смела.

Ён пайшоў шырокай ускраіннай вуліцай, заасфальтаванай пасярэдзіне, а па баках яе людзі вытапталі сцежкі. Вуліцу гэтую, як і ўвесь раён, гарадской не назавеш, бо тут не будавалі шматпавярховых дамоў, тут размясціўся «прыватны» сектар. Колькі гадоў назад іхні пасёлак і горадам называць ніхто не называў — пасёлак здаўна называлі мястэчкам. Але за апошнія гады пасёлак разросся, у ім паявіліся два мікрараёны з адных шматпавярховых дамоў, і мястэчка перайменавалі ў горад.

Вуліца ж, на якой жыў Сцяпан, нічым не адрозніваецца ад вясковай. І людзі, якія жылі на гэтай вуліцы, здавалася, нічым не падобны на гараджан: гавораць, як гавораць у вёсцы, маюць агароды, сады, трымаюць свінча, курэй. Канечне, і мяса, і яйкі можна купіць у магазіне, на базары, а базар у іх добры, дзяшовы, і ўсяго там заўсёды хапае, але сваё ўсё ж сваё, не трэба стаяць у чэргах, яйка бяры з кубла, мяса з дзежкі.

Усцяж вулкі — платы, то высокія, то нізкія, з навіссю галін пладовых дрэў. За платамі — драўляныя або цагляныя дамы, за дамамі цягнуцца агароды з маленькімі вузкімі загонамі, на якіх спее клубніка, чырванее бураковае бацвінне, цвіце агурэчнік.

Ад самага канца вайны пасяліўся Сцяпан на гэтай вуліцы і ведае, хто ў якім доме жыве, ведае, колькі ў каго дзяцей, хто купіў аўтамабіль і хто збіраецца купляць... Ведаюць тут і яго ўсе. І таму ён ля кожнага дома прыпыняўся, здымаў адной рукою з галавы капялюш, вітаўся.

Дарога прывяла яго ў цэнтр гарадка, на шырокую і доўгую плошчу, трохі наводдаль ад якой віднеецца

рака, таксама шырокая, мнагаводная ў любую пару года, з цёмнай, бліскучай і плыткай вадой. Па рацэ, можна ўбачыць з плошчы, то ўніз, то ўверх па цячэнню праплываюць непаваротлівыя буксіры, якія пхаюць паперадзе сябе доўгія, тупаносыя, з белымі выратавальнымі кругамі на борце, гружаныя вугалем, шчэбенем або лесам баржы.

Ад плошчы ўсе дарогі вядуць да вакзала, які знаходзіцца па той бок моста, перакінутага на высокіх бетонных палях праз раку.

Дайшоўшы да прыпынку пятага нумара, Сцяпан дачакаўся, калі пад'ехаў старэнькі, бела-блакітны «ЛАЗ». Ён наблізіўся да аўтобуса і паспрабаваў узлезці на прыступкі спераду, кудою звычайна выходзяць. Вадзіцель ужо збіраўся кранацца з месца, але ўбачыўшы, як Сцяпану няпроста ўскарабкацца-ўціснуцца ў аўтобус, прыкрыкнуў на маладога хлапца з тонкімі чорнымі вусікамі, які расселся на пярэднім сядзенні, каб той памог яму, Сцяпану.

У аўтобус, пакуль Сцяпан падымаўся, налезла паўным-паўнютка людзей, не аказалася ніводнага свабоднага месца.

— Масціся тут, дзядуля,— Сцяпан убачыў, як устаў і звярнуўся да яго той самы хлопец з вусікамі, што памог яму адолець прыступкі.

Па мосце ехалі даволі ціха, скорасць тут абмежавана, і Сцяпан, седзячы спераду, пазіраў праз акно ўніз на раку, па якой, пакідаючы за сабой высокі пеністы след-хвалю, хутка паплыў-аддаліўся пасажырскі цеплаход на падводных крылах.

Калі цеплаход знік за паваротам ракі, Сцяпан крутнуў галавою назад, паглядзеў, ці няма на задніх сядзеннях каго са знаёмых. За час хваробы яго зрок, мабыць, аслабеў, бо твараў людзей, што стаялі і сядзелі блізка і падалёка ад яго, ён не распазнаваў — перад вачамі бы стаяў-курыўся дрогкі ранішні туман. Сцяпан

пацёр вочы кулакамі, але туман-навалач не знікаў, людскія твары то дваіліся, то зліваліся ў адзін. Не пазнаючы нікога і думаючы, што ўсё ж сярод пасажыраў ёсць хоць адзін чалавек, які ведае яго, і баючыся паказацца няветлівым, Сцяпан слаба ўсміхаўся і ледзь прыкметна ківаў галавою, бы вітаўся з тым, каго не бачыў.

На вакзале яму памог сысці той жа хлопец з вусікамі. Сцяпан яму вельмі стаў дзякаваць, але хлопцу, мабыць, было не да яго слоў — ён заспяшаўся.

Ад аўтобуса ён пайшоў адразу ў аўтастанцыю, у залу чакання, пакіраваўся да маленькага акенца з надпісам «Справочное бюро». Сярэдніх гадоў жанчына ў шэра-попельным парыку, з доўгімі чорнымі вейкамі, што сядзела па той бок акенца, хуценька яму адказала, і ён паднёс да вачэй левую руку, глянуў на маленькі круглы гадзіннік, які спраўна служыць яму мо ўжо каля чвэрткі веку. Да прыходу аўтобуса заставалася каля паўгадзіны. Ён выйшаў на перон, прайшоўся ўздоўж яго. На пероне ўзад-уперад снавалі старыя з хатулямі, кошыкамі, кашалямі, маладыя з сумкамі, партфелямі, бліскучымі скуранымі, на «маланках», чамаданамі. У самым канцы перона стаялі ў два рады лавачкі без спінак, і ён, згледзеўшы свабодную, дабрыў да яе, прысеў. Яму часта даводзілася сустракаць-праводзіць дзяцей, і ён прывык да вакзальнай мітусні, да незнаёмых людзей, якія заўсёды спяшаюцца, ледзь не збіваюцца з ног, ідуць подбежкі да білетнай касы або да адбываючага ці прыбываючага аўтобуса.

Амаль трыццаць гадоў пражыў Сцяпан у гэтым гарадку, здаецца, няма ў ім такой вулкі ці завулка, па якіх ён не хадзіў бы ці не ездзіў. З закрытымі вачамі, здаецца, мог бы расказваць і паказваць, дзе пабудавалі нядаўна новую школу, кінатэатр, пасадзілі парк. Пазірае ён, седзячы на скамейцы, на горы і схілы гор, на якія нібы ўзбег горад, і не пазнае зараз яго. Мо таму,

што ўсю зіму і вясну пракачаўся ў пасцелі, не вылазіў даўно з хаты? А калі ж апошнім часам і вылазіў, то ад парога далёка не адыходзіў, ногі сталі не тыя. Горад жа расце, увачавідкі мяняецца. Вунь там, за вакзалам, раней было вялікае пясчанае поле, з якога ў час паводкі ці дажджу несліся ў раку рыжыя патокі вады, перамешанай з чырвонай глінай, якой так багата на тым полі. Не відно цяпер поля, і знаку ад яго не засталося. Як заварушыліся пазалетась там будаўнікі, то дамы там, як грыбы пасля дажджу, пачалі расці адзін за адным...

Перад Сцяпанам прайшла жанчына яго гадоў, і ён зірнуў нечага на яе: яна паказалася яму знаёмай. Жанчына, мінуўшы лаўку, на якой ён сядзеў, азірнулася, успляснула рукамі:

— Сцепаначко, ці ты ж ето, а вой, божухна мой, які ты буў і які стаў?

— Ніхто з нас, Анэлько, не памаладзеў, усе мы памалу падбіраемся да зялёнага гаю,—няўдачна адказаў ён жанчыне і заўсміхаўся.

Прыбіральшчыца рачнога порта цётка Анэля ўважліва пазірала на яго. Яна даўно ведае Сцяпана, з таго самага дня ведае, калі ён прыйшоў пасля вайны ў порт і апрануўся ў шэра-зялёную брызентуху шкіпера і якую не скідаў з сябе аж да таго, пакуль не скруціла яго гэтая хвароба. Ды і суседзі, лічы, яны: на адной вуліцы жывуць, адзін да аднаго ў госці колькі хадзілі.

Анэля пазірае на яго, ні на хвіліну не зводзячы вачэй: даўно не бачыла яна Сцяпана, прорва работы, не проста вырвацца ды адведаць яго, а трэба было б адведаць, сорамна ж, усё-такі суседзі. І яна пачала апраўдвацца, але Сцяпан не даў ёй гаварыць, сказаў, што ён усё добра разумее, сам жа унь будуецца, то і дарогу ў порт зусім забыў, праўда, хвароба не дае вельмі раскінуцца, як схопіць боль, то тады яму ўвесь гэты белы свет нямілы..

Ён гаварыў, а Анэля ўсё пазірала на яго. І не тое ёй было дзіўна, што раней ён, у свае маладзейшыя гады, калі толькі паявіўся на рачным прычале, меў густы бас, шырокія плечы і ішоў усюды подбежкі, а цяпер вось ледзьве ліпіць. Яна, праўда, і сама, не хварэючы нават, даўно не тая, якою помніць сябе, калі ёй было на тры дзесяткі меней: гады бяруць сваё. Здзіўляе яе ў Сцяпану яго характар, яго добрая ўсмешка, якая, здаецца, ніколі не знікае з яго пасечанага воспай твару. А жыццё не шкадавала яго, і не дай божа такога каму другому. Сцяпану і васьмі не было, калі асірацеў ён у першы раз. Бацькі, брат і сястра ад чорнай воспы памерлі... У дваццаць пяць перанёс аперацыю на язву, якая развілася, мабыць, ад таго, што недаядаў, недасыпаў, бадзяўся па беламу свету, пакуль не завёў сям'ю... У вайну загінула жонка з сынам, і ён асірацеў у другі раз... Вярнуўся з фронту на Палессе, стаў працаваць у мястэчку і тут сасватаў Васіліну, удовую жанчыну з двума малымі хвастамі. Муж Васілінін, Павел, пераказвалі затым Сцяпану, у партызанах загінуў. Пашкадаваў ён Васіліну, дзяцей яе, пяцігадовага Толю і трохгадовую Верку пашкадаваў, не хацеў, каб яны раслі, як і ён некалі, сіратамі. Не родны, не кроўны ён ім бацька, а ўсё ж нейкая абарона і падтрымка... Васіліна ж адразу паказалася яму дзівачкай з дзівачак. Языком пра абы-што меле цэлымі днямі, пакуль ён не цыкне на яе. Тады яна замаўчыць, зашыецца дзе ў куточак і плача тоненькім галаском: «Не муж ты мне, ты злуесса, што з двума дзецьмі мяне ўзяў, але хіба я цябе шукала? Ты ж сам у маю хату прыйшоў».

Адплачацца, высахне Васіліна ад слёз — і давай Паўла згадваць: які ён добры, харошы ды ўважлівы быў. Сцяпан тады бы вады ў рот набраў: маўчыць. А пасля закурыць і выходзіць з хаты на двор, дзе прастаіць да самае поўначы. Вернецца, калі ўсе спяць. Ён

ціхенька, каб не разбудзіць Васіліну, дзяцей, кладзецца на краёчак ложка, засынае...

То затым ужо Васіліна пасур'ёзнела. Дзівачка дзівачкаю, а скумекала, разабралася, што не кожны на Сцяпанавым месцы добраахвотна ўпражэцца ў такі сямейны воз, які дасюль цягнула яна адна. А ён упрогся! І яшчэ як упрогся! І на яе ні разу рукі не падняў, наадварот, то яна яшчэ іншы раз пакрыквала на яго. А ён з ёй заўсёды па-добраму, і называе не абы-як, а «мая дарагая». І Толя з Верай хутка прывыклі да яго, папам сталі называць. Толя дык той і кроку без яго ступіць не мог. Прачнецца, бывала, рана-раненька, лезе на печ, дастае анучы, якія Сцяпан нанач рассцілаў на чаране, каб сохлі, і ідзе да пасцелі, будзіць: «Папа, го папа, уставай, мамка ўжэ аладок напякла, снедаць будом».

Васіліна стаіць перад печчу, варочае, устаўляе-выстаўляе чыгункі з цёплай вадой, з варанай бульбай, крадком сочыць за Толікам, вочы ў яе дасюль былі сухімі, а тут ураз, бачыць Сцяпан, павільгатнелі: яна, мабыць, радуецца, што Толік так моцна прывязаўся да яго, Сцяпана. Па выразу твару, па яе позірку Сцяпан здагадваецца, што Васіліна хоча сказаць сыну: «Дурненькі ты мой хлапчак, нічога ты не цяміш, ето ж не твой родны татко, твой там, у лесі, за Мялешкавічамі спіць, вурасцеш — я зваджу цябе на яго магілу, паплачом разом... Але добрэ, вельмо добрэ, дзетко маё дарагое, што твая душа цяпер спакойная, што табе ёсць каго называць татком... Ето дак і вельмо добрэ...»

Сцяпану становіцца нядобра ад таго, што ён здагадваецца, аб чым падумала Васіліна, але яму і прыемна: яго ў гэтай хаце ўсе паважаюць, усе любяць...

Праз два гады пасля таго, як сышліся, Васіліна радзіла яшчэ аднаго сына. Калі Сцяпан прыйшоў за ёю ў раддом, што размяшчаецца на гары непадалёк ад ракі, і ўзяў з яе рук у свае маленькі жывы скрутачак,

цесна спавіты ў палатнянае прасціраддла, то пацалаваў жонку ў шчаку, шчасліва ўсміхнуўся, сказаў: «Дарагая ты мая!» Во як! Не дзівачка якая-небудзь яна для яго, а «дарагая»...

Цётка Анэля пра ўсё гэта ведала, бо не раз бывала ў Васіліны, і тая на радасці пра ўсё ёй пераказвала. Сцяпан жа тады, як нарадзіўся ў яго з Васілінай сын, увішны быў. Пакуль не падраслі дзеці, ён не вельмі то і пускаў Васіліну на работу, гаварыў:

— Даглядай вунь лепш нашых смаркачоў, каб меней хваробы ліпнулі да іх, а на харч я і сам зараблю...

Дома, калі гадаваліся дзеці, не стыкаўся Сцяпан. Увесь дзень гружаныя баржы прымае, паказвае капітанам буксіраў, куды іх, баржы, падганяць пад пагрузку-разгрузку. А ўвечары, не скідаючы з сябе брызентавай апранахі, у дыспетчарскую бяжыць, за зменнага дыспетчара ўпраўляецца...

І ніколі не піў Сцяпан так, як п'юць іншыя. Ну, не сказаць, што і ў рот не браў. Браў, канечне. Там пад час зарплаты ці на свята якое вялікае. А таго, каб пад платамі валяўся — не ўпомніць цётка Анэля. Іншыя не знаюць сабе меры, вось і начуюць пад платамі, а са Сцяпанам такога не было. Ніводнага разу не было. Словам, лічыць цётка Анэля, пашэнціла Васіліне на добрага мужа...

Цётка Анэля ўсё стаіць, згадвае таго, маладога Сцяпана, з якім яна адпрацавала ў порце каля трыццаці гадочкаў. І параўноўвае таго, маладога Сцяпана з гэтым хілым, абяскроўленым непапраўнай хваробай, старым чалавекам. Параўноўвае і ледзь за галаву не хапаецца: «Божухна, што з чалавекам зрабіласо, сам на сябе не пахожы!..»

— Чаго лоб моршчыш? Страшным я стаў? — Сцяпан спрабуе ўсміхнуцца, але гэта ў яго не атрымліваецца, і ён, каб працягнуць размову з Анэляй, прапаноўвае ёй сесці.

— Ох, расседжвацца то і часу няма, Сцепаначко, з работы ж адпрасіласа не надоўго, збіраюса да дачкі ў Матрункі з'ездзіць, то білет за далегодзь думаю ўкупіць. А ты што тут робіш, мо куды да дахтароў сабраўса — у Мінск ці Гомель?

— Не, дахтары, мабыць, памогуць мне ўжэ як хваробе кашэль, дачка ж, Вера, з Гомля прыязджае, то стрэнуць рашыў, во-во прыбуць павінна, ты задзяржыса, пабачым.

Анэля над нечым думае, а затым гаворыць:

— Мо трохі палегчае табе, Сцепаначко, за етае лецейко, летам жэ прорва ўсялякіх ягад, скажы Васіліне, коб за суніцамі з'ездзіла са мною ў Матрункі, там на старых селішчах суніц бу гразі, а суніца, калі ные ўсярэдзіне, вельмо ж памагае, павер мне.

Сцяпан махае рукою:

— Ат, найшла, Анэлё, пра што гаварыць, етая хвароба і так усе мае гізунты вуматала, а ты мне пра яе і пра яе, давай аб чым-небудзь іншым гавары.

Ён хацеў ёй яшчэ сказаць, што цяпер усе яго ночы — вераб'іныя: і вока, як Васіліна тушыць агонь, не самкне, усю сярэдзіну бы хто гарачым ражном колевыпальвае. Але ён стрымаўся, не стаў успамінаць пра свае пакуты. Яму хацелася зараз горка заплакаць, але ён адчуваў, што слёз няма, і ён, сцяўшы вусны, маўчаў, сціснуўся і баяўся, што Анэля пачне трывожыць яго душу пытаннямі пра хваробу. Ды не, Анэля маўчала. Мабыць, па яго выгляду яна здагадалася, што не пра тое яна са Сцяпанам загаварыла. Абвёўшы доўгім позіркам мітуслівы вакзал, Анэля папыталася ў яго:

— Адна Вера прыязджае ці з сям'ёй?

— Толкам і сам знаць не знаю, от хутко пабачу.

Цётцы Анэлі хацелася, канечне, і самой паглядзець на Веру, даўно тая не прыязджала да бацькоў. А яна ж, Анэля, помніць яе дзіцём, затым дзяўчынай — высокай, танклявай, малагаваркой. А цяпер у іх у порце

слух пранёсся, быццам прыёмная Сцяпанава дачка разышлася з першым мужам і сышлася з другім, з разводнікам. Ёй то і вельмі карцела зараз жа распытаць у Сцяпана, ці праўда тое, аб чым мелюць языкамі пра Веру, але яна нечага не асмельвалася навязвацца чалавеку са сваімі роспытамі, падумала, што зойдзе не сёння-заўтра да Сцяпана ў госці і пра ўсё чысценька даведаецца. Пакуль жа яна загаварыла пра другое:

— Дзеці нас цяпер мала здумляюць, прыязджаюць рэдко калі. Вунь і мая дачка дарогу да хаты забуласа, калі сама не адскочу, то ёй і не наўме, што я тут пераживаю.

Сцяпан не адказаў, ён зноў глянуў на свой ручны гадзіннік і захваляваўся: аўтобус павінен ужо прыбыць, а яго ўсё няма. Анэля не заўважыла яго хвалявання і працягвала:

— Колінаго ж сына ты, мусіць, шчэ і не бачыў? Адбіў бу цілігpаму, хай бу прыехоў на які тыжджэнь, усё ж ён у цябе адзіны сын, і адзіны ўнучак у цябе твой родны.

Апошнія словы бы ўкалолі Сцяпана, і ён ледзь стрымаўся, каб не сказануць чаго вострага, яго твар нядобра перакрывіўся, і ён з гневам прамовіў:

— Як, Анэлё, язык у цябе паварочваецца гаварыць такое: я ж і Веру, і Толю не адасабляю ад свайго сына, яны для мяне ўсе дарагія, яны парaслі на маіх вачах, у мяне аднолькава душа баліць па ўсіх траіх...

Анэля спужалася, што так нечакана і для самой сябе нядобра зачапіла Сцяпана. І яна заспяшалася, пастаралася хутчэй развітацца:

— Не, Сцепаначко, дажыдайса ты ўжэ сам Веру, а я пайду, шчэ ж на работу трэ, дай чарга за білетамі паглянь водзе якая.

Ён хацеў сказаць Анэлі, каб тая, калі адстаіць чаргу за білетам, вярталася да яго, і яны яшчэ пагамоняць трохі. Але падумаў, што наўрад ці выйдзе ў іх, бо хвост

да касы доўгі, а аўтобус з Гомеля, якім павінна прыехаць Вера, вось-вось паявіцца. І Анэля, напомніўшы яму, што ў бліжэйшыя дні заскочыць у госці, патупала да касы, прыстроілася ў чарзе, увесь час азіралася на Сцяпана...

Заныла ў паясніцы ад доўгага сядзення — і Сцяпан устаў. нервова захадзіў пад бетонным дахам аўтавакзала. Ён хадзіў і думаў зараз пра тое, што сказала яму Анэля: «Яна ж, Вера, не родная, не кроўная табе... Хм-м, і язычок жэ ў етае Анэлі, і не падумаў бу, што так сказануць можэ... Верка яму даражэй за ўсіх — за Толю і нават за Колю...» Але чаму? Мо таму ў яго душа так баліць часам па ёй, што расла яна хваравітай, як наступала зіма, дык з бальніцы не вылазіла. А ў адну зіму ён, Сцяпан, думаў, што не выжыве, не вылечаць, не адхаюць яе дактары — было ж двухбаковае запаленне лёгкіх... «Не, вужыла, вурасла, школу здала добрэ, ў Гомлі пяць год вучылаcа, чалавеком вялікім стала... Не, Верка — яго дачка, хоць і не родная. не кроўная, але яго. а Анэля меле чортведама што... Хай сабе меле, язык без касцей у яе...»

Затым Сцяпан згадаў, што ў Веркі і з замужжам адразу, як трэба, не выйшла, не склалася: разышлася яна са сваім першым мужам, ад якога нарадзіла дачку. тоненькую бялявую Анжэлку. Сцяпан то ўсёй душой пратэставаў супраць разводу, але што ты зробіш, што парадзіш, калі ў Веркі такі характар: рашыла сама і перарошваць не стала. І паездка Сцяпанава не памагла. Верка толькі расстроілася, што ён дзень дарма звёў. Ён тады пачаў крычаць на яе:

— Табе дня майго шкода, а таго не шкода, што маці на сабе валасы рве, плачэ ўсё.

Веря глянула на яго строгім позіркам:

— Табе, папа, з мамай не жыць за мяне, і не лезьце вы ў маю душу, я пастараюся сама як-небудзь разабрацца...

Ён раззлаваўся той раз: «Ах, ты ўжэ не маленькая, можаш і без мяне з маці пражыць, ну і жыві сабе на здароўе, я мяшацца і не хачу, і не стану, толькі знай: лепшага мужа, як Саша, ты сабе век не знойдзеш».

Сказаў, развярнуўся, і Верка толькі і бачыла яго. Яна, Верка, дагнала яго на лесвіцы, паспрабавала нешта растлумачыць, але ён і слухаць не стаў, адмахнуўся ад яе рукой і казаў:

— Вельмо ўсе вумные пасталі, калі параслі...

Праз год яшчэ раз ездзіў да Веры Сцяпан. На гэты раз гаворка паміж імі адбылася болей спакойная. Можа, і не разумелі яны адно аднаго, але гаварылі мірна...

У вачах у Сцяпана ўсё заскакала, закружылася галава, і ён, каб не ўпасці, мацней абапёрся на кій: ён моцна захваляваўся, калі ўбачыў Веру, якая з невялічкай белай сумкай у руках выйшла з пад'ехаўшага аўтобуса. Сцяпану адразу паказалася, калі ён трохі супакоіўся і пачаў углядацца ў Верын твар, што дачка за апошні год схуднела, квяцістая ружовая сукенка свабодна вісела на ёй, плечы сталі вузенькімі, вострымі.

Ён зрабіў колькі крокаў да Веры, шырока і добра заўсміхаўся. Яны абняліся, пацалаваліся, і Вера пачала ўшчуваць яго:

— Ты ж хворы, папа, ці варта табе мучыцца, я ж і сама знаю дарогу дахаты.

Яна глянула на яго лагодна, і Сцяпан заўважыў, што Вера за дарогу трохі стамілася, бо від у яе сонны, вялы.

І толькі зараз Сцяпан заўважыў за спіной у Веры Жору — яе другога мужа, з якім ён пазнаёміўся мелькам, калі летась у другі раз ездзіў да Веры. Апрануты Жора ў чырвона-белую тэніску, джынсавыя штаны. Ён, Жора, увесь час не спускаў са Сцяпана вачэй, у адной

руцэ ён трымаў скураны чамадан, а за другую яго руку ўзялася Анжэлка.

Павітаўшыся з зяцем, Сцяпан нагнуўся, узяў за плечы Анжэлку, пачаў заглядваць ёй у вочкі, якія яна сарамліва апусціла долу.

— Забула, мая ты харошанькая, дзеда, але нічога, малайчына, што прыехала з мамкаю, у нас тут лес кругом, а ў лесе ягад, сунічок, грыбкоў — ого-го колечкі нарасло-паспело, заўтрэ ж паедзеце збіраць, ага?

Вера і Жора стаялі ў нерашучасці, пазіралі, як Сцяпан туліў да сябе Анжэлку, размаўляў з ёю. Але доўга ён не стаў забаўляцца з унучкаю на вакзале, паглядзеў на Веру і прамовіў:

— То чаго стаімо, дзеці, давайце да плошчы на аўтобусі дабяромсо, а там трохі пешака дадзім — і дома.

— З дзіцём ды з чамаданам ад плошчы мы замучымся, там жа два кіламетры будзе,— запярэчыла Вера,— так што давай, Жорык, адна нага тут, а другая вунь каля тых свабодных машын, пагавары з кім з шафёраў, мо хто падкіне, тут жа недалёка.

Сцяпан не згадзіўся з Верай:

— Рабіць табе, дачко, няма чаго, за рубля ніхто і гаварыць не стане, а ніж траячку плаціць, то лепш прайсціся, колькі там тае хады?

Але яго ніхто не стаў слухаць. Жора ўжо хадзіў каля легкавых машын, якія выстраіліся ў адзін доўгі рад каля вакзала. Дамовіўся ён хуценька і вярнуўся, пазваў іх ісці за ім да белай «Волгі», маленькі з жывоцікам вадзіцель якой адчыніў багажнік і чакаў, калі падыдуць яны.

Усю дарогу, пакуль ехалі на другі канец горада, Сцяпан ад хвалявання маўчаў. Маўчалі і дзеці. Мабыць саромеліся гаварыць пры чужым чалавеку, які, аднак, давёз іх да самае хаты хутка і добра і не дорага папрасіў — два рублі...

— Ого-го, не дамок, а цэлы церамок! — калі трохі перакусілі і выйшлі на двор, сказаў Жора, то ходзячы вакол новае хаты, то заходзячы ў яе сярэдзіну, дзе пахла свежымі смолкамі нядаўна пасланая падлога.

Сцяпан быў трохі ніжэйшы за зяця, і ўвесь час пазіраў на яго знізу ўверх, стрымана ўсміхаўся.

— Усім у ёй места хопіць,— гаварыў зяцю Сцяпан,— толькі вот здароўе мяне падвяло, а так бу ўжэ ўлазіны не сёння-заўтрэ спраўлялі б.

Вера таксама хадзіла ўслед за мужам з Анжэлаю, радавалася, мабыць, таму, што прыехала дадому, і радасным голасам казала Сцяпану:

— На якую халеру, папа, вам на старасці такі дом? Хапіла б для вас з маці старой хаты.

— Ох, мая ты доча, хіба я пра сябе думаю? Мне мо і жыць засталосо без году тыжджэнь, а вам хоць будзе куды прыязджаць. У нас жэ место для одпуска лепшаго і не трэ, да нас жэ скуль летом не прыязджаюць: з самое Масквы, Кіева, Ленінграда... Па той бок ракі бу цыганскі табар распалажыўса: то там адпускнікі свае шатры расцягнулі і жывуць сабе цэлае лецейко.

Вера з Жорам яму на гэта нічога не адказалі, задумаліся, мабыць, зразумелі, што бацька праўду кажа. Сцяпан жа, прысеўшы на парог новага дома, гаварыў:

— От сабярэцеса калі ўсе разом, то ў нашой старой хаці вам і на падлозі места мало, а ў новай — кожнаму па пакою я зрабіў.

Увесь час, калі гаварыў, Сцяпан не пераставаў заглядваць Жору ў вочы. Яму зараз паказалася, што ён, Жора, рахманага характару. Яму, Сцяпану, і вельмі хацелася, каб так яно і было. Мужчына, лічыў Сцяпан, павінен быць строгім і добрым.

Жора пазірае на яго са шкадаваннем. Гэта Сцяпан бачыць і разумее. Праўда, да яго не зусім даходзіць, чаму яго ўсе шкадуюць. Хату дабудаваць ён дабудуе,

са скрыпам, але даробіць мо як-небудзь. А калі пера-летуе, то на зіму зноў ляжа ў бальніцу, падлечыцца, а то Васіліне, мабыць, у кішкі ўеліся гэтыя бясконцыя выклікі сярэдначы «хуткай дапамогі».

— Многа яшчэ тут у вас работы каля хаты? — Жора расчыніў акно ў большым пакоі новага дома, пазірае на гарод, у якім на адной градзе чырванеюць, бы буйныя маністы, ягады паспелай клубнікі, а на другой цвіце агурэчнік.

— Як табе сказаць, Жорык, работы той кот напла-каў: ашалёўваць вуглы, вокны, падшыць каробку, атынкаваць столь. Толькі работу етую рабіць трэба ўмець, кожнаму яе не паручыш.

Жора выслухаў яго і рассмяяўся:

— Я ж інжынер, па станках, праўда, інжынер, але хіба гвазда не ўб'ю туды, куды трэба?

Няёмка стала Сцяпану: дачка з мужам адпачыць прыехалі, а ён ім пра работу адразу ж. Ды і першы ж раз прыехаў Жора, неяк не з рукі яму даваць у рукі сякеру з малатком, то Толя з Колем іншая справа, ён іх не пасаромеўся б, і ён пачаў адгаворваць Жору, замахаў рукамі:

— Не, і не здумляй навет мне пра етае, і не кажы нічога, шчэ папсуеш мне сталярку, я тут з адным чалавеком дагаварыўса, мне ўсё паробіць той чалавек, праўда, наросхват ён у нас, усе завуць яго сталярку рабіць, але ж і да мяне во-во чарга дойдзе.

Апошнія Сцяпанавы словы Жора слухаў няўважліва, ён выйшаў на двор, пачаў прыглядацца да латаў і кроквін дома, да якіх трэба было падшыць афіцыят — каробку з дошак, бо разумеў гэта добра і ён, гарадскі жыхар, калі не падшыць яе, то вятры павыдуваюць увесь мох і пясок, што нацягаў для ўцяплення туды, на вышкі, леташняй восенню Сцяпан удваіх з Васілінаю.

Сцяпан устаў з парога, на якім сядзеў увесь час і гаварыў з зяцем, падышоў да таго месца, дзе стаяў

Жора, стаў з ім упобачкі, хацеў яшчэ раз сказаць, што яму, Сцяпану, не вельмі хочацца даяраць абы-каму гэтую работу. Але Жора не даў яму прамовіць ніводнага слова.

— Дошкі чышчаныя? Не, то давайце гэблік, фуганкі-рубанкі мне, і не станем чакаць вашага хвалёнага майстра-ламайстра, самі не маленькія...

Вечарам, калі вярнулася з работы Васіліна, усёй сям'ёю паселі за стол. Гатаваць асабліва не было часу, і Васіліна нарэзала дробнымі кавалачкамі леташняга пажоўклага, але смачнага сала, нашчыкала з грады зялёнай цыбулі, зрабіла з радысу салату, наварыла бульбы, сасмажыла яечню на сале... Есці хапала. Чаго, здавалася, Сцяпану, не хапала, дык гэта гарэлкі, што тая адна бутэлька партвейна на столькі чалавек? Жора ўсё ж такі мужчына, яму, мабыць, хацелася б чаго і памацней, чым той партвейн. Ды і Вера, мусіць, не адмовілася б ад беленькай. Праўда, відок ў яе не вельмі, але ж і не кволіцца яна, кроў жа ў яе маладая, вунь якога падседзела сабе хлопца, на сем гадоў маладзейшага.

Толькі Сцяпан памыліўся. Піць амаль ніхто не піў. Ён то і не дакрануўся да свае чаркі, а Васіліна адно прыгубіла. Жора ж першую шклянку ўзяў, а ад другой адмовіўся, гледзячы на яго, не стала піць і Вера. Сцяпан здзівіўся:

— Я хацеў да суседа збегаць у позыкі, у яго заўсёды ў запасе ёсць адна-дзве пляшкі, ды гляджу, усе бы тыя вераб'і: клюнулі па разу — і гатовыя, напіліся.

У сябе дома яны, Жора з Верай, іншы раз выпівалі. І праўда, пілі часцей за ўсё беленькую. Але сягоння пасля дарогі давала аб сабе знаць стома, ды і ў гасцях яны не дзе-небудзь, а ў бацькоў, сорамна ж перад імі...

Але з-за стала не вылазілі доўга. Вера ўвесь вечар сядзела каля Сцяпана, пaціху гаварыла з ім. Гаварыла, пазірала на яго і думала пра тое, што вось ён і не род-

ны ёй, а яна да яго змалку прывыкла, вырасла пры ім і, здаецца, не хацела б сабе лепшага бацькі... Яна разумее: мо гэтыя яе думкі і не зусім добрыя, мо яны, тыя думкі, крыўдзяць памяць аб яе родным бацьку, які не дачакаўся перамогі... Але хіба яна вінавата ў тым, што яна не помніць яго, што яна вырасла на руках у Сцяпана? Не, у яе сэрцы жыве, цепліцца ўспамін і памяць аб бацьку, які даў ёй жыццё. Але той, кроўны, толькі ў думках, у добрых, светлых думках, а гэты вось ён, перад ёю... Ён перад яе вачыма з таго самага дня, калі яна стала помніць сябе... Праўда, цяпер Сцяпан змяніўся, моцна змяніўся: пачарнеў, схуднеў, асунуўся. І вочы яго, заўважыла Вера, жывуць нейкім незалежным жыццём: твар пакутуе — вочы смяюцца, твар ажывае — вочы як бы пачынаюць драмаць...

Пазіраючы зараз на Сцяпана, Вера ўпершыню задумалася над тым, ці кахаў ён калі-небудзь яе маці, Васіліну. Падумала пра гэта, але адказаць сабе не змагла. Яна адно ведае: жыў Сцяпан з маці ціха, добра, спакойна. Ніякіх крутых паваротаў у іх сумесным жыцці, мабыць, і не здаралася. У Сцяпана рахманы характар, ён заўсёды рабіў і робіць так, як загадае яму маці. І Вера зараз разважае: мо яе бацька, Сцяпан, і добра робіць, мо яго з маці жыццё, ціхае, спакойнае, для іх, дзяцей, прыклад? Хай сабе ў яго з яе маці і не было моцнага кахання, хай, але затое яны выгадавалі траіх дзяцей, працуюць з дня ў дзень і ў гэтым, мабыць, бачаць сэнс усяго свайго жыцця...

Не, адчувае Вера, ёй трэба іншае жыццё, не такое, як у яе бацькоў. Яна не магла, не можа без сапраўднага кахання. Першы яе муж, Саша, ваенны лётчык, зарабляў добрыя грошы, не піў, да яе адносіўся добра, але яна ўсё адно не змагла быць з ім. Не змагла, бо адчула, што не цягне яе да яго, што ёй з ім холадна... Не, не адразу, канечне, яна змагла забыць Сашу. Доўга яна перажывала, спрачалася сама з сабой, пераконвала

сябе, што яшчэ не позна перадумаць, памірыцца з мужам, які перайшоў ад яе і жыў недзе на прыватнай кватэры. Вунь жа, даводзіла яна сама сабе, жывуць яе бацькі, Сцяпан з Васілінай, хай там і ніякага асаблівага кахання ў іх ніколі не было, але... Думала, думала і адказвала сабе: хіба яе бацькам пасля вайны да кахання было? Людзі нацярпеліся, нагараваліся за час вайны, і рады былі адно аднаму, што выжылі, дачакаліся міру... Ды, урэшце, з чаго яна ўзяла, што ў яе бацькоў, Сцяпана з яе маці, не было кахання? Мо якраз усё наадварот, мо проста ёй так думаецца, а яно ўсё інакш? Мо іхняе каханне спакойнае, непрыкметнае?

Так вось у пастаянных супярэчнасцях з сабой, са сваімі «довадамі» яна, мабыць, доўга была б, каб не Жора. Усё ў яе з ім выйшла проста і нечакана. У бібліятэку, дзе працуе яна загадчыцай чытальнай залы, ён прыйшоў раз, другі, трэці... З бібліятэкі яны выходзілі разам. Тады буяла лета, цвілі ў скверах ліпы. У Веры злёгку кружылася галава. Мо ад паху ліпавага цвету, а мо і ад таго, што ўвесь дзень прабыла, не выглядваючы на двор, у душнай бібліятэцы. Яна з Жорам заходзілі ў сквер, траплялі свабодную лавачку, садзіліся, гаварылі...

Жора часцяком стаў прыходзіць у бібліятэку пад самы канец рабочага дня. Гэта заўважылі ў яе на рабоце, і калі ён толькі адчыняў дзверы, смяяліся:

— Закругляйся, дарагая, цябе там ждуць не дажджуцца.

Яна тады злавалася:

— Прывязалася назола нейкая на маю галаву.

І рашыла: пара ёй даць ад варот паварот гэтаму інжынерыку. Той жа дзень, калі яны выйшлі з бібліятэкі, яна яму проста ў вочы сказала:

— Цябе, мабыць, жонка дома чакае, а ты ў любоў рашыў яшчэ пагуляць, так што давай перастань ха-

дзіць за мною, на мяне на рабоце і так ужо пальцамі паказваюць.

Ей спадабалася, што ён не стаў апраўдвацца, не стаў выдумляць абы-чаго. Нейкі час яны ішлі моўчкі. І затым ужо ён ціха загаварыў:

— Была ў мяне хата, была і жонка, а цяпер я ў рабочым інтэрнаце жыву з хлопцамі-халасцякамі...

Пайдзі разбярыся, чаму не склеілася ў Жоры сямейнае жыццё з першага разу? Не склеілася, і ўсё тут. Вось жа ў яе, у Веры, тое ж самае. І хіба яна, Вера, ці ён, Жора, хацелі гэтага? Ох не, па сабе ведае Вера, не проста, вельмі непроста адважыцца на развод...

У той жа дзень Жора ўпершыню зайшоў да яе на кватэру. Яна частавала яго чаем са свежым клубнічным варэннем, якое прыслаў ёй пасылкаю Сцяпан. Жора піў і хваліў той чай. А яна амаль увесь вечар расказвала яму пра свайго бацьку, пра Сцяпана, пра сваю маці...

Развітваючыся ў той вечар з ёю, Жора прыхінуўся да яе, хацеў пацалаваць, але яна адпіхнула яго ад сябе, сказала:

— Дачка ж яшчэ не спіць, пабачыць...

Ён пайшоў, а яна ўзяла на рукі Анжэлку, якая падбегла да яе, і ціхенька зашаптала: «Усё добра, дачурка мая, усё добра...»

Ох, колькі доўгіх дзён адпакутавала яна, пакуль адважылася, нарэшце, назаўсёды пусціць яго ў сваю кватэру. Перш ён прыходзіў і ўходзіў. А аднойчы яны загаварыліся-забавіліся да позняга. Жора глянуў на гадзіннік і захваляваўся: «Транспарт перастаў хадзіць, а мне цягнуцца на другі край горада...»

Так ён застаўся ў яе ўпершыню. А пасля і назусім застаўся. Праўда, у загс яны адразу не пайшлі, рашылі не спяшацца...

Нечакана-неспадзявана для Веры той парою прыехаў да яе Сцяпан. Ён меў такую прывычку: закар-

ціць яму, збярэцца на выхадныя — і да яе. Балазе, дарога не дужа далёкая.

Не паспеў ён ступіць на парог, згледзеў Анжэлку, якая тупала па кватэры, пачаў сварыцца на Веру:

— Дзіця, Верко, не забувай, а ты, бачу я, пусціла босенькую і спакойная, ты ж пабач вазьмі: у Анжэлкі смаркачыкі раўчаком цякуць, а табе і не наўме.

Ён, мабыць, хацеў добра адчытаць яе, але ўбачыў, як з меншага пакоя выйшаў Жора, і сціх. Жора з ім стрымана павітаўся, наспех апрануўся і памчаў на работу. Сцяпан стаяў у прахожай бы ўкопаны. Ён пазіраў то на Веру, то на Анжэлку і не ведаў, што яму рабіць: чужога мужчыну ён сустрэў у Верынай кватэры ўпершыню, і гэта збіла яго з толку.

— Хоць бу ў пісьме, дачко, напісала, што завяла сабе другого, а то ўжэ ўсё робіш крадком-маўчком і ад мяне, і ад маці...

Сцяпан распрануўся, пайшоў на балкон, сеў там на табурэтку, курыў і маўчаў. Калі ж Вера паспрабавала загаварыць з ім, ён абсёк яе на паўслове:

— Ты сабе жаніхоў перабіраеш, а пра дзіця, пра Анжэлку, ты падумала? Ёй трэ не твой зачуханы задрыпанец, а родны бацько.

Наступіла доўгая, напружаная паўза, пасля якой Сцяпан спытаў у Веры:

— Спісацца то хоць спісаласа са сваім етым, ці як?

Тут Вера не вытрымала, ускіпела, апошнія бацькавы словы вывелі яе з раўнавагі:

— Мне, папа, не шаснаццаць, сама знаю, што мне рабіць.

Трохі памаўчаўшы, яна прамовіла:

— Паверце, я не шукала яго, ён сам знайшоў мяне, і ён чалавек, Анжэлка цягнецца да яго.

Сцяпан не стаў спрачацца, рашыў: «Ліхо з вамі, жывіце, калі вам добрэ, вам добрэ, і мне з Васілінаю добрэ».

Веры ж ён яшчэ сказаў:

— Вурасце Анжэлка, ці пойме яна цябе, ае ж бацька жывы?

Вера сядзела ціхая і маўклівая на канапе. Калі Сцяпан прамовіў апошнія словы, яна часта-часта заміргала вейкамі, у вачах у яе заблішчалі слёзы.

— Не гаварыце мне, папа, нічога, хіба я каму паганае што зрабіла? Я і сама колькі перадумала, колькі начэй не спала, перш чым сысціся з Жорам...

Сцяпан пазіраў у тыя хвіліны на Веру, і яму ўяўлялася, як ён вяртаўся некалі з работы, а яна, Верка, босенькая, мільгаючы голымі загарэлымі каленцамі, бегла яму насустрач, яшчэ здалёку крычала: «Папка ідзе, наш папка ідзе». Ён браў тады яе на рукі і адчуваў, як ад хуткага бегу і радасці калоціцца ў яе сэрца. Яна абдымала яго за шыю, слухала яго голас, і яму самому было вельмі добра і радасна ад яе дзіцячага шчабятання...

А калі ён ішоў на работу, Верка праводзіла яго разам з маці, з Васілінай, да варот. Там, ля самых варот, яны расставаліся. Ён нагінаўся, прысядаў на каленцы, цалаваў дзяўчынку, затым хуценька ўставаў, адчыняў вароты і аддаляўся ад хаты. За спіной у сябе ён чуў, як Васіліна пыталася ў Веркі: «Ты бачыш папу, дачушка? Бачыш? Пакажы!» І праз якую хвіліну Сцяпана спыняў Васілінін голас: «Пачакай, цябе Верка даганяе». Ён павяртаўся на жончын голас і бачыў, як дзяўчынка, нават не гледзячы сабе пад ногі, бяжыць, колькі ў яе ёсць духу, да яго. Падбяжыць і скажа: «Папа, мы цябе з мамкай вельмі-вельмі любім...» Праз хвілін колькі ён ужо спускаецца з гары, а Верчыны словы не выходзяць з галавы, і так яму добра, так радасна...

Ад'язджаючы той раз ад Веры дадому, Сцяпан доўга не выпускаў з рук Анжэлку, думаў, што вось ёй, яго маленькай унучцы, усё ж цяпер лепш гадавацца, чым было яе маці: апранута яна ва ўсё чысценькае, новень-

кае, з іголачкі, есць што хоча, па якіх ладных пакоях бегае... А маці яе, Вера, насіла старыя лахманы, зімою замярзала, бо хатка, у якой жыла Васіліна, струхлявела, не трымала цяпла... То пасля, праз год ці два, калі ён прыняўся ў прымы да Васіліны, скідаў такі-сякі дамок...

У гэты вечар, калі Вера прыехала з мужам, з Жорам, да іх дадому, Сцяпан доўга пазіраў на Веру, на Жору, думаў, успамінаў, разважаў. І ўсё яму карцела дазнацца: як ім, Веры з Жорам, жывецца разам. Але ён не асмельваўся вось проста так аб гэтым папытацца ў Веры, а на лбе ж у яе не напісана, добры ці паганы «гасцінец» ён, той Жора...

Размаўляў Сцяпан увесь вечар з дзецьмі і адчуваў сябе як бы вінаватым перад імі за тое, што так моцна і непапраўна хварэе. А яму пад канец вечара стала вельмі нядобра, ён нават не дачакаўся, калі патушаць святло, і пазваў Васіліну, ціхенька папрасіў, каб яна выклікала «хуткую дапамогу»...

На другі дзень прыехалі Толя з Колем. Але Сцяпана так скруціла, што ён ужо не змог падняцца з пасцелі, не змог пасядзець з дзецьмі за сталом. Яму не хацелася ні піць, ні есці. І ён адно наказваў хлопцам, каб хутчэй дараблялі хату, то мо, гаварыў ён, яшчэ і ўлазіны разам адгуляюць-справяць.

Ён ляжаў другі дзень у пасцелі ціха, нерухома і толькі ўсё прасіў у Васіліны парашкі і мікстуру, якую яна купіла па рэцэпту ў аптэцы. Возьме ён з жончыных рук тыя парашкі з мікстурай, укіне ў рот, праглыне, зап'е малаком, і боль усярэдзіне на колькі хвілін сціхне. Ён тады добра адрознівае галасы, чуе, як шэпчуцца Васіліна з Верай, якія ўвесь дзень корпаюцца-тупаюць ля печы: тры ж мужчыны ў хаце, навараць трэба ўсяго. Сцяпан услухоўваецца, як шарго-

чуць там, ля новае хаты, хлопцы піламі, стукаюць малаткамі, сякерамі, і радуецца: дабудуюць яны цяпер хату хутка, а там і ўлазіны... Але агонь, пракляты агонь сёння не дае і дыхнуць, пячэ, не перастае ўсярэдзіне з учарашняга вечара. Ад болю мутнеецца ў яго ў вачах. Сцяпан траціць здольнасць разважаць, слаба адчувае, як да пасцелі падбягаюць, нахіляюцца над ім Вера з Васілінай, за імі, з-за плячэй, бы ў тумане, пасталі Коля з Толем, Жора. Ён яшчэ чуе, як Вера з Васілінай пачынаюць усхліпваць, і бачыць, што ў хлопцаў разгублены, трывожны выгляд...

Улазіны спраўлялі праз тыдзень. У новай хаце ў большым пакоі паставілі два сталы, накрылі іх настольніцамі, і Вера з Васілінай пачалі даставаць з печы варанае і паранае: захалод, тушаныя грыбы, бульбу, тварог, яечню, мяса... За сталамі паселі Васіліныны са Сцяпанам дзеці, паселі суседзі, якіх запрасілі. Не сядзеў толькі сярод усіх Сцяпан: не дажыў ён да гэтага дня. Хвароба, што мучыла яго апошнія паўгода, даканала-такі. Пахавалі яго тры дні назад. І выйшла так, што ўлазіны супалі з памінкамі. Васіліна, калі налілі ўсім чаркі, падняла сваю, запрасіла ўсіх выпіць і заплакала:

— Такую хату паставіў, а сам не дажыў, не пабачыў, як му радуёмса, а хата ж, паглядзіце, людзі, хоць ты возам па ёй ездзі — добрая, вялікая.

Васіліна села, але плакаць зусім не перастала, вочы яе не высыхалі. Людзі — суседзі, дзеці, памянуўшы Сцяпана, гаварылі, што рана лёг у зямлю ён, што мог бы яшчэ жыць ды жыць. Цётка Анэля сядзела ўпобачкі з Васілінай, выгляд у яе быў сумны, яна амаль не піла і не ела, а толькі казала:

— Такі чалавек добры буў, і трэ ж — згарэў, бу тая свечка, за адно лецейко.

Паглядзеўшы на Васіліну, Анэля звярнулася да яе:

— Ты, Васілінко, не думай, му цябе не забудзем,

у нас у порці казалі, што трэ Сцяпанавай жонцы на ўсё зімку вугалю прывезці, і прывязуць, а як жэ, і ты палі яго, не шкадуй.

Анэля замаўчала, убачыла, што ўсе, хто сядзеў за сталамі, слухаюць яе. І яна яшчэ сказала:

— Рабацяшчы буў Сцяпан, у порці другі раз як здумаюць пра яго, то й дзівяцца: скуль толькі ў чалавека сіла бралася, ён жэ, здаецца, за трох упраўляўся на кожнай рабоце, якую рабіў.

## Пятровічаў лес

Лясніцтва было ў самым канцы Буднікаў, блізка ад лесу, там, дзе рэчка Доўгая агінае вялізнай дугою густы, немалады ўжо сасняк і праз асушанае балота бярэ разгон да Прыпяці. Над борам, які падступаў да крутых берагоў рэчкі і быццам застыў у нерашучасці перад хуткай плынню ракі, нараджаўся новы дзень.

Як толькі шыбы засінелі ад ранішняга святла, над борам пракаціўся спачатку адзін стрэл, за ім — другі. Пятровіч быццам і не спаў. Прахапіўся, хуценька апрануўся, схапіў стрэльбу, што стаяла ў куце, і выскачыў на двор. Да ног кінуўся, прылашчыўся Палкан, вялікі, з аўчарку, сабака, неразлучны памочнік ва ўсіх яго лясных паходах. Зацугляўшы і асядлаўшы каня, Пятровіч праз драўляны масток, накіраваўся па другі бок рэчкі, да бору. Далёка наперадзе падаваў голас Палкан, выганяючы сваім брэхам са схованішча прыдрамнуўшага зайца. Але Пятровіч не даў сабаку гнаць зайца, паклікаў да сябе.

Над лугам, які з двух бакоў акружаў лес, уверсе гуў-адзываўся балотны «бугай». Каля самай рэчкі кружыў у пошуках корму даўгадзюбы кулік, паважна хадзіў бусел. Адчайна крычала спуджаная сіваваронка. Бы з кулямёта, страчылі ў лазняку сарокі.

Пятровіч пад'ехаў да густога зарасніку чароту, за якім схавалася лясное возера, злез і стрыножыў каня, а сам з Палканам падаўся бліжэй да возера, туды, дзе звычайна на золку «пасвіліся» журавы.

Пятровіч нярэдка, робячы абход, любіў заглядваць на гэта невялікае лясное азярцо з пясчанымі берагамі,

скрозь паpослае высокім чаротам, які заўсёды раскалыхваў вятрыска. У чаратах вадзіліся качкі, і над возерам яны кружыліся цэлымі чародамі.

А з самае вясны сюды прылятаді журавы. Вяртаючыся з поўдня ў палескі край, яны рабілі тут свае кароткія прыпынкі. Тут ім хапала корму і месца было зацішнае. Наталіўшы голад, птушкі выходзілі з вады на бераг, пускаліся ў танцы. Самцы, смешна прыгінаючыся доўгімі шыямі да зямлі, выпісвалі адмысловыя кругі, працяжна і прыгожа трубілі, стараючыся спадабацца сваім нявестам.

Нярэдка жураўліныя танцы перапыняліся стрэламі з-за чароту. «Хіба браканьер зразумее ўсю прыгажосць гэтае птушкі? — думаў сам сабе Пятровіч.— Яму абы мець спажыву». І злаваўся неймаверна, і праклінаў таго чалавека, у якога рука асмелілася падняцца на такое харство. Ён не раз лавіў браканьераў, адымаў стрэльбы і штрафаваў. «Ды такіх не тое што штрафаваць, судзіць трэба,— думаў ён.— Калі ў чалавека падымаецца рука на гэтую высакародную птушку, то чаго добрага застаецца чакаць ад яго?»

Не раз і не два ён з Васілём Букатым, сваім памочнікам, начаваў на гэтым возеры, ратуючы жыравоў ад злой кулі.

У Васіля смеласці было не займаць, ён не баяўся ўступіць у паядынак з браканьерамі, калі лавіў іх на возеры не па адным, а і па некалькі чалавек. І Пятровічу спомнілася леташняя вясна. Журавы пыляцелі тады як ніколі рана. Дзень у дзень ён з Васілём верхам на конях дзяжурылі ля возера, не падпускалі нікога з ружжамі і блізка да возера. Не спалі ў той час яны і ноччу.

Аднаго разу, калі добра звечарэла і берагі возера праглынула густая цемень, Васіль пачуў шолах у чароце. Так мог шалясцець чалавек. Мігам Букаты пу-

сціўся на кані на гэтае падазронае шалясценне, выстраліў раз ці два ўверх.

— Пагоня! — закрычаў нехта з браканьераў, пачуўшы блізкі тупат каня.

— Стойце! Назад! — чуўся ў начной цішыні моцны Васілёў голас.

Браканьеры той раз выйшлі сухімі з вады, але вярнуцца назад да возера не асмеліліся.

Але цяпер Васіля не было побач, і Пятровічу даводзілася ўпраўляцца і за сябе, і за Васіля.

На пясчаным жвіры засталіся сляды ад гумавых ботаў. Тут жа ляжала афарбаванае свежай крывёю жураўлінае пяро. «От паганец,— зазлаваў Пятровіч,— паспеў ужо...»

На сярэдзіне возера, прытуліўшыся да самае асакі, стаяла маторная лодка, абкладзеная для маскіроўкі чаротам. У лодцы стаяў мужчына з ружжом напагатове — чакаў, калі паднімецца над вадой чарада качак ці жураўлёў.

Пятровіч выпаліў уверх з абодвух ствалоў. Мужчына на лодцы памчаўся да берага, кінуў лодку і схаваўся ў лесе. «Такая лодка была толькі ў Сцяпана Сухавея, што жыве ў суседняй ад Буднікаў вёсцы — Бабровічах»,— падумаў, аглядаючы «трафей», Пятровіч і, асядлаўшы каня, пакіраваўся ў Бабровічы.

Ён не раз лавіў Сухавея, калі той у пару нерасту глушыў рыбу. «І адкуль той рыбе сёння ўзяцца? — думаючы пра Сухавея, разважаў Пятровіч,— калі такія як Сухавей яе глушаць, электрычнасцю губяць, сеткамі рэчку і возера перагароджваюць».

Аднаго разу Пятровіч спаймаў Сухавея за паляваннем на ласёў. Ласі ў Буднікаўскім лясніцтве тады толькі-толькі завяліся, іх было ўсяго некалькі сем'яў. І вось гэты выжлятнік, які нідзе не працаваў, злаўчыўся гнаць капейку з саду і агарода, ды яшчэ з рыбы і дзічы, не пераставаў паляваць ні зімой, ні ўлетку.

Тады, праўда, Сухавей пайшоў з лесу ні з чым, але параніў цельную ласіху, і каб не падаспеў Пятровіч, ён яе, канечне, даканаў бы.

Калі Пятровіч прапанаваў аддаць ружжо, Сухавей стаў хітрыць:

— Навошта нам сварыцца, Сілан Пятровіч? Хіба тваё здароўе пагоршала б, калі б я гэтую кароўку і застрэліў? Давай мірам усё паладзім,— запрапанаваў Сухавей і палез у кішэню, дастаў грошы.

— Ах ты, паганец, купіць мяне ўздумаў! — аж закіпела ў грудзях у Пятровіча.

Сухавей, пабачыўшы, што хітрыкі і грошы яму не дапамогуць, павёў сябе інакш.

— Я хацеў з табой, як з леснікам, па-людску, па-харошаму, а ты так? Ну, і чорт з табой, сілай ты мяне не возьмеш, ці падужаемся, га?

Сухавей нахабна зарагатаў, разумеючы, што сведкаў тут няма. Разумеў гэта і Пятровіч і лучыў момант, калі браканьер трохі паслабіцца, страціць пільнасць. Чакаць давялося нядоўга. Забрахаў Сухавеяў сабака, выганяючы на паляну параненую ласіху. Сухавей забыўся і пра яго, пра ляснічага, вочкі яго загарэліся нядобрым агнём, мабыць, у той момант ён вельмі перажываў за ўпушчаную пажыву, сваё ружжо ён апусціў на зямлю. У адно імгненне Пятровіч выбіў прыкладам свае двухстволкі з-пад нагі Сухавея яго стрэльбу, скамандаваў:

— Ні з месца, а то ногі паперабіваю!

— Ты што, Пятровіч, сур'ёзна?

— Хопіць у хованкі гуляць, марш у сельсавет.

У сельсавеце на Сухавея склалі акт, але справу ў народны суд не перадалі: канфіскавалі стрэльбу і аштрафавалі. «На гэты раз табе не паздаровіцца,— думаў Пятровіч, пад'язджаючы да Бабровіч.— За жураўлёў ты мне дорага заплоціш, проста ў міліцыю на

гэты раз адпраўлю, а адтуль табе адна дарожка — у народны суд».

Сухавей краўся поплавам да свайго дома, што стаяў на ўскрайку Бабровіч ля самага лесу. Ён не падазраваў, што за рогам хлява сталі ў засадзе Пятровіч і ўчастковы міліцыянер са сваім «УАЗікам». Паляўнічая сумка цяжка звісала за спіной у Сухавея, лямкі, відаць, балюча рэзалі плечы, і ён раз-пораз падкідваў уверх свой груз, папраўляў лямкі, з рукі ў руку перакладваў ружжо. Калі Сухавей параўняўся з хлявом, першым паказаўся ўчастковы, за ім — Пятровіч.

— Не туды ідзеш, давай сюды,— сказаў участковы.

Ад неспадзеўкі Сухавей аж пабялеў, якую хвіліну стаяў нерухомы, здранцвелы, але, калі ўбачыў міліцэйскую машыну, усё зразумеў.

Гразкай ад нядаўняга дажджу дарогай Пятровіч вяртаўся назад у лясніцтва. Перад самай вёскай, на беразе Доўгай, ён прыпыніўся, стрыножыў і пусціў пасвіцца каня, сам падышоў да берага рэчкі. Рэчка была тут немнагаводнай, але далей ад сяла, там, дзе ўпадала ў Прыпяць, яна набірала сілу, шырэла і нярэдка вясной выходзіла з берагоў, затапляла наваколле на дзесяткі кіламетраў. І ён падумаў цяпер, што пятляе гэтая рэчка, як пятляла і яго жыццё — пайдзі зразумей яго.

У Пятровіча была сям'я, рос сын Максімка. А пасля ў жыцці пайшло ўсё не так, як хацеў бы ён, Сілан Пятровіч. У яго далейшым жыцці многае перамянілася: памерла жонка, з якой пражыў больш трыццаці гадоў. Пры яе жыцці кожны з іх баяўся, каб не перажыць адно аднаго, але жонка памерла, а ён застаўся жыць, прывык паступова да адзіноцтва, сын Максімка даўно вырас, жыве недзе ў Гомелі, дзе працуе рэжысёрам на тэлебачанні, некалькі яго кароценькіх кінанарысаў Сілан Пятровіч нядаўна глядзеў па тэлевізары, і цікава яму было тое, што ў адным з тых кінанарысаў расказвалася аб зберажэнні палескіх лясоў.

Сюды, у Буднікі, ён прыехаў даўно і адразу ж стаў працаваць лесніком. Жаніцца другі раз не стаў. Мо таму, што ўвесь час прападаў на рабоце, у сваім лесе, які стаў для яго ўсім жыццём, а мо не сустрэў сваю жанчыну ці яшчэ чаму. Як не ад самае вайны ён за старшага лесніка ў Буднікаўскім лясніцтве. Першыя пасляваенныя гады для ўсіх былі цяжкімі. І для яго лясніцтва таксама. Работнікі — адны жанчыны. Ды ён і сам які быў працаўнік? Рана ў левую нагу, гэты след апошняй вайны, у час якой ён партызаніў, не паспела загаіцца. Бывала, заходзіў калі далёка ў лес, каб прасачыць, як вядзецца санітарны расцяроб маладняку. Туды заходзіў быццам хутка і лёгка, а назад так скручвала параненую нагу, што ад болю кружылася галава і з вачэй самі сабой выступалі слёзы. Садзіўся пад бліжэйшую сасну і мусіў перачакаць. Падыходзілі жанкі: «Можа, памагчы як, Пятровіч?» Ён стараўся ім усміхнуцца, казаў, каб яны за яго не хваляваліся, маніў, што ў яго нічога не баліць, вось ён трохі пасядзіць, аддыхне, і ўсё будзе добра. Жанчыны, мабыць, усё адно не верылі яму, уздыхалі, разыходзіліся. У тыя хвіліны ён бачыў у іхніх вачах смутак і разумеў, што гэта смутак па ім.

А потым прыехаў у лясніцтва Васіль Букаты, і яму стала куды лягчэй. Васіль быў яшчэ малады, толькі скончыў тэхнікум. А як любіў ён, Васіль, сваю работу! Цэлымі днямі не вылазіў з лесу. Здаецца, не было таго гаю ці дубровы, дзе б не ступала яго нага. Ён, Пятровіч, часам і пасмейваўся над ім, над Васілём: «Ты, браце, здзічэеш хутка, вечна ў лесе, ад людзей адвыкнеш». Васіль ніколі не крыўдаваў, казаў: «У нас з табой, Пятровіч, прафесія такая — хадзіць і слухаць лес...»

Усяго хапіла ў іхняй рабоце: радаснага і сумнага. І чаго было болей? Мабыць, усё-такі радаснага. Добрае іх не мінала, яны жылі, працавалі і адчувалі сябе

шчаслівымі. Хіба яны не радаваліся, калі лясніцтва пераехала з часовай прыбудовы ў раскошны дом? Наваселле — гэта як свята...

Са сваім памочнікам ён выбіраў самыя цяжкія ўчасткі работы, браўся за такія справы, да якіх суседнія лясніцтвы і падступіцца баяліся. Падзякі, прэміі і ўзнагароды, ён, Пятровіч, прымаў так, быццам яны яго не датычыліся. І ён вельмі здзівіўся, калі яго ўзнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, а Васіля — не. Але ён падумаў, што ў хуткім часе ўспомняць і пра яго, пра Васіля.

Ён стаяў на беразе Доўгай, а мінулае, даўняе і нядаўняе, усё нібы праплывала перад яго вачыма. Высакарослы, плячысты, з плашч-накідкай, перакінутай цераз правае плячо, у паношаных кірзавых ботах, ён стаяў і ўглядаўся ў шырокі прастор палёў, які адкрываўся за рэчкай. Сонца тым часам узнялося ўжо над лесам, і ўвесь жывы свет, што гуў і звінеў, паўстаў перад ім у сваёй ранішняй прыгажосці.

Вёска прачнулася ўжо і жыла сваім звычайным жыццём. Людзі выганялі на пашу кароў, над камінамі ўзвіліся доўгія шлеі дыму, ля калгаснага гаража загулі трактары — механізатары сабраліся ў поле.

Пятровіч успомніў, што зусім неспадзеўкі яго выклікалі на сёння ў лясгас, а дарога ў райцэнтр, дзе размяшчалася лясгасаўская кантора, не такая ўжо і блізкая. І ён заспяшаўся.

У кабінеце дырэктара лясгаса якраз ішла нарада, і яму давялося трохі пасядзець у прыёмнай. Да яго адразу прычапіўся з роспытамі пра тамашнія лясгасаўскія парадкі зусім малады невысокі хлопец у леснікоўскай форме. Пятровіч бачыў яго тут упершыню і падумаў, што няйначай гэта рэвізор з вобласці. «Рэвізор» прыйшоўся яму па душы, ён угадваў у ім спагадлівага

і дзелавога чалавека, які, нягледзячы на свае маладыя гады, ведае цану многім рэчам на гэтым свеце. Толькі вось бакенбарды і доўгія валасы, што звісалі ў хлапца на шыю, выклікалі ў душы Пятровіча незадавальненне.

Як толькі павыходзілі ад дырэктара, Пятровіч нырнуў у дзверы дырэктаравага кабінета першым.

Дырэктар якраз быў заняты: гаварыў з некім па тэлефоне і знакам папрасіў яго садзіцца і пачакаць. Пасля вайны яны разам сталі працаваць у лясгасе, трыццаць гадоў, лічы, плячо ў плячо ідуць. Рыгор Сямёнавіч Кляновіч, дырэктар, маладжавы брунет з густой капой валасоў на галаве, там-сям кранутых першымі слядамі сівізны, тады не раўня яму, інваліду, быў. Малады, здаровы. Бывала, калі прыедзе да іх у Буднікі, увесь дзень па лесе гарцуе. Пятровіч ледзь паспяваў за ім.

— А-а, прывітанне, Пятровіч,— нарэшце кончыў гаварыць дырэктар, падаў руку.— Ведаю, браце, пра бяду з тваім памочнікам, шкада Васіля, добры быў работнік, але нічога не парадзіш.

— Як ён цяпер? — пасля кароткага маўчання папытаўся дырэктар.

— Усё па-ранейшаму. Ляжыць дома, з пасцелі не ўстае.

Зноў памаўчалі. Пасля стаў гаварыць Рыгор Сямёнавіч:

— Ведаеш, Пятровіч, у тваім Буднікаўскім лясніцтве ствараецца запаведная зона. Край наш непазнавальна змяніцца.— Яны падышлі да карты лясгаса.— Вось тут,— паказваў дырэктар на карце,— меліяратары хутка распачнуць работы, побач пройдуць абвадняльныя каналы, зменіцца пойма Прыпяці.

Пятровіч услухоўваўся ў дырэктараў голас і радаваўся, што яго лес і ўсё навокал лесу адыходзіць пад запаведную зону. А больш за ўсё ён радаваўся за ляс-

ное возера, паляванне на якім забароняць назаўсёды. Ён любіў гэты цудоўны куток, у якім і ля якога сяліліся звяры, рыбы, птушкі. «У лясніцтве стане больш егераў,— меркаваў Пятровіч,— і яны заўсёды будуць пільнаваць спакой возера. Хоць і глухі гэты куток у лесе, затое няма і не будзе ў ім слядоў панурай лясной цішыні, запусцення. Вакол возера і ў возеры свой, асобны свет, дзе ўсё дыхае радасцю».

Тут, у кабінеце дырэктара, Пятровіч жыва ўяўляў, як людзі будуць любавацца хараством яго лесу, у якім бязбоязна паселяцца птушкі і сваім шматгалоссем абудзяць усё навокал.

— Справа, як бачыш, новая, незнаёмая і складаная,— працягваў гаварыць дырэктар, калі яны адышлі ад карты і зноў селі,— яна патрабуе, акрамя ўсяго, ведаў, а якія ў нас з табой веды, мы ж — практыкі. Так што прыйдзецца табе ехаць у Мінск, на курсы, там падвучышся трохі.

Ад хвалявання і нечаканасці такога павароту справы Пятровіч устаў, церабіў у руках шапку і толкам не ведаў, што казаць і рабіць. У яго галаве прамільгнула думка, што яму хочуць уцерці нос, перавесці куды-небудзь у іншае месца.

— Лес для мяне — усё, я ведаю, як расло кожнае дрэўца ў Буднікаўскім лесе, ведаю, дзе якая птушка пяро згубіла ў гэтым лесе, я бярог лес і тое, што ў лесе, ад парубшчыкаў, браканьераў, колькі ад таго ворагаў нажыў, і як я цяпер без лесу.

Яго трывогу і сумненні развеяў дырэктар:

— Дарма хвалюешся, ніхто цябе не збіраецца звальняць ці пераводзіць, павер мне, твайму колішняму і заўсёднаму другу, вернешся з вучобы і зноў возьмешся за сваю работу.

У кабінет зайшоў той, што сядзеў з Пятровічам у прыёмнай і якога ён палічыў за рэвізора.

— Пазнаёмцеся,— сказаў дырэктар.— Твой, Пят-

ровіч, новы памочнік, Мікалай Каруціч. Часова будзе цябе замяняць.

Ад дырэктара ён і Каруціч выйшлі разам, дамовіліся сустрэцца тут жа праз гадзіну і ехаць у Буднікі. Пятровіч пайшоў у аддзел кадраў, а Каруціч — у сталоўку паабедаць.

Начальнік аддзела кадраў лясгаса, ён жа сакратар парткома, Раман Птахаў, чакаў Пятровіча, каб аформіць патрэбныя для накіравання на вучобу паперы.

Сухі і чорны, як грак, ён сядзеў за сталом, перакладваў з месца на месца паперы, тасаваў іх, як ігрок тасуе карты. Згледзеўшы Пазнякоўскага, які паказаўся ў дзвярах, ён ажывіўся, твар яго асвятліла прыемная ўсмешка.

— Здароў, здароў быў. Табе ўжо, мусіць, знаццё, што ў Мінск цябе выпраўляем? Не здзіўляйся, каму ж, як не нам, старым венікам, вучыць маладых? А каб вучыць, трэба і самім вучыцца.

Пятровіч каторы час сядзеў моўчкі, ківаў галавою ў знак згоды з тым, што казаў Птахаў. І калі Раман замоўк, загаварыў ён:

— Я наконт Васіля Букатага хачу пагаварыць. Чалавек калекам стаў...

— Хіба мы забылі яго? Пенсію налічылі? Налічылі! Грашовую дапамогу выдалі? Выдалі! У рэшце рэшт пуцёўку ў лепшы санаторый выдзелілі для лясгаса, і мы хутка адправім Васіля ў гэты санаторый — так вырашыў мясцком. Што ж, скажы ты мне, яшчэ патрабуецца ад нас?

Пятровіч сядзеў, вадзіў рукою па краі стала.

— А калі залічыць у штат лясніцтва Васілёву жонку, Вольгу Букатую?

— На каго ж, дазволь даведацца, Вольга пакіне хворага Васіля, дзяцей?

— Як на каго? Васілёвы бацькі жывуць жа з імі — яны і памогуць.

— Тады іншая гаворка, але трэба падумаць, абмеркаваць на мясцкоме,— ва ўпор паглядзеў на Пятровіча Раман.— Сваю падтрымку я табе абяцаю.

Ад Рамана Птахава ён выйшаў з добрым настроем. На сходках лясгасаўскай канторы яго ўжо чакаў Каруціч, і яны абое пакіраваліся разам у канец райцэнтра, каб прычакаць спадарожную машыну.

Па дарозе Пятровіч зайшоў на рынак купіць што з садавіны для Васіля. Знаёмы райцэнтраўскі садавод Нічыпар Восіпавіч, пажылы мужчына з маленькімі вачыма, скупы, але нязлы чалавек, якраз прадаваў папяроўкі.

Нічыпар Восіпавіч стаў набіваць цану.

— Сярэдзіна ж лета, якія цяпер яблыкі?

— Ды я не сабе, чалавек у бяду трапіў, дактары сказалі, каб яблыкаў пабольш еў.

— То так бы і гаварыў адразу. Калі хвораму, то гэта іншая справа,— памякчэў гаспадар і пачаў даставаць на вагу цупкія яблыкі.

— Колькі з мяне? — спытаў Пятровіч.

— Ну, як для хворага, то па паўтара рубля за кіло.

— Ох, і смоўж ты, Восіпавіч.

— Дык жа яблычак у яблычак, за такія цяпер па два рублі — не меней даюць.

Пятровіч адлічыў грошы, асцярожна перасыпаў яблыкі з вагі, каб не вельмі пабіліся адно аб адно, у сетку і пайшоў.

Правёўшы Каруціча на начлег да знаёмых і дамовіўшыся з ім на перадачу ўсіх дакументаў на заўтра, Пятровіч, перш чым заявіцца да сябе, завярнуў да Букатых.

Вокны ў Букатых свяціліся, і ў гэтым святле Пятровіч пазнаў Вольку, Васілёву жонку. Яна завіхалася ля печы, у якой зырка палаў агонь, устаўляла і выстаў-

ляла чыгункі, гатавала вячэру. Завостраныя плечы Волькі за апошні час на вачах у Пятровіча завастрыліся яшчэ больш, жанчына прыкметна асунулася, прыціснутая вялікім горам.

Ён не стаў адразу заходзіць у хату, а сеў на лавачку, якая стаяла ля плота і ножкі якой былі ўкапаны ў зямлю. Гэтую лавачку, помніцца, Васіль змайстраваў яшчэ летась, здаецца, на самага спаса. Амаль кожны вечар улетку на лавачцы збіраліся суседзі Букатых, прыходзіў сюды часцяком і Пятровіч, і яны гаманілі пра ўсе вясковыя падзеі, свае турботы і радасці.

А пасля захварэў Васіль. Гэта здарылася якраз пасля таго выпадку.

З зямлі толькі-толькі пасыходзілі снягі, на палях ярка зазелянела азімае жыта, у лесе падсохла, але тамсям яшчэ стаялі глыбокія лужыны, хаця сонца і шчыравала цэлымі днямі.

У той дзень ён з Васілём наўмысна яшчэ на золку адправіўся ў Глінішча праверыць сасновы маладняк, пасаджаны гадоў дзевяць назад. Трэба было на месцы паглядзець, мо дзе час быў правесці падсадку ці прарэджванне.

Яны ўжо амаль заканчвалі абход участка, як з паўднёвага боку вецер прынёс горкі пах дыму. Памыліцца яны не маглі — пажар. Мабыць, нехта з пастухоў падпаліў стары лоўж, вакол якога засталося шмат леташняй падсохлай травы. Бы той порах успыхнула трава, ад яе агонь перакінуўся на галлё, паваленыя бураломам дрэвы, на іглiцу, што ападала на зямлю гадамі.

Агонь набліжаўся да маладняку.

— Трэба з усіх ног бегчы ў сяло, паднімаць людзей,— сказаў яму Васіль, калі яны зразумелі, што можа нарабіць пажар.

— Паспрабуем самі зрабіць што-небудзь,— адказаў ён Васілю і хуценька стаў ссякаць бярэзіну, якою збіраўся тушыць агонь.

Спыніць агонь, асабліва ў вецер,— няпроста. Толькі ўдавалася патушыць з аднаго боку, як ён мігам успыхваў і разрастаўся ў другім. І яны кідаліся агню напярэймы, бо варта было спыніцца, як вогненная паласа шырэла ўвачавідкі, велізарныя чырвоныя языкі ўзнімаліся ўгору, злізваючы і знішчаючы ўсё на сваім шляху, пакідаючы чорны мёртвы след.

Сілы ў іх заставалася менш і менш, бо ўвіхаліся яны ля агню ўжо некалькі гадзін. Яны не шкадавалі сябе, стараліся не падпусціць агонь да маладняку. Пажар сціхаў паволі, дзе-нідзе выкідваючы кароткія каснікі полымя.

Пятровіч сеў на зямлю, бо не ставала сілы і паварушыцца, а Васіль адзін упраўляўся з невялікімі ўспышкамі амаль затушанага пажару.

Мабыць, ён прыдрамнуў, бо тое, што адбылося ў наступную хвіліну, уяўляецца як нейкі жудасны сон.

Хутчэй ён адчуў, а не ўбачыў, як высокая сасна, падсечаная за некалькі гадоў у самым нізе людзьмі, няйнакш як на падпал на лучыну, падгарэла ў час пажару, пахіснулася і пачала хіліцца — падаць у той бок, дзе завіхаўся Васіль...

Васіль паспеў трохі адскочыць убок. І ўсё ж дрэва зачапіла яго сваімі доўгімі галінамі, адкінула на некалькі метраў.

Калі Пятровіч падбег да Васіля, той ляжаў непрытомны. Тады ён знайшоў яму з халоднай мутнай вадою, стаў чэрпаць з яе шапкай, насіць і ліць на Васілёў твар, галаву. Васіль раскрыў вочы, паспрабаваў падняцца, але не змог і зноў страціў прытомнасць.

У гарадскую бальніцу, куды палажылі Васіля, надоечы прыехаў з вобласці прафесар, нейрахірург. Васіль ляжаў у палаце адзін, і прафесар аглядваў яго там даволі доўга. А калі выйшаў, то Пятровіч папытаўся, ці доўга будзе вылежвацца Васіль.

Адказ не парадаваў:

— Роўна столькі, колькі яму адведзена жыць. Пералом пазваночнага слупа з паражэннем спіннога мозгу, а медыцына, на вялікі жаль, у такіх выпадках бяссільная...

Прафесар гаварыў яшчэ нешта, круціў галавою, разважаў, але ён не слухаў яго. У Васіля трое дзяцей, самаму меншаму яшчэ і году няма, жонка нідзе не працавала, жылі на Васілёў заробак.

Калі прафесар сабраўся ісці, Пятровіч папытаў у яго, можа, Васілю што трэба з дамашніх харчоў. Прафесар параіў:

— Больш трэба яблыкаў, вінаграду.

Развітаўшыся з прафесарам, Пятровіч зайшоў у палату. Васіль ляжаў ціха, глядзеў у столь. Калі ён прычыніў за сабою дзверы, Васіль толькі павёў вачыма ў яго бок.

— Баліць?

— Спіна паварушыцца не дае.

— А ты ляжы, ляжы ціха, мо пройдзе?

— Не-е, Пятровіч, мабыць, не пройдзе, ног не чую, як не мае, бачыць бачу, што яны ёсць у мяне, а не чую і ніводным пальчыкам паварушыць не магу.

— Ты кінь так думаць, Васіль, ачуняеш, папомні маё слова — ачуняеш,— маніў ён святою манаю.— Мы з табою яшчэ такія справы будзем варочаць, столькі вырасцім лесу!

Доўга маўчалі.

— За сям'ю не хвалюйся — не пакрыўдзім, паможам,— першым падаў голас Пятровіч.

— Федзька ж яшчэ зусім маленькі, як ён будзе без мяне?

Голас у Васіля зрываўся, ён ледзь не заплакаў.

— Ты прывык, Васіль, да цяжкасцей, прывыкні і да свайго гора. Калі яно ўжо прыйшло, з ім трэба па-новаму навучыцца жыць, для сям'і, для Федзькі трэба жыць.

Праходзіў адзін месяц, наступаў і мінаў другі. Васіля з бальніцы выпісалі. Дактары сказалі, што дома яму будзе спакайней і лепш.

Аднак з папраўкай у Васіля нічога не выходзіла, і ад таго на душы ў Сілана Пятровіча было цяжка і балюча. Калі ён заходзіў да Букатых і глядзеў на паралізаванага Васіля, яму тады думалася, што няхай бы такое лепш здарылася з ім. Усё-такі ён трохі пажыў і пабачыў свету, і да таго ж ён бабыль, па ім так не заплачуць, як па Васілю.

Ён сядзеў адзінока на лавачцы і сіліўся знайсці адказ на пытанне, якое хвалявала яго апошнім часам і на якое ён ніяк не патрапляў адказу: «Хто ж вінаваты ў тым, што так здарылася з Васілём? Можа, ён, старшы ляснік? Можа, не варта было тады ўступаць удвух у паядынак з агнём?»

Не змог ён адказаць на гэтае пытанне і сягоння, устаў з лавачкі, узяў у рукі сетку з яблыкамі, адчыніў веснічкі, прайшоў міма асветленых акон, пастукаў у дзверы. Увайшоў, павесіў на цвік, убіты ў сцяну ля тумбачкі з прадуктамі, сетку з яблыкамі.

— Гэта для Васіля,— сказаў ён.

Волька падзякавала і ўголас заплакала. Самы меншы Васілёў сын Федзька ляжаў у калысцы, перабіраў нагамі, гуў, як у дуду, смешна і забаўна. Пачуўшы плач, ён закрычаў, захліпнуўся, і Волька прыкрыкнула на старэйшую дачку, каб тая супакоіла.

Пятровіч даў усім дзецям гасцінца — па шакаладцы — і падышоў да Васіля, які прывычна паўляжаў у пасцелі, абкладзены падушкамі.

— Сёння ў раён ездзіў, дамовіўся, каб Вольку на работу ў лясніцтва ўзялі.

Волька пачула, што пра яе гавораць, сказала:

— Сама ўжо хацела да вас прыйсці пагаварыць пра работу, а ісці працаваць мне трэба, самі разумееце.

Васіль не згадзіўся з жончынымі довадамі:

— Глядзела б вунека лепш дзяцей, а пакуль рукі слухаюцца мяне і тое-сёе магу імі зрабіць, вазьму сеткі вязаць — сотню рублёў у месяц зараблю.

— Не, Васіль,— перабіў яго Пятровіч,— табе яшчэ лячыцца трэба, папраўляцца і набіраць сіл, а папраўішся — тады другая гаворка пойдзе ў нас з табой: сядзець без справы не дадзім. А пра дзяцей чаго табе хвалявацца? Бацькі дагледзяць.

Волька падала ім вячэраць: сопкую бульбу, ад якой падымалася пад самую столь густая пара, міску салёных агуркоў, яечню, смажаную на сале, пачаты бохан хлеба.

Васіль не змоўчаў:

— То, можа, для госця чарку знойдзеш?

— Табе толькі чарка ў галаве,— сярдзітым голасам сказала Волька.

— Так ужо? Здаецца гэта табе,— адказаў ёй Васіль,— часам, калі боль даймае, то вып'ю трохі.

— Патрошкі можна,— падтрымаў яго Пятровіч.— Забыўся сказаць — адпраўляюць мяне, пня старога, на вучобу. Пад запаведную зону адыходзіць наша лясніцтва, усё прыйдзецца ставіць, як вярнуся, па-новаму. Без той навуковай арганізацыі працы, пра якую ты мне, Васіль, задурыў галаву, кажуць, цяпер ні кроку.

— А на каго ж лясніцтва пакідаеш? — пацікавіўся Васіль.

— Замена прыехала са мною. Хлапец, праўда, малады, але ўжо скончыў інстытут, гады са два працаваў недзе ў Расіі — так што і вопыт ёсць.

— Што вучоны, то добра,— заўважыў Васіль,— але ты ж разумееш, Пятровіч: у нашай рабоце галоўнае, каб душа ляжала да гэтае самае работы, інакш нельга.

— Мне здаецца, што гэты хлопец сапраўдны ляснік. Заўтра я цябе пазнаёмлю з ім, Васіль, і ты тут падказвай яму, калі будзе такая патрэба...

Затрымлівацца ў Букатых Пятровіч не стаў, бо было

зусім позна. Развітаўся з Васілём за руку, сказаў «дабранач» Васілёвым бацькам і Вольцы і выйшаў.

Назаўтра Пятровіч падняўся зараней. Апрануўся, узяў ручнік і выйшаў на двор, каб спаласнуцца вадою з рукамыйніка, што быў прыбіты знадворку да сцяны. Ля плота, на дзеравіне, сядзеў Каруціч.

— Што табе, як той начніцы, не спіцца?

— Дак ужо ж дзень...

Спаласнуўшыся, Пятровіч пазваў Каруціча ў хату выпіць малака. Каруціч пераступіў цераз парог і абвёў позіркам пакой: на сценах віселі хвасты цецерукоў, чучалы коршакаў, падлога была нефарбаванаю, з бліскучымі сукамі-цыбулінамі, ля самага парога ложак, смачна пахла markdownрознымі палявымі травамі і багуном.

Малако паказалася Каруцічу смачным і тлустым, не тое што ў горадзе, дзе вып'еш — і шклянку мыць не трэба. Ён са смакам піў малако, глядзеў у акно, казаў:

— На добрым месцы стаіць лясніцтва, глянь у акно — і перад вачыма лес, рэчка, поле.

— А хочаш,— раптам запрапанаваў яму Пятровіч,— я пакажу наш Буднікаўскі абход? Трэба ж табе агледзець нашы ўладанні.

Яны ішлі ўніз берагам Доўгай. Па абодва бакі рэчкі лес, месцамі адна сасна, а месцамі дуб, сасна, клён, бяроза, граб. На ўскрайку лесу, заўважыў Каруціч, сталі сухія елкі, якімі быццам абгарадзілі гэты бор і гай.

Але вось лес абарваўся, і паказалася возера. Вада ў возеры здалёку здавалася празрыстай і блакітнай, а зблізку — рыжай.

Спачатку яны ішлі моўчкі, а потым Пятровіч стаў расказваць пра леснікоўскую работу.

Расказваў ён пра тое, як гадоў трыццаць назад упершыню прыйшоў у гэты лес і з таго часу як бы і не выходзіў ■ лесу. Колькі тысяч кіламетраў схадзіў ён гэ-

тым лесам — невядома. І быццам ведае гаі і бары як пяць сваіх пальцаў, а вось, аказваецца, і не ведае — такі вялікі гэты лес і столькі ў ім далёкіх куткоў, няходжаных сцежак. «Апусціцца за табою галіна,— сказаў Пятровіч Каруцічу,— і згублена сцежка, згублены след».

Расказваючы маладому лесніку пра работу лесавода-лесніка, Пятровіч у каторы раз як бы праходзіў зноў і зноў па сваім лесе, любаваўся высокімі шапкамі векавых дубоў, маладымі соснамі, яшчэ тонкімі, але стройнымі, якія ён сам саджаў, даглядаў, бярог. Гэты лес як бы ажываў перад ім, і ён размаўляў ■ ім, як з жывым чалавекам, з якім можна пагаварыць аб усім: і пра сваю радасць, і пра свой боль.

Каруціча радавала тая страсць, з якой апавядаў яму стары ляснік пра самае, здавалася б, прывычнае і будзённае. Бо, як паказалася яму, лес быў вельмі звычайны, і нічым асаблівым не выдзялялася возера, пра якое Пятровічу хацелася расказваць бясконца.

Аднак усхваляваны голас Пятровіча даў зразумець яму ўсёй душою, што сёння ён стаў сведкам нечага вялікага, таго, чым жыў і жыве ляснік Буднікаўскага лясніцтва Сілан Пятровіч Пазнякоўскі. Тое, пра што ён пачуў ад Пятровіча і што ўбачыў сваімі вачыма, было рэальна. Але гэта яшчэ была і жывая казка, бо хіба не казка такі лес, птушкі, азёры? І ад нядаўняй стрыманасці, недаверу Каруціча не засталося і следу. Ён увесь засвяціўся, ён як бы хадзіў з Пятровічам лясамі яго маладосці, і доўга-доўга яны не маглі выбрацца з іх.

Яны перайшлі на другі бок возера, і лес як бы наблізіўся да іх. Неба над лесам завалаклі цяжкія, дажджавыя хмары.

— Далей не пойдзем,— сказаў Пятровіч.— Збіраецца на дождж.

І яны заспяшаліся назад, у вёску, у лясніцтва.

## Хлеб

Максім звярнуў з бальшака на гравейку і адразу захваляваўся: пачыналіся родныя мясціны, у якіх ён гадаваўся.

Паехаў ён па гравейцы знарок цішэй, каб можна было прыгледзецца да лесу, да кожнага знаёмага дрэва ў лесе, да палянак, невялікіх палёў. Рухавік «Масквіча» працаваў роўна і спакойна, і Максім, апусціўшы шкло дзвярэй, не-не ды і зіркаў на парослае маладым алешнікам балотца, пасярэдзіне якога стаяў на адной назе бусел. Машыну злёгку падкідвала на выбоінах, якія Максім, здавалася, не прыкмячаў, бо яго захапілі назіранні.

На заднім сядзенні былі яго дзеці: другакласнік Ігар і шасцігадовая Таня. Яны радаваліся, што едуць у вёску да бабулі, наперабой пыталіся ў бацькі, ці ёсць ля бабулінай вёскі рэчка і ці далёка яна, тая рэчка, ці будуць яны хадзіць у лес па ягады. Максім ледзь паспяваў адказваць дзецям.

Нядаўна прайшоў дождж, і тут, на лясной гравейцы, было свежа, чыста. Максім на ўсе грудзі ўдыхаў кісларод, ціха, каб не пачулі дзеці, мармытаў сам сабе пад нос: «Здорава, чорт вазьмі! Хораша як!..»

Пасля ён узяўся расказваць дзецям пра дарогу, па якой яны зараз ехалі. Ён хацеў нагадаць ім пра тое, як ён некалі у палатняных штоніках на шлейках, пафарбаваных яго маці і іх бабуляй у чорны колер, у пастоліках, сплеценых дзядзькам Сцяпанам, мераў гэтую дарогу, што вяла з дому да магазіна, у якім прадавалі хлеб. Восем кіламетраў у адзін бок і восем — у другі.

Шаснаццаць кіламетраў у адзін дзень. Зімой і ўвосень, вясной і ўлетку...

Ён даўно збіраўся расказаць пра тое дзецям. Без вугэтага, лічыў ён, дзеці не зразумеюць, як ён рос, вучыўся, ішоў у жыццё. І расказаць пра тое дзецям ён збіраўся менавіта тут, у родных мясцінах. Але раней усё не выпадала прыехаць разам з імі.

Ён кожнага лета адведвае маці. Праўда, раней, калі не меў свае машыны, складаней было прыязджаць: улетку ўсе зрываюцца з наседжаных гарадскіх кватэр і імчаць да сваіх родзічаў у вёску. Каму трэба ўнукаў бабулькам адвезці, каму ягад ці грыбоў пазбіраць уволю, а хто едзе толькі з адным намерам — адпачыць. Паспрабуй у такі час ухапіць білет! За колькі дзён наперад Максім толькі і мог узяць той білет, ды і то гадзінамі млеў на аўтавакзале ля касы.

Летась жа ён купіў васількавага колеру «Масквіча». Доўга, не адзін год, чакаў, нарэшце дачакаўся. Праўда, не зусім у добры час тая чарга прыйшла: не хапіла дзве з палоўваю тысячы. Жонка, Мальвіна, пачала тады ўгаворваць яго, каб на «Запарожца» перапісаўся: усё-такі меншыя расходы. Лёгка ёй сказаць! А пасля зноў хадзі ў магазін, правярай чаргу ды глядзі-зайздросць, як другія раз'язджаюць на сваіх легкавіках.

Ніхто з яго знаёмых такую суму пазычыць Максіму не змог: у каго з сямейных такія грошы знойдзеш?

Мусіў паехаць да маці, ведаў: у яе ёсць зберажэнні. Толькі не быў упэўнены, што маці дасць яму: апроч яго, у яе ж яшчэ і дачка, яго сястра Соня. Соня разышлася з мужам, і ў яе расце сын Віктар. Працуе яна ў Рэчыцы медсястрой, кватаруе на прыватнай кватэры, але не векаваць жа ёй у чужых людзей, трэба і пра свой куток думаць. Вось маці і назбірала ёй на двухпакаёвы кааператыў.

Маці тады, як дазналася, чаго прыехаў Максім, кінулася ў слёзы:

— Дзе ж я, сынку, тыя грошы табе вазьму? Кольвек ёсцека, то табе ж, мусіць, знацщё: Сонька ж наша гаруе па чужых людзёх.

— Мамо, зразумей ты мяне, не навечна ж прашу я, а ў пазыкі прашу, аддам, праз год-два аддам да капеечкі.

З заплаканымі вачамі маці пайшла ў сенцы, і праз расчыненыя дзверы хаты Максім пачуў, як рыпнула вечка старога куфра, у якім маці звычайна хавала грошы, старыя аблігацыі, посцілкі, якія саткала сама. Праз хвіліну-дзве яна вярнулася, трымаючы ў правай руцэ цесна перавязаны старой белай насоўкай вузялок.

— Усё, што магу,— падала маці Максіму вузельчык і адвярнулася, усхліпнула, паднесла да вачэй свой заношаны фартух. Максіма яе слёзы ўзялі за жывое.

— Калі грошы Соні трэба зараз, то вазьміце назад, пражыву і без машыны,— стоячы пасярэдзіне хаты і трымаючы ў руках цесна перавязаны скрутак, прамовіў Максім.

— Соня надоечы прыязджала і сказала, што ўсё адно не сяголета стануць будаваць яе капірацію, так што яна трохі пацерпіць. А ты ўжо ўкупляй машыну, можа, хоць унучкаў да мяне часцей станеш прывозіць, а то мне вельмо ж сумна без іх.

І вось Максім на сваім «Масквічы» едзе да маці. У левай кішэні яго пінжака ляжаць грошы. Паўтары тысячы. То частка таго, што павінен аддаць маці. Другую частку ён думае сабраць да вясны наступнага года.

Максім каторы раз пачынае расказваць Ігарку з Таняй пра дарогу, па якой яны зараз едуць. Але дзеці яго не слухаюць. І Максіму становіцца крыўдна за сваіх кроўных дзетак. «Ад гэтай жа дарогі,— разважаў ён сам з сабою,— пачаўся ён, ад яе ён як бы перакінуў мост у сваё далейшае жыццё, да іх, сваіх дзяцей...»

Кончылася балотца, пачалося рэдкалессе, за якім

ужо віднелася вёска, дзе зараз жыве Максімава маці. Ігар і Таня, убачыўшы каня, што пасвіўся на лужку, закрычалі: «Глянь, конь скача». «А ты ведаеш, дзе жывуць коні?» — спытаў брацік у сястрычкі. «Канечне,— адказвала Таня,— у лесе...» Максім ад душы рассмяяўся.

— Дурненькія вы мае, хто ж вам убіў у галаву такую несусвеціцу?

Максімава маці якраз поркалася на градах, відаць, палола, бо ў разоры каля град ляжала прывялае зелле. Ігар і Таня выскачылі з машыны, з шумам расчынілі веснічкі, кінуліся да сваёй бабулі. Не гледзячы сабе пад ногі, напраткі па загонах бульбы яны панесліся да град, дзе, сагнуўшыся, нешта рабіла баба Еўка. Баба Еўка пачула галасы, запрымеціла сваіх унукаў, выпрасталася, успляснула рукамі:

— Мамачкі вы мае, харошыя вы мае, хібе ж па загонах можна хадзіць? Вы ж карчы патопчаце, разораю ступайце.

Калі, трохі пагаманіўшы на двары, яны ўвайшлі ў хату, Максіму падумалася, што маці за апошні час нікольні не змянілася: сухенькая, з вечна прыжмуранымі вачыма, не па сваіх гадах яшчэ рухавая, з моцным звонкім голасам. А можа, яму здаецца, што маці не змянілася, можа, гэта ад таго, што ён даволі часта адведвае яе? А мо яго маці была ў тым узросце, калі чалавек нейкі час не мяняецца ні ў той, ні ў другі бок?..

Баба Еўка, прыйшоўшы ў хату, хапатліва стала выціраць аб фартух зялёныя ад зелля рукі, якія спаласнула ў сенях пад рукамыйнікам. Яна выцірала рукі, глядзела з радасцю на Ігара з Таняй, прыгаворвала:

— Ястрабкі вы мае, прыехалі да свае бабулькі, і добра зрабілі, у нас тут добра, у лесе чарніцы яшчэ ёсцека, грыбкі пракідваюцца, мы ўсім гуртам пойдзем збіраць. Я свежага боршчыку з маладога бурачка зва-

рыла, смятанкі паешце, маселка зусім свежага, заўчора ж толькі збіла.

Да вясковых харчоў Максім змалку прывык і ніяк не мог ад іх адвыкнуць, хоць, здавалася б, пара яму і забыць на ўсё вясковае: каторы ж год у горадзе. Ён інжынер, на трактарным заводзе працуе і мае добрую зарплату. І Мальвіна, жонка, швачка яна ў яго, у швейным атэлье робіць і таксама немалы рубель зарабляе, можа, нават трохі большы, чым ён, інжынер, хаця інстытутаў і не канчала. І, здаецца, усяго ў іх хапае на стале. Але не! Як сядзе Максім у сваёй гарадской кватэры за стол, так і прыгадае вясковыя харчы: салёныя, з дубовай бочкі, агуркі, цупкія, бы каменьчыкі; сопкую бульбу; сырадой, яшчэ цёпленькі, толькі адцэджаны маці і пераліты з даёнкі ў гладышку. А гарбузовая каша! Праўда, яе маці толькі ўвосень варыла, калі паспявалі на доўгіх павадах-каранях жаўтабокія і вялікія, як падняць, гарбузы. Нічога, здаецца Максіму, смачнейшага на ўсім белым свеце няма, як гэта каша з жоўценькай салодкай прыгаркай.

І як некалі, ён зноў у роднай хаце, за сталом, маці корміць яго свежым баршчом, маладой тушанай бульбай, ён запівае яе кіслым малаком і хваліць вясковыя харчы.

Побач з ім паселі дзеці, Ігар і Таня. Але ядуць яны неахвотна, без апетыту. Максім сварыцца на іх, кажа, што яны толькі перабіраюць, боўтаюць лыжкамі ў місцы, а есці не ядуць. Сварыцца і думае, што гэта ад раскошы цяперашнія дзеці такія пераборлівыя ў ядзе. Калі ён рос, тады і чэрствай скарыначцы жытняга хлеба быў рады, як цукерцы.

Хлеб! Хто-хто, а ён ведае, што такое жытнёвая скарыначка ў галодны год... У час вайны, ды і ў першыя пасляваенныя гады, за лустачку хлеба людзі аддавалі ўсё, што было ў іх. Самым дарагім гасцінцам, які ў пасляваенныя гады ён атрымліваў ад маці, быў «зай-

чыкаў» хлеб, што прыносіла маці з лесу, сенакосу або калі яна вярталася з лугу, дзе пасвіла з ранку да вечара сваю і суседскіх каровы. Ён разумеў просты падман: то быў звычайны астатак хлеба, узятага маці з сабою на абед. Але той «зайчыкаў» хлеб, які пахнуў полем, лугам, лесам і свежым ветрам, быў для Максіма дужа смачным.

Паабедаўшы, Максім выйшаў з хаты паглядзець, што вырасла ў маці на сотках.

Амаль усе соткі займала бульба. І толькі на адным доўгім загоне даспявала жыта. Вузкай і неглыбокай разораю Максім падышоў да жыта, выгнаў з яго курэй.

— Коршака на вас няма,— закрычаў Максім, замахаў рукамі, нібы крыламі. Куры з шумам павыскоквалі з жыта, пабеглі адна за адною, гвалтоўна раскудахтаўшыся, у бок хаты.

Жыта вырасла сяголета высокае, спорнае, каласы буйныя, адзін у адзін, як воскам налітыя, да зямлі хіляцца. Лёгкі жнівеньскі ветрык калыхнуў паветра, і каласы ледзь чутна зашапацелі. Максім правёў рукою па каласах, усміхнуўся сам сабе, нешта прыгадаўшы.

Колькі Максім помніць сябе, маці ўвесь час сее жыта. Раней сеяла, бо без свайго хлеба было не пражыць. А цяпер сее адзін загон проста так, па прывычцы, больш з-за саломы, якая ідзе на падсцёл ці на сечку карове, а зерне яна змеле і мукою корміць парася.

Паказалася на двары маці і, згледзеўшы Максіма ля жыта, сказала:

— Трэба на днях зжаць, пакуль пагода стаіць.

— Канечне, трэба,— азваўся Максім,— пакуль я ў цябе, то памагу і снапы знасіць, і змалаціць, і пожню скашу.

Максіму гэтая работа добра вядомая. Шмат звязана ў яго з думкамі пра жыта, пра свой, пасолены ўласным потам, хлеб. І забыць таго ён, мабыць, ніколі не забудзе. Бо ў тым яго пачатак.

Колкай пожняй Максім ідзе ўслед за маці, якая з сярпом на левым плячы спынілася пасярэдзіне поля і вяжа перавясла. На маладым твары маці, на яе высокім лбе свецяцца густыя кроплі поту, белая, з чорнай крапінкай хустка з'ехала назад і, здаецца, вось-вось упадзе.

Скруціўшы перавясла, маці кладзе яго на пожню, вяртаецца назад, збірае зжатыя жмені жыта, што ляжаць там і сям, кладзе іх на перавясла, вяжа ў сноп. Звяжа — і пайшла па полі далей, вязаць другі сноп, а гатовы, ужо звязаны, Максім падымае на руках у сябе над галавой і асцярожна, каб не асыпалася зерне, нясе і ставіць у ставок. Ступае ён ціха, бы ідзе навобмацак, бо пожня, як тыя іголкі, коле ногі, між пальцаў ад тых уколаў на нагах выступае-запякаецца кроў.

Да самага вечара, пакуль сонца не стала хіліцца к лесу, Максім памагае маці. Яна жне і вяжа снапы, а ён зносіць снапы ў стаўкі-бабкі. Кожны ставок накрывае ён «шапкаю». Праўда, сам «шапкі» рабіць ён не робіць, бо не ўмее. І як толькі ставок цесна застаўлены, да яго падыходзіць маці, бярэ самы большы сноп, ставіць на пожню каласамі ўверх і разломвае сцяблы на ўсе бакі. Разломіць — і шапка гатова. Максім асцярожна бярэ яе, падымае над галавою і закідвае наверх на ставок. Закіне — і абыдзе вакол, пагледзіць, ці закрыты шапкаю ўсе снапы. Дзе не закрыты які — папраўляе, падсоўвае яго ўсярэдзіну, каб дождж не намачыў, а то зерне прарасце.

Хочацца есці, увесь дзень хочацца. Але ў хаце, на паліцы, дзе раней ляжаў хлеб, стаялі гладышкі з малаком, пуста. Ні мукі, ні бульбы, ні малака — нічога ў іх цяпер няма, бо ідзе вайна. У іхняй вёсцы гітлераўцаў няма, яны ў мястэчку, але дарогу сюды добра ведаюць, часцяком прыязджаюць на грузавіках. Карову, апошняе парася, курэй — усё забралі яны на тым ты-

дні, калі наляцелі на вёску разам з местачкоўскімі паліцаямі і абшарылі ўсе двары.

Сёння раніцай маці насмажыла казлякоў, якія Максім учора назбіраў у лесе за соткамі. Толькі што тыя казлякі, калі іх няма чым пасаліць? Няма і хлеба. Маці, гледзячы, як ён неахвотна есць казлякі, плача:

— Сажнём жыта, змалоцім — і я напяку табе жытнікаў, сухарыкаў з жытняй мукі, добра?

Максім любіць жытнікі. Да вайны маці часта пякла іх. Круглыя, бы пернікі ў магазіне, яны з малаком такія смачныя і салодкія.

— А тату пашлём жытнікаў? — пытае Максім у маці.

Маці глядзіць на Максіма доўгім неміргаючым позіркам, ёй хочацца сказаць: «Дурненькі ты мой, нічога ты яшчэ не разумееш, хто ж ведае, дзе наш татка цяпер, вайна ж вакол нас, вайна ўсюды...» Толькі пра гэта маці маўчыць, гаворыць яму другое:

— Пашлём і тату жытнікаў, абавязкова пашлём,— кажа маці, і Максім заўважае, як вусны ў маці задрыжалі, і яна адварочваецца ад яго, каб ён не бачыў, як яна плача і выцірае слёзы. Апошнім часам маці часта, вельмі часта плача, і слёзы коцяцца з яе вачэй, бы кроплі вады па вокнах, калі ідзе дождж. Гэта слёзы па бацьку.

Максімаў бацька яшчэ мінулым летам пайшоў на фронт. І прыслаў усяго адно пісьмо. У ім ён пісаў, што хутка вернецца дадому, але прайшло нямала часу, а бацька ўсё не вяртаўся.

Мабыць, думаў Максім, не так проста справіцца бацьку з фашыстамі, якія зайшлі далёка, занялі ў ваколіцы ўсе вёскі, рабілі налёты і на іхняе сяло, рабавалі, здзекаваліся над старым і малым. І мо таму ён, бацька, дасюль і не мог заявіцца дадому?

Сонца пачало ўжо хавацца за лес, але ўсё адно было душна. Душна і галадна. Максім сеў пад ставок, стаў

рваць са снопа каласкі і вылушчваць зерне. Навылушчвае жменю, перасыпле з рукі ў руку, павыдзьме асцюкі, кідае зерне ў рот. Зерне, здаецца Максіму, гаркаватае. Але ён усё роўна есць. З'есць адну жменю — і зноў рве каласы. Голад як бы праходзіць. І ўжо не хочацца болей есці зерне — баліць жывот. Відаць, за дзень ён наглытаўся разам з зернем асцюкоў, якія так балюча рэжуць усярэдзіне. Скурчыўшыся, схапіўшыся абедзвюма рукамі за жывот, Максім ціха, каб не чула і не бачыла маці, стогне...

Ён не заўважае, як падыходзіць да яго маці. Згледзеўшы, што ён ад болю ўвесь пазелянеў, маці садзіцца ўпобачкі, прыхінае яго галаву да сябе, гладзіць рукою валасы.

— Пацярпі, сынку, вечарам я сталетніка табе завару, і твой жывоцік сціхне.

Хоць боль і не праходзіць, але ад матчыных слоў яму становіцца як бы лягчэй, і ён стрымана ўсміхаецца.

— Пайду я, мамо, да дзядзькі Сцяпана, хай наш цэп настроіць, заўтра малаціць будом.

Колкай пожняй, высока паднімаючы ногі, ён ідзе да хлявушніка, знаходзіць у цёмным куце стары, яшчэ зроблены да вайны бацькам, цэп, нясе яго да свайго суседа, адзінокага і аднаногага дзядзькі Сцяпана: другую нагу ў дзядзькі забрала імперыялістычная вайна.

Дзядзька якраз на двары, ідзе ў павець, яго драўляная нага, мабыць, рассохлася, бо рыпіць.

Максім сігае з цапом цераз невысокі з жэрдак плот і паяўляецца ля дзядзькі Сцяпана, які ад яго нечаканага з'яўлення ўздрыгвае.

— Коб на цябе качкі, калі ты кажынны раз падкрадзесся ціхо, бу той кот.

Убачыўшы ў Максімавых руках цэп, дзядзька гаворыць:

— Гора мне з вамі, як што, да Сцяпана бягуць, а ў мяне ж не дзесяць рук.

Дзядзька ў белай палатнянай сарочцы навыпуск, белых палатняных штанах, босы, на галаве чорная суконная шапка з памятым і замусоленым брылём. Выглядае ён маладжава, ад поту яго шчокі і лоб блішчаць, бы іх намазаў хто маслам. Спіна ў дзядзькі ўзмакрэла, і сарочка на спіне стала цёмнай.

Каторы час дзядзька маўчыць, вырэзвае для Максімавага цэпа кавалачак ад старога рэменя, прасоўвае яго ў пракручаную ў цапу дзірачку.

Пасля глядзіць на Максіма, заўважае, што ногі яго паабдзіраны і паміж пальцаў запяклася кроў. Дзядзька ўшчувае яго:

— Калі няма ніякага вобутку, так і сказаў бу мне, я б даўно пастолі сплёў, лазовых і лутовых вярчоў у мяне ўдосталь.

Назаўтра, як толькі развіднела, Максім прачнуўся, устаў, сабраўся зносіць з поля снапы ў двор. Выйшаў з хаты, а на двары яго ўжо чакаў дзядзька Сцяпан, апрануты ў тыя ж белыя палатняныя штаны і сарочку, толькі сарочка была перахоплена сёння тонкай вузкай папружкай. У руках дзядзька трымаў маленькія лутовыя пастолі, якія прыемна пахлі ліпавай карой. Максім як убачыў гэтыя пастолі ў дзядзькавых руках, дык аж дзіву даўся. «То ж ён увесь вечар, а мо і ўночы, плёў іх...» І ў душы Максім быў бясконца ўдзячны бязногаму дзядзьку Сцяпану. «Каб не ён,— думаў Максім,— цяжка давялося б нам з маці».

Бязногі Сцяпан, як толькі мястэчка занялі гітлераўцы, сам прыйшоў і сказаў маці, каб Соню, Максімаву сястру, выправіла на хутар да яго родзічкі. Соні мінула чатырнаццаць, яна была рослая, і, калі паяўляліся немцы, маці хавала яе ў сырым цёмным пограбе. Але каб быць далей ад бяды, дзядзька ўгаварыў маці адправіць Соню да часу, пакуль не прыйдуць нашы, да

яго родзічкі цёткі Тэклі, што жыла ўподалечкі ад дарог.

Пастолі былі маленькія, па назе Максіму, па іх краях у вушкі дзядзька Сцяпан прапусціў новую канапляную абору. Максім узяў пастолі з дзядзькавых рук, пабег у хату абуваць...

Дні праз тры змалацілі жыта, але намалацілі нямнога, бо зерне ў каласах было дробнае, пустое. Але і тры мяшэчкі па ваенным часе — хлеб немалы.

З аднаго мяшка маці ўзяла чатыры рэшаты і насыпала сушыцца на печ, на чарэн. Калі трохі жыта падсохла, Максім сабраў яго ў вядро і пабег да дзядзькі Сцяпана малоць, бо апроч яго ў сяле ні ў каго жорнаў не было. А на пусты чарэн маці зноў насыпала сушыцца тры рэшаты жыта.

Назаўтра ў іх з маці было сапраўднае свята: маці напякла жытнічкаў, скавароднікаў з маладога цеста, якое яна рашчыніла яшчэ ўчора вечарам, калі Максім прынёс ад дзядзькі Сцяпана свежага памолу муку. Шкада, што малака не было. Але і без малака, з вадой, жытнічкі здаваліся Максіму смачнымі і салодкімі.

Некалькі сухарыкаў і скавароднікаў маці загарнула ў белы палатняны абрус і сказала, каб аднёс дзядзьку Сцяпану.

Сігануўшы з вузлом у руках праз гарод і плот, Максім прыйшоў у павець да дзядзькі Сцяпана, які, бачыў Максім па яго твары, вельмі ўзрадаваўся, што яго не забылі.

Дзядзька сядзіць на асінавай калодцы, што замяняе яму крэсла, адкусвае ад скавародніка, гаворыць:

— Дадуць нашы немцу ў хвост, хутка ён возьме свае лахі пад пахі.

Пракаўтнуўшы скароднік, дзядзька працягвае:

— Цябе яшчэ і ў паміне не было, як я з германцамі ваяваў у імперыялістычную, а пасля грамадзянскую. Тады немец тожа распаясаўса. Ды нічога, угаманілі.

Пакуль Максім гаварыў з дзядзькам у павеці і яны

марылі аб перамозе, за сялом нешта завуркатала. Пачулася страляніна, на вуліцы паказаліся матацыклісты ў зялёных касках і шэра-зялёных фрэнчах: на вёску наляцелі немцы.

Максім бяжыць да хаты і не паспявае зачыніць за сабою дзверы, як у хату ўвальваюцца два нямецкія салдаты. Максіму ад страху быццам туманам вочы засланіла, але і скрозь гэты туман ён бачыць двух фрыцаў. Дасюль ён ні разу так блізка не бачыў немцаў, і яму робіцца страшна... Ды і як не страшыцца, калі твары ў тых двух, што ў іх хаце, ад злосці перакошаныя, а вочы нялюдскія і гараць нядобрым агнём, бы ў ваўкоў у піліпаўку.

Не паспявае Максім апамятацца, як ён з маці ляціць у пясок, у гразь. Нейкую хвіліну ён і маці ў здранцвенні, ляжаць ціха, не варухнуцца. І толькі зараз Максім адчувае, як моцна баліць патыліца і левая нага — моцна такі ўдарыў яго фрыц.

Пасля Максім і маці, нібы падхопленыя маланкай, паднімаюцца з зямлі і бягуць за хлеў, разораю ўцякаюць у алешнік, што адразу за соткамі.

У гэты час над галавой, уверсе, пачынае гусці. Гул спачатку далёкі, але ён хутка прыбліжаецца, нарастае. Максім прыкладвае руку да лба, углядаецца ў неба, не сваім голасам крычыць:

— Нашы, нашы ляцяць, паглядзі, мамо, чырвоная зорка на крыле.

Маці закрывае яму рот сваёю рукою, валіць на зямлю.

— Зусім галавы ў цябе няма, хай немцы ўчуюць.

Маці ляжыць ніцма на траве і ціха шэпча, шле фрыцам праклёны: «Каб вас ясны гром пабіў, саранча праклятая...»

Калі сцямнела, яны выйшлі са сховішча і сталі наближацца да хаты. Разораю, крадком падышлі да свайго селішча, стаіліся за рогам хлява. Сэрца ў Максіма

білася часта-часта, і хоць на двары панавала цішыня, яму ўсё яшчэ бачыліся два даўгавязыя фрыцы.

Затым яны ўвайшлі ў хату і доўга моўчкі сядзелі ля акна на ўслоне. Маці нешта ўспомніла і кінулася ў сені. Адтуль яна доўга не вярталася, і Максім рашыў паглядзець, што маці такое поначы робіць у сенях. Маці сядзела на халоднай падлозе і, не стрымліваючы рыданняў, плакала.

— Усё, усё да апошняга зярнятка забралі, хоць бы паўмяшэчка пакінулі.

Хвіліну ці дзве Максім нічога не цяміў, а калі да яго дайшоў сэнс таго, што здарылася, ён кінуўся на печ, усхваляваным голасам пазваў маці:

— На чаране засталося, чуеш, мамо?

На ўсю восень і зіму ў іх засталося тры рэшаты жыта. Максім змалоў яго на жорнах у дзядзькі Сцяпана, і маці мяшала тую муку з лебядой, палявым гарохам і пякла тонкія, бы папера, аладкі. Аладкі былі горкія ад палявога гароху, які маці прымешвала ў муку, пахлі мышамі...

Па вясне немцаў прагналі. У канцы вёскі стаялі нашы артылерысты. Максім бегаў да артылерыстаў, прасіў іх, каб пусцілі зблізку паглядзець на гармату. Яму дазвалялі, і ён падыходзіў да тае гарматы, гладзіў рукою ствол, браўся за гумавыя колы.

Камандзір артылерыстаў, чарнавалосы, высокі і магутны, як скала, дзядзька, да якога ўвесь час падыходзілі салдаты, падносілі руку да пілотак і гаварылі «таварыш маёр», першы загаварыў з Максімам. Ён спытаў, дзе яго бацька. І Максім, вядома, адказаў, што б'е фрыцаў. Пасля маёр пацікавіўся, ці не чапалі яго, гэта значыць, Максіма, акупанты. Ён расказаў маёру пра ўсё: і як у людзей пазабіралі кароў, свіней, адзежу, і як многа маладых хлапцоў і дзявак вывезлі сілком у Германію. Расказаў і пра тры мяшкі жыта, якія забралі

ў іх гітлераўцы. Маёр уздыхаў, нервова церабіў правай рукою на галаве свае чорныя валасы, прыгаворваў:

— Звяры, акурат лютыя звяры. Ды нічога, хлопча, мы ім пакажам за тваё жыта, яны ў нас запомняць.

Калі Максім сабраўся ісці дадому, маёр пазваў яго ў брызентавы будан, даў «кулідку», як ён сам сказаў, сапраўднага чорнага хлеба і кацялок прасянай кашы. Ад радасці Максім разгубіўся, не ведаў, як дзякаваць гэтаму добраму дзядзьку ў ваеннай форме, і, не помнячы сябе, панёсся з хлебам і кашай дахаты.

Не ведаў Максім, што чакала яго дома.

Калгасная паштальёнка ў гэты час разносіла па сяле пошту. Максімава маці якраз ішла з двума вёдрамі па ваду. Ля калодзежа, што быў цераз дарогу ад іхняй хаты, і падышла да яе паштальёнка — Волька Паўлёнак, старэйшая за Максіма гадоў на шэсць. Бацька Вольчын, як яго, Максімаў, з першага дня вайны на фронце. Максім бачыў, як Волька аддала маці нейкі ліст. Маці хуценька прачытала той ліст і выпусціла з рук вёдры. Вёдры са звонам і бразгатам упалі-пакаціліся па зямлі, маці заламала назад рукі, загаласіла:

— І-і на ка-а-го ж т-ы на-а-а-с па-акі-і-ну-у-ў... Ох, бо-ожа-чкі-і-і, до-о-ля мая няшчасна-а-я-я...

Максім здагадаўся, што Волька ўручыла маці пахавальны ліст на бацьку: шмат хто з жанчын у той час атрымліваў такія лісты. І калі раптам да Максіма дайшло, што бацькі больш няма, яму стала перш страшна за сябе, за маці, Соню, пасля яго быццам токам наскрозь працяло, перасохла ў роце, і ён не мог паварушыць ні языком, ні губамі, а ногі сталі цяжкімі, непаслухмянымі, ён як бы прырос да таго месца, на якім стаяў.

А маці ўсё стаяла-білася рукамі ля плота, хапала сябе за галаву, плакала і ў плачы гаварыла сама з сабой, пыталася сама ў сябе, як жыць ёй адной з двума дзецьмі, як пракарміць іх, паставіць на ногі. Яна як бы

звярталася да жанок, што акружылі калодзеж, каб яны сказалі ёй, дзе магіла яе мужа і нашага бацькі, на якую яна хацела б глянуць хоць адным вокам.

Адны з жанок са скрухай і жальбой пaглядвалі на маці, на Максіма, выцiралi беражкамі хустак ці фартухамі слёзы. Другія падыходзілі да маці, угаворвалі яе, каб не плакала, бо, казалі, слязьмі свайму гору не паможаш, а жыць неяк усё адно трэба, бо дзеці ж.

Да самага вечара прасядзела маці на двары з жанкамі. Ад слёз і плачу твар яе распух, зрабіўся чырвоным, а вочы бы застылі на адным месцы, нічога вакол сябе не заўважалі.

Позна вечарам Соня, Максімава сястра, прывяла маці ў хату. Маці больш не плакала, нічога не казала, маўчала, позірк яе быў нейкі пусты, мёртвы, а рукі бездапаможна віселі, і маці, падалося Максіму, не валодала імі.

У той жа вечар да іх зайшоў дзядзька Сцяпан. Ён прастукаў на сваёй драўлянай назе ад дзвярэй да самаробнага ўслона, што стаяў ля аднаго з трох акенцаў іхняй хаты, і сеў. Сядзеў ён доўга, маўчаў, курыў самасад. А калі сабраўся ісці дадому, пазваў Максіма да сябе. Калі ён стаў побач з ім, дзядзька Сцяпан доўга глядзеў яму ў вочы, гладзіў па галаве сваёй шурпатай, з патрэсканымі ад работы пальцамі, рукой і казаў:

— Цяпер ты ў сям'і адзін мужчына, цяпер ты ў маці — першы памочнік. У твае адзінаццаць год я ўсё ўмеў рабіць: пасвіў скаціну, касіў, гарадзіў плот, плёў пастолі.

Дзядзька стаяў ужо ля выхада, упёрся рукою ў вушак дзвярэй, сказаў, павярнуўшы галаву назад:

— Гляджу я, Максім, пастолі ў цябе ледзь ліпяць на назе, падскоч заўтра да мяне, я новыя спляту і аборы другія забарсаю. Хутка ж грыбы пачнуць расці, а босаму табе на Трубачоў востраў, дзе лепшыя баравіны, не зайсці.

* * *

Жылося ў першыя пасляваенныя гады не соладка. Не было чаго есці, не было чаго насіць, не было як і чым пасеяць соткі. Маці разжылася недзе трохі на жыта, то загоны, адведзеныя пад жыта, капалі «застужыта, то загоны, адведзеныя пад жыта, капалі «заступам», як называў дзядзька Сцяпан немаведама дзе знойдзеную ім старую рыдлёўку. Забараноўвалі жыта таксама рукамі, граблямі дзядзькавай работы.

Жыта радзіла слабае. І намалочвалі яго мала, бо зямля была няўгноеная, запушчаная. Муку, змеленую на жорнах у дзядзькі Сцяпана, маці мяшала з лебядой, бульбяным лушпіннем. Хлеб з той мукі пёкся ў печы доўга і быў цвёрды бы камень, аж нож, здавалася, тупіўся аб яго.

Хаця вайна ўжо скончылася, маці ўсё не верыла ў тое, што бацька загінуў. Яна даставала з-за рамкі са здымкамі, што вісела на адной сцяне ў хаце, пахавальны ліст і разважала сама з сабой, гадала, мо гэты ліст — памылка. Можа, бацька і жывы дзе, мо ён у палон трапіў да саюзнікаў, амерыканцаў ці англічан, якія не спяшаліся выпускаць на волю, на Радзіму, нашых многіх байцоў. Паразважаўшы так і зразумеўшы, што яе разважанні пустыя, маці пачынала галасіць. Галасіла яна моцна, на ўсю хату, успаміняла іх, Максіма з Соняй, называла іх горкімі сіроткамі.

У тыя ж першыя пасляваенныя гады, здаецца, улетку маці выклікалі ў сельсавет. У сельсавеце ёй уручылі пасылку ад Чырвонага Крыжа, якая прызначалася сем'ям загінуўшых воінаў.

Калі маці прынесла пасылку дадому, Максім тут жа адбіў вечка, глянуў, што там, пад вечкам. У пасылцы ляжалі дзіцячыя чаравікі: белыя і светла-карычневыя. Толькі вось бяда: большасць чаравікаў на адну нагу. Прыйшлося Максіму левую нагу абуць у белы, а правую — у карычневы чаравік. Усё ж чаравікі — не

дзядзькавы пасталы, у іх нагу не намочыш, ды і носяцца яны доўга.

Там жа, у сельсавеце, маці сказалі, што для яе сям'і раз на тыдзень стануць даваць хлеб. Па хлеб трэба хадзіць у чыгуначны магазін, што знаходзіўся кіламетраў за восем ад іхняга сяла. Максіму тая дарога добра вядомая: па ёй не раз бегаў ён у грыбы, па буякі, суніцы.

Хадзіць у Горнае па хлеб стала яго абавязкам.

Дарога ў Горнае ішла густым лесам, міма вузкакалейкі, на ўзбочыне якой валяліся абгарэлыя нямецкія цяплушкі, вагоны, паравозы. Максім ведаў, то партызаны ў час акупацыі рабілі вылазкі на чыгунку і пускалі пад адхон варожыя цягнікі, гружаныя палескім лесам, нарабаваным дабром для Германіі.

Максім часта і падоўгу тырчаў ля перакінутых уверх калёсамі вагонаў і цяплушак, залазіў на іх, раскручваў балты, гайкі. Пад вагонамі і цяплушкамі ён знаходзіў пустыя гільзы ад патронаў, абгараныя і пакрытыя ржой жалезныя каскі з крыжамі на іх. Аднаго ж разу ён знайшоў пад перакуленай цяплушкай сапраўдны наган, які ляжаў у скураной кабуры, што зверху была ледзь прысыпана зямлёй. Наган аказаўся цэлым-цалюсенькім, бы яго паклалі пад вагон толькі ўчора. Узрадаваны сваёй знаходкай, Максім хуценька пабег у магазін, купіў два «хармавікі», як казала маці, хлеба і пакіраваўся назад дадому.

Хлеб ляжаў у хустцы-канаплянцы, якую Максім завязаў на два вузлы і перакінуў за плечы.

Хлеб быў свежаспечаны, яго скарыначка прыемна пахла, і акрамя гэтага паху Максім больш нічога не чуў. Ад доўгай дарогі ён, вядома, добра прагаладаўся, але есці хлеб не асмельваўся, ведаў: два «хармавікі», якія ён нёс за плячыма, на цэлы тыдзень даваліся.

Толькі голад быў мацней за яго дзіцячую волю.

Максім не-не ды і запускаў руку назад, у хустку, шчыкаў патроху хлеб і з ненатольным апетытам еў яго.

Шчыкаў хлеб да той пары, пакуль рукою не адчуў, што краю аднаго «хармавіка» як і не было. Ён гэтаму перш не паверыў, зняў хустку з плячэй, паклаў яе на прыдарожную траву, разгарнуў — і жахнуўся: як гэта ён і не ўгадаў, калі з'еў трэцюю частку «хармавіка».

Максім хуценька завязаў хустку, зноў закінуў яе за плечы і, устрывожаны, пабрыў далей. Ён ведаў: маці за гэта біць яго не стане. Але буркату і слёз ужо хопіць, хопіць і крыку, у час якога маці ўспомніць, што яна ўжо ўсе свае жылы парвала, клапоцячыся, каб абуць, адзець і пракарміць яго з Соняй. І, плачучы, зноў стане называць іх бяздольнымі сіратамі. Лепш бы не чуць і не бачыць Максіму таго мацярынскага плачу — ад яго, здаецца, душа рвецца на часткі. І ён вельмі пашкадаваў, што запусціў рукі ў хлеб, з'еў як не трэць бохана.

Ён ішоў памалу, не прыкмячаючы ні дрэў, ні голасу птушак, уяўляў тое, як сустрэне яго маці. За пазухай у яго ляжаў наган з кабурай, знойдзены ля ваганетак. Наган аказаўся зараджаным, сем патронаў налічыў Максім у барабане, і яму раптам прыйшло ў галаву папаляваць. «Вось застрэлю качку,— разважыў ён,— і маці даруе мне ўсё».

Ён ведаў, непадалёк ад дарогі, па якой хадзіў па хлеб, сажалкі, дзе вадзіліся качкі, што цэлымі хмарамі кружылі над сажалкамі. Гэта Максім добра запомніў, калі з маці аднаго разу летась граб там сена. Праўда, там такая гушчэча, такія зараснікі лазы, альхі і «воўчага ягодніку», што і днём прыцемна.

Максім як прыгадаў тыя месцы, то яго аж у халодны пот кінула. Ён успомніў, як дзядзька Сцяпан сказаў яму неяк: «Барані цябе божа заходзіць калі аднаму ў Гараваху. Там ваўкі табуняцца-гайнююць, а ця-

перачы, за вайну, іх там вунечка колькі развялося, яны да таго асатанелі, што і на чалавека напасці могуць».

Успомніў Максім дзядзькавы словы, глянуў на зараджаны наган, які ён выняў з кабуры і ўвесь час трымаў у руках, разглядаў яго, спыняўся, цэліўся ў якое-небудзь дрэва, але не страляў — шкада патронаў, якіх было нямнога. Праўда, адзін раз усё ж стрэліў, праверыў, ці спраўная зброя, і калі пераканаўся, што спраўная, асмялеў: «Пакладу, калі што, аднаго-другога, а астатнія не палезуць, забаяцца».

Хілілася к вечару, але ў Гаравасе, дзе знаходзіліся сенакосы і дзе густыя зараснікі чароту і асакі ўкрывалі зарослыя зялёнай раскай сажалкі, чуўся птушыны голас: зрэдку ўскрыквала нечага патрывожаная качка, стракацелі наперабой сарокі, клекаталі буслы, пішчалі дзятлы. На гэтыя галасы і пакіраваўся Максім.

Збочыўшы з дарогі, ён ступіў на цупкую сцежку, што вяла да сажалак. Па гэтай сцежцы, відаць, хадзілі на вадапой дзікі і ласі, бо сляды былі зусім свежыя і пратоптаныя ў бок сажалак і ад іх.

Сцежка хутка прывяла яго ў густыя-густыя хмызы, праз якія прадзірацца яму з хусткай за плячыма стала цяжкавата. Максім думаў-гадаў, дзе схаваць яму хустку з хлебам, і рашыў, што пакіне яе пакуль наўзбоч сцежкі, прыкрые, каб хто не прыкмеціў, травою, а сам барзджэй пойдзе да сажалак, папалюе і вернецца зноў назад сюды за хусткай.

Так ён і зрабіў. Прыкрыў хустку папараццю, і каб не збіцца пасля, для арыенціру ўзяў і зламаў над хусткай дзве маладыя карамзатыя бярозкі.

Доўга ці не дабіраўся Максім да сажалак — не помніць. Ён адно разводзіў рукамі перад сабою кусты, забіраўся глыбей у хмызняк, здзіраў з твару ліпкае павуцінне, вытрасаў з-за пазухі сухі мох і кару, што сыпаліся на галаву і за пазуху, за каўнер сарочкі з сухога лазняку, вярбы, бярэзін.

У хмызах збоку, спераду, ззаду падавалі голас сарокі. Яны то сціхалі, то, мабыць, пачуўшы чалавека, пачыналі страчыць усе ў адзін голас. Сарок ахвотна падтрымлівалі сойкі, якія, заўважыўшы яго, скакалі з куста на куст, дзівіліся нечаканаму яго тут з'яўленню.

Наперадзе, куды накіраваўся Максім, пахла вадой, вецер даносіў слабае шалясценне чароту, адзінокія ўскрыкі качара.

Хмызы пасля кончыліся. Пачалася забалочаная паляна з некалькімі дуплаватымі асінамі, у дуплах якіх пішчалі маладыя дзятлікі. Трава на палянцы была не так даўно скошана і ляжала ў радах, трохі падсохлых, але яшчэ глеўкаватых. Абрывалася палянка ля самай вады. Там, на краі палянкі, Максім прыкмеціў леташні адзёнак з пачарнелым ад часу і дажджоў сенам. Ён адразу сабраўся быў пайсці да адзёнка і стаіцца там, замаскіравацца і пачакаць, пакуль сядзе на ваду чарада качак. Але падумаў, што ў леташнім сене могуць быць гадзюкі, якія, можа, і зімавалі там, а за лета іх магло чорт ведае колькі распладзіцца. Такія яго думкі не былі памылкай. Ля старога адзёнка расходжвалі два буслы: відаць, ля гэтага гадзючніка яны не першы раз вячэралі.

І ён мусіў выбраць сабе для засады лазняк, што падыходзіў да вады з другога ад адзёнка боку.

Падабрацца да лазняку аказалася няпроста. Месцы тут былі затарфянелыя, і Максіму перш давялося разуцца і чаравікі, прысланыя ад Чырвонага Крыжа, адзін белы, а другі карычневы, пакласці на высокі пень, што аброс па баках шэра-белай губкай і грыбамі-вужачкамі.

Трымаючы ў адной руцэ наган, а ў другой сухую палку, якою выбіраў наперадзе сябе цупчэйшыя месцы, ён паволі падступаўся да лазняку. Праз крок-другі ён праваліваўся ў сыры, халодны, як лёд, торф па самыя калені. Але спрытна выбіраўся, выцягваў з багны ногі,

меціў ступіць дзе на затравелую купіну... Калі да лазняку засталося якіх крокаў два, ён праваліўся па самы пояс. Холад пранізаў яго цела з нізу да верху, і ў галаву нешта моцна кальнула. Ад такой нечаканасці з грудзей у Максіма міжволі вырвалася «О-ох», і ён нядобра вылаяўся. Але тут жа напяў усё сваё цела, ухапіўся адной рукою за галіну бліжэйшага лазовага куста і як не на жываце выехаў з твані.

У лазняку зямля цвярдзейшая, і Максім тут паспакайнеў, стаў счышчаць з сарочкі і штаноў рудыя камякі торфу. Пасля зірнуў назад — і здзівіўся сам сабе: як гэта ён не заўважыў, што ад паляны і да самага лазняку ляжалі кладкі з тонкіх старых жэрдак, праўда, трохі ўзбоч ад месца, па якім ён дабіраўся сюды.

Чакаць давялося нядоўга. Хутка над лазняком паявілася чародка нейкіх птушак, якія праляцелі нізка над вадой і тут жа апусціліся — селі на ваду. Максім пазнаў: качкі, чыркі, яны меншыя, чым крыжні, але ж качкі. І ён адвёў курок, стаў цэліцца.

Ад стрэлу ён і сам спужаўся, уздрыгнуў, прысеў, але ад вады позірку не адвёў. Спужаныя качкі сталі з шумам і плёскатам узнімацца над вадой суцэльным цёмным воблачкам. Максім наўгад стрэліў у самую сярэдзіну «воблака». Паветра рэзануў крык параненай птушкі, і ў ваду плюхнулася качка. Максім ад радасці ледзь не закрычаў, але ўбачыў, што качка, хоць і падбітая, хутка паплыла да другога берага.

Кладкай ён хуценька выбег на паляну і басанож кінуўся да таго берага, куды паплыла параненая птушка. Бег, а вачэй не спускаў з качкі, сачыў, да якога куста яна прыб'ецца.

І хоць ён добра ўбачыў, як птушка, валюхаючыся з боку на бок і цягнучы як не па зямлі адно крыло, відаць, ён пацэліў у гэтае крыло, кінулася ў траву, але знайсці яе ў траве Максім не змог. Ён абпоўзаў і абгледзеў кожную купіну, расхінаў траву і лазовыя кусцікі,

але ўсё дарма: качка сапраўды бы ў ваду канула. Хоць і параніў ён яе ў крыло, але на ногі яна засталася хуткай і перахітрыла яго.

Злосны, пакрыўджаны сам на сябе за няўдачу, Максім па кладцы вярнуўся на паляну, пасля ў лазняк. Але колькі ён больш ні чакаў, качкі не прылятаді.

Калі ён стаў абувацца, яму падалося, што выюць ваўкі. Выюць ціха, але так, што можна пачуць: недзе справа выў стары воўк, другі абзываецца яму злева.

Максіму стала страшна. І, не паспеўшы зашнураваць чаравікі, ён пабег да хмызняку. У хмызняку тым часам добра сцямнела, і Максім ніяк не мог адшукаць-знайсці сцежку, ля якой схаваў хустку з хлебам.

Ён бегаў узад-уперад, з аднаго месца на другое, са сцежкі на сцежку, а іх тут, толькі цяпер заўважыў ён, было не злічыць, ды і падобныя яны адна на адну як дзве кроплі расы.

Задыханы, стомлены, расхваляваны, поўны трывогі і адчаю, ён прысеў на краёчку адной сцежкі і горка заплакаў. Плакаў ён уголас, але нягучна, слёзы каціліся па абедзвюх яго шчоках, і Максім не ў сілах быў суняць іх. Як цяпер ён пойдзе дадому, што скажа маці, што ім цяпер есці?.. Пытанні лезлі ў галаву адно за адным, адказу ж на іх ён патрапіць не мог.

І тады ён рашыў, што пераначуе тут да заўтрашняга дня, а заўтра завідна знойдзе хустку з хлебам і рушыць дахаты.

Ён сядзеў і ўяўляў, як прыйдзе і раскажа маці ўсю чысценька праўду. Раскажа і пра знойдзеную зброю. Маці, вядома, зацікавіцца, адкуль у яго наган, дзе і калі навучыўся ён страляць з яго. «Эх, мамо, мамо,— скажа Максім,— хіба ж у аднаго мяне ёсць наган?» Пасля вайны такія «цацкі» знаходзіў шмат хто. Вунь у Віці дзядзькі Васіля даўно ёсць такі ж самы, нямецкі. Віця і навучыў яго, Максіма, страляць з нагана. Праўда, у Віцевай «пушцы» даўно скончыліся патроны, і ў

ствол Віця закладвае кораценька паламаныя розачкі ці запалкі. Калі пацэліць каму Віця розачкай ці запалкай ў голую руку або нагу, то ад болю слёзы на вочы самі сабой нагорнуцца.

Так сядзеў і разважаў Максім у хмызняку, на які паволі апускалася жнівеньская халодная ноч. Ён сядзеў і не варушыўся: давала знаць аб сабе стома. Пасля ён вярнуўся назад на паляну, назбіраў з радоў, дзе больш падсохла, сена і стаў ладзіць сабе пасцель. На небе, бы маленькія свечкі, гарэлі-разгараліся першыя зоркі, на палянку апусціўся белы цёплы туман.

Пакуль ён ладзіў сабе пасцель з сухога сена, пакуль памалу засынаў, расслабляўся ад нервовай напружанасці і ўзрушанасці, зусім забыўся на небяспеку, на тое, што ноч напаткала яго ў Гаравасе, куды і днём людзі баяліся хадзіць па адным, бо там разгульвалі воўчыя зграі.

І ўжо добра прыдрамнуўшы, даўшы целу трохі адысці ад стомы, Максім згадаў словы дзядзькі Сцяпана, які перасцерагаў яго ад паходаў у Гараваху. Успомніў ён і тое, што да вайны ў гэтай самай Гаравасе ваўкі паклалі не адну карову, авечку, каня. Было, што і сабак ірвалі на часткі.

Страх зноў паволі напаўняў усю яго істоту. Страх яго станавіўся не прыдуманы і падспудны, а рэальны: ён зноў пачуў, як тоненька завыла ваўчыца, а пасля стары воўк. Цяпер яны вылі бліжэй, чым тады, першы раз.

Адчуўшы зусім блізкую небяспеку, Максім усхапіўся, падняўся з зямлі і, колькі хапіла ў яго сілы, пабег да дарогі. Бег і чуў, як ваўкі завывалі то спераду, то ззаду, з бакоў. «Акружаюць»,— мільгнула ў яго думка, і, пачуўшы воўчы голас, Максім два разы запар стрэліў у той бок, адкуль пачулася завыванне. Стрэліў і пабег зноў.

Добра ўсё-такі, што ён і паначы разабраўся, куды

яму бегчы, дзе знаходзіцца вёска і як напрамкі хутчэй дабегчы да сяла. Ён адразу ўзяў правільны кірунак і бег без аддыху. Ад страху і адчування сустрэчы з воўчай гайнёй у яго часта-часта білася сэрца, дрыжалі рукі, яго кідала то ў гарачы, то ў халодны пот.

Праз нейкі час у яго моцна аслабелі ногі, і бегчы ён больш не мог. Ён перайшоў на хуткі крок.

Пасля яго стрэлаў ваўкі нейкі час маўчалі. Пах пораху іх трохі напужаў. Толькі іх маўчанне цягнулася нядоўга. Хвілін дзесяць — пятнаццаць — не болей. Калі вецер развеяў пах пораху, Максім зноў пачуў, як з абодвух бакоў і спераду затрашчала сухое галлё. І ўслед за гэтым трэскам па лесе пайшло ціхае працяглае завыванне. «Пераразаюць дарогу»,— падумаў Максім і кінуўся да вялікага і доўгага поля, якое акружаў лес. У чыстае поле ваўкі адразу не палезуць, разлічваў ён, а калі і палезуць, то ў барабане яшчэ ёсць патроны.

Высвечваў месяц, і ў полі ўсё было відаць. Гэтае поле пасля вайны яшчэ не аралі, і зямля тут зацвярдзела за час вайны, зарасла крапівой, лебядой, стаўбурамі дзікага драсёну. Максім па полі пайшоў подбегам, спатыкаўся і часта падаў у зараснікі крапівы, якая балюча пякла твар, рукі, ногі, бо чаравікі Максім даўно зняў і, звязаўшы іх адзін з адным шнуркамі, закінуў на правае плячо. Калі ён спатыкаўся і ляцеў потырч на зямлю, чаравікі спадалі з пляча, і ён падымаў іх, вешаў зноў на плячо і бег далей.

Цяпер ён зразумеў, што правільна зрабіў, калі збочыў з лясной дарогі ў чыстае поле. Ваўкі не асмельваліся паказацца сюды. Мо таму, што чулі ў руках чалавека зброю. Максім напомніў ваўкам аб гэтым яшчэ раз, калі дабег да сярэдзіны поля і стрэліў туды, дзе, як ён думаў, знаходзіліся драпежнікі.

Дадому Максім адразу не пайшоў, завярнуў да дзядзькі Сцяпана. Дзядзька, хоць і позна было, не спаў.

На камінку ў яго гарэла лучына, сам ён сядзеў перад камінкам, маўкліва ўглядаўся ў няяркі агонь, курыў самасад. Пачуўшы, як ляснула клямка ўваходных дзвярэй, дзядзька ўздрыгнуў, павёў плячыма ў бок дзвярэй. А калі ўбачыў на парозе Максіма, цяжка ўстаў, стаў сварыцца:

— Пранцэй кавалак, з-за цябе маці ўсё сяло на ногі падняла, і я тут чаго толькі не перадумаў.

Выслухаўшы Максіма, дзядзька забраў у яго наган і сказаў, што заўтра ж зброю аднясе ўчастковаму міліцыянеру, а Максіма павёў да маці. Па дарозе гаварыў:

— Бал яго пёс з тым хлебам, добра, што хоць жывы вярнуўся, а то маці ледзь з глузду не з'ехала.

Па той дарозе Максім пасля яшчэ не раз хадзіў па хлеб. Ваўкоў ён не баяўся, бо раённы ваенком правёў з салдатамі некалькі аблаў запар. Канечне, усіх ваўкоў забіць не забілі, але пацішэла пасля аблавы ў Гарavace. Людзі смела сталі хадзіць туды на сенакос, гналі на выпасы жывёлу.

І заўсёды, калі Максім прыносіў дадому хлеб, маці адразала яму невялічкую скібачку, і ён, пасыпаўшы яе соллю, з апетытам еў.

Хлеб ваенных і першых пасляваенных гадоў аж дасюль помніцца Максіму. І цяпер, едучы к маці той самаю дарогай, па якой некалі хадзіў, ён са здзіўленнем і радасцю ўглядаецца ў сваю зямлю, што выгадавала яго, дала яму жыццё. Хлеб з лебядою і палявым гарохам, нясмачны і горкі, але ўсё ж хлеб памог яму выжыць ў тыя цяжкія гады.

Прыехаўшы гэты раз на сваю зямлю разам з дзецьмі, Максім узяўся памагаць маці ўбіраць жыта. Сёлета жыта вырасла добрае: сцяблы высокія, каласы тугія, зерне буйнае, ядранае.

Ён зносіць снапы на двор, маці паказвае яму, дзе

іх складваць. Пазносіўшы і паскладаўшы снапы пад паветку, Максім зрывае са снапоў некалькі каласкоў, расцірае іх у руцэ, выдзьмухвае асцюкі, кідае зерне ў рот. Зерне прыемнае, духмянае, пахне цёплай раллёй. Ён жуе зерне, глядзіць на складзенае жыта, а ў яго вушах звініць жаўрукова песня. Жаўрук, здаецца Максіму, высока-высока «павіс» над жытнёвым полем і лье з вышыні на зямлю сваю чыстую, як крынічны звон, песню.

Максім глядзіць на ржышча, паднімае ўверх галаву: не, зараз жаўрука не відно. Раніцай, на золку ён заводзіць песню.

А па ржышчы, якое зіхаціць-пераліваецца ў праменнях заходзячага сонца, ідзе, стукаючы дзеравяшкай-нагой, дзядзька Сцяпан. Ён згледзеў Максіма і кіруецца да яго. Стары, зусім ужо стары дзядзька Сцяпан, за восемдзесят яму. Але па-ранейшаму ён усё нешта габлюе, выстругвае, строіць. Калі Максім яму кажа пра гэта, дзядзька, прыгладзіўшы правай рукою сваю доўгую, бы з кудзелі, бараду, прыжмурвае маленькія, слязлівыя вочы:

— Маладыя ж маёй работы не зробяць, а жанкі, калі што, па прывычцы да мяне бягуць: той вечка трэба на шчань, той кашэль сплясці, другой зубы ў граблі паўстаўляць.

Разгаманіўшыся, дзядзька Сцяпан пытае ў Максіма, чаму гэта ён без жонкі прыехаў. Максім адказвае, што сёлета адпачынкі ў іх не супалі, у яго вось летам, а ў яе будзе ў канцы восені.

Дзядзька слухае яго, ківае галавою, а калі згледзеў жыта, складзенае ў вялікую капу пад паветкай, падыходзіць да капы, бярэцца за снапы рукою, зноў пытае ў Максіма:

— Ці помніш, як у вайну сеялі-ўбіралі жыта?

Як не помніць...

# Змест

*Первая книга прозаика*

Иван Иванович Копылович

СОЛНЦЕ САДИТСЯ В ТРАВЫ

Рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Г. Б. Нужкова. Мастакі М. Р. Казлоў, В. А. Тарасаў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктары Я. Ф. Харко, Т. М. Собалева.

ІВ № 317

Здадзена ў набор 26.07.78. Падп. да друку 17.11.78. АТ 09897. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Друк. высокі. Ум. друк. арк. 6,45. Ул.-выд. арк. 7,23. Тыраж 7000 экз. Зак. 1456. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Капыловіч І.**

К 20 Сонца садзіцца ў травы: Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 160 с.,— (Першая кніга празаіка).

«Сонца садзіцца ў травы» — першая кніжка маладога празаіка. Яе склалі ў асноўным апавяданні пра сучасную беларускую вёску. Героі апавяданняў Івана Капыловіча — і маладыя, і людзі, якія пражылі немалое і нялёгкае жыццё. Пісьменнік імкнецца ўсвядоміць сённяшні дзень, заглянуць у заўтрашні.

**К** $\frac{70303-220}{М\ 302(05)-78}$ **32—79** **Бел 2**

Іван Капыловіч нарадзіўся ў лютым 1944 года ў вёсцы Забалоцце Мазырскага раёна ў сям'і настаўнікаў.

Скончыў Рамязоўскую сярэднюю школу Ельскага раёна.

Вучыўся на аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Служыў у савецкай арміі, працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».



50 к.